# ГІСТОРЫІ ПРА ЛЮДЗЕЙ



# ЧОРНА-ЧЫРВОНАЯ КНІГА

На пачатку жыццёвых шляхоў малады чалавек вырашыў займець адметную прафесію, вырашыў навучыцца лавіць чорта. Бацькі пакінулі хлопцу вялікую спадчыну, таму сродкаў хапала. Некалькі гадоў малады чалавек шукаў настаўніка, які змог бы навучыць яго перамагаць нячыстага. Нарэшце на далёкім хутары пад Наваградкам знайшоўся стары майстра па ловах чартоў. Адмысловец запатрабаваў вялікія грошы за сваю няпростую навуку. Вучань заплаціў і дзевяць гадоў пражыў на хутары. За гады навучання ён напісаў навуковую працу — Чорна-чырвоную кнігу, у якой падрабязна апісвалася, як злавіць і пакараць шкодную пачвару. Без грошай, але з Чорна-чырвонай кнігаю ды ні з чым не параўнальнымі ведамі мужчына вярнуўся ў сталіцу. У Мінску ён пачаў абыходзіць розныя ўстановы і прадпрыемствы ды прапаноўваць свае ўнікальныя здольнасці і веды, але нідзе адмыслоўцы па ловах чартоў не патрабаваліся. Усе, як адзін, казалі, што пры першым з’яўленні нячыстага адмыслоўцу абавязкова паведамяць і абавязкова паклічуць на дапамогу. Прайшло шмат гадоў, ніхто так і не паклікаў паляўнічага, які перабраўся на далёкі хутар пад Нясвіжам і тамака вёў сціплае паўжабрацкае жыццё. Ён нават быў падумаў, што дарэмна вучыўся перамагаць чорта і дарма напісаў Чорна-чырвоную кнігу, але аднойчы з Мінска прыехаў на хутар малады багаты хлопец, які папрасіў навучыць яго лавіць і перамагаць чорта.

# ЛІЛОВЫ ЧОРТ

Хлопец закахаўся ў дзяўчыну. Моцна закахаўся. Мацней і не бывае. Хадзіў ён за сваёй абранніцай можа з год, а мо і болей. Змучыўся, бо дзяўчына насміхалася з хлопца. Здзекавалася з яго. Нават прымушала зямлю есці. Нібыта толькі так, глытаючы сырыя камякі чорнай зямлі, ён мог давесці яе жорсткаму сэрцу, што кахае па-сапраўднаму. Людзі кпілі з закаханага. Дурнем называлі. Ён трываў. Аднаго разу дзяўчына не прыйшла на спатканне ў прызначаны час. Хлопец так знерваваўся, так спакутаваўся, што вырашыў задавіцца. Дастаў ён з шуфляды маток тоўстай вяроўкі. Выйшаў у сад. Стаў пад яблыняй. Пачаў завязваць пятлю. І ў гэты момант зямля расхінулася. З чорнай глебы вылез Ліловы чорт. «Не так завязваеш! Дай сюды вяроўку! Зараз пакажу!» Хлопец шпурнуў чорту вяроўку і кінуўся ўцякаць. Узмакрэў увесь, але ўцёк. Дурное каханне да жорсткай дзеўкі выйшла тады з хлопца разам з потам.

# ЗАЛАТАЯ МЫШКА

Бывае: кот уздзярэцца на дрэва, а злезці не можа. Мяўкае, жаліцца, просіць дапамогі. Такое здараецца і з дарослымі катамі, і з кацяняткамі. Кацянятка, вядома, шкада болей. Так мой знаёмы — былы спартовец, які трымае карусель у дзіцячым парку на беразе Свіслачы, — расказваў пра сваю шкадобу да чорнага кацяняці. Ішоў ён раніцаю праз парк і пачуў мяўканне. Пайшоў карусельнік на тое слязлівае мяўкан-

не ды зняў каццяня з дзікай грушы, балазе не высока ўзлезла. Зняў, паставіў яго на зямлю і пашыбаваў да сваёй каруселі. Праз тыдзень прыйшло да карусельніка чорнае каццяня і прынесла яму ў зубах Залатую мышку. Паклала мышку каля ног і кажа: «Ты возьмеш сабе Залатую мышку! Як толькі ты яе возьмеш, так адразу станеш шмат ведаць, бо будзеш чуць чужыя думкі. Ты зможаш слухаць чужыя думкі, ажно пакуль не раскажаш пра сваю чароўную здатнасць. Раскажаш — здатнасць прападзе, а мышка ўцячэ!» Толькі карусельнік ўзяў з зямлі Залатую мышку, як пачуў чорную думку чорнага каццяняці. Каццяня прагла як хутчэй развітацца з карусельнікам і пайсці ўпаляваць птушачку-сінічку. За расчараваннем у каццяняці прыйшло і расчараванне ў людзях. Большасць людзей была перапоўненая думаннем пра падманы, здрады, пра блюзнерства, зладзейства і нават пра забойства. Дзякучы ведам ад Залатой мышкі, свет карусельніка счарнеў ушчэнт. Карусельнік пакутаваў, пакуль не пайшоў да дзікай грушы, на якой некалі сядзела чорнае каццяня. Ён расказаў дрэву пра сваю здатнасць чуць чужыя думкі. Расказаў — і здатнасць знікла, а Залатая мышка ўцякла.

## ЖОЎТАЯ ЗАПАЛЬНІЧКА

Калі ёсць стрэльба, дык і стрэл грымне. Хаця б адзін раз за сваё збройнае жыццё стрэльба сама страляе. Так і з маленькімі простымі запальнічкамі цуды здараюцца. Ёсць запальнічка, дык і агеньчык успыхне. Загарыцца агень-

чык радасна, бо яму задушліва ў глыбінях запальнічкі сядзець. Не сакрэт — агеньчык любіць паветра. Без паветра агеньчыку змрочна і цяжка. Таму і выходзіць агеньчык з запальнічкі на прагулянку. Мне знаёмы пажарны — Браніслаў Смаляк — расказваў, што была ў яго Жоўтая запальнічка. Штоночы з той запальніцы выходзіў вогненны пялёстак і лётаў па ўсёй кватэры. Смаляк той пялёстак вогненны шанаваў, размаўляў з ім толькі паважна і толькі шэптам. Карацей, у Браніслава і Жоўтай запальнічкі склаліся выдатныя стасункі. Але аднаго разу Смаляк забыў сваю запальнічку на працы, у гаражы з пажарнымі машынамі, што на Чырвонай. Нейкі ёлуп з пажарных убачыў, як выходзіць на прагулянку агеньчык з Жоўтай запальніцы. Пачаў ёлуп крычаць. Сам напалохаўся і напужаў агеньчык. Той зачапіўся за сметніцу, са сметніцы скочыў на стол з паперамі. Нарабіў шкоды. Аёй-аёй! Пакуль паспеў ёлуп вогнетушыльнік прынесці, згарэла шмат чаго і Жоўтая запальнічка згарэла. Так мне Смаляк казаў.

## БЕЛАЕ ВУХА

У Мінску ў раёне Курасоўшчына жыла дурнаватая Волечка. Яе ратавала дабрыня. Таму ўзялі яе ў брыгаду дворнікаў. Увосень лісце змятаць, узімку снег са сцежак прыбіраць. Добрая Волечка паслухмяна выконвала найцяжэйшую ды найбруднейшую работу. Ад Волечкі ўсе і пачулі дзівосны аповед пра Белае вуха. Здарылася тое дзіва напярэдадні Калядаў. Устала яна рана.

Апранулася цёпла. Надзела валёнкі і светлы кажушок з накладнымі кішэнямі. Паверх кажушка нацягнула форменную памаранчавую камізэльку. У белай шапачцы з пухнатымі кутасамі Воля выглядала, як ёлачная цацка-лялька. Снегу ў той год насыпалася багата. Толькі Воля стала на сваю сцежку, толькі ўвагнала шырозны фанерны шуфель у снег, як пабачыла артыста. Такіх артыстаў Волечка раней бачыла толькі ў тэлевізарах. Артыст дастаў з кішэні калоду карт і запрасіў дурнаватую дзеўку згуляць. Волечка пагадзілася. Артыст завёў сваю новую цацачна-лялечную знаёмую ў высокі дом, дзе ў вялікай кватэры яны селі за круглы стол. Згулялася толькі адна партыя ў «дурня». Згулялася яна на вуха. Хто прайграе, той і адразае сабе вуха. Артыст выйграў і прынёс дурной Вользе добра навостраны нож. Тая спакойна і акуратна адрэзала сваё левае Белае вуха і перадала яго артысту. Той схапіў выйгрыш, стаў свінаносым чортам, напусціў вакол сябе смуродлівага дыму і праваліўся пад падлогу. Дурная Волечка таксама правалілася. Яна правалілася ў густую цемру, а прахапілася на той самай вуліцы, дзе пакінула загнаны ў снег шуфель. Вядома, нават дурнаваты не паверыў бы ў гэтую гісторыю, каб не адна дэталь. На светлым кажушку ў добрай Волечкі не было левай кішэні, яе акуратна адрэзалі.

## БЕЛЫ ВЕЛІКАН

У дзяцінстве мне хацелася спаткацца з веліканам. Я столькі ўсялякіх разумных кніжак прачытаў пра розных замежных веліканаў,

а пра нашых, тутэйшых, мясцовых зусім мала панарасказвалі, паназапісвалі і панапісалі. Быццам і былі нейкія, але даўно. Нібыта іх і бачылі, але здалёк. Таму і вырашыў я велікана нашага, беларускага, свайго абавязкова знайсці. Калі ў іншых ёсць, чаму ў нас няма? Не шукалі! Думаеш, не знайшоў? Знайшоў. Непадалёк ад мястэчка Друя, калі прайсці кіламетры тры па беразе Дзвіны супраць яе плыні, ёсць пакручасты пагорак з назваю Святы. Трэба на золку, у туманную раніцу бабінага лета стаць на самай вяршыні таго пагорка. Адтуль і можна пабачыць велікана. Ён паўстае з глыбіняў Дзвіны, увесь вылеплены з густога туману. Ён праходзіць па сярэдзіне рэчкі ад Святога пагорка да самай Друі. Там, на месцы, дзе некалі хадзіў паром, велікан зноў сыходзіць пад ваду. Сыходзіць на ўсю зіму, на ўвесь год, каб зноў паўстаць на золку, у апошні цёплы дзень бабінага лета... Пра Белага велікана я пачуў ад краязнаўца Віктора з Міёраў. Пачуў і запісаў. Яшчэ Віктар казаў, што ў велікана ёсць імя, і ён нават адгукаецца на яго — Вук.

## БРУНАТНЫ ПІНЖАК

Толькі падаецца, што добры пінжак лёгка набыць. Ты пахадзі, ты пагуляй па крамах. Папрыглядайся. Пабачыш: добрых пінжакоў мала. А каб так было, што глянуў, і ён адразу твой, — не дачакаешся. Можа пашанцаваць, але ж каму з нас калі шанцавала? Таму я цудоўна зразумеў радасць Яўгена Дука, які набыў сабе дарагі англельскі кашміровы пінжак. Брунатны пінжак

сядзеў выдатна і надаваў Яўгену пераканаўчай грунтоўнасці. У такім пінжаку не сорамна і ў кабінеце міністра лёгкай прамысловасці кавы выпіць. Ну не мог я не пахваліць абнову. Пахваліў і пачуў дзіўную гісторыю... У новым пінжаку Яўген наведаўся ў бар гатэля «Мінск». Замовіў каву з каньяком, сеў каля вітрыннага вакна і пачаў разглядаць пляц Незалежнасці з чырвоным касцёлам ды шэрым домам ураду. «Выдатны пінжак!» — пачуў Дук за плячыма чужы голас. «Я з табой хіба знаёмы?» — нахабна папытаўся самаўпэўненны Яўген. «Можам пазнаёміцца...» Чаму Дук пагадзіўся пазнаёміцца і выпіць? Чаму Дук замочваў абнову з чужым чалавекам да самай ночы? Чаму піў каньяк з рыльца ў скверы, пад помнікам Янку Купалу? Каб ён сам ведаў! Знаёміўся, піў і, што самае дурное, памяняўся з незнаёмцам пінжакамі. Дук аддаў Брунатны і атрымаў летні палатняны, пакамечаны і зусім танны сэкандхэндаўскі пінжачок. Гэты чортаў пінжачок ён кінуў на падлозе і zаваліўся спаць. Калі прачнуўся, тады і пазадаваў сабе процьму брыдкіх і цяжкіх безадказных пытанняў. Ну чаму на месцы, дзе павінен быў ляжаць выменяны пакамечаны пінжачок, валялася брудная ануча, якой гады тры нехта мыў падлогу ў нейкім грамадскім месцы? Дук ледзь не заплакаў, пабачыўшы старую, выцвілую да сівізны, скамечаную анучу. З анучай у папяровым пакеце ён і паваloкся ў сквер, пад помнік Купалу. На што разлічваў? На цуд? Вядома, на цуд. Больш ніякіх спадзеваў і не было. Цуд здарыўся: на лаўцы ляжаў Брунатны пінжак, а побач з ім стаяла амаль поўная бутэлька піва. Яўген Дук паклаў пад лаўку пакунак з анучай, надзеў свой Брунат-

ны пінжак і выпіў сваё набытае пасярод ночы піва. Толькі здаецца, што чорт можа табе нешта добрае зрабіць, а насамрэч ён лянуецца дарабіць кепскасць, і праз гэта чалавек можа атрымаць трохі радасці.

## ЗЯЛЁНЫЯ СУНІЦЫ

У паштаркі Паўліны хварэла сярэдзіна. Больш дакладна паштарка нічога не магла сказаць пра хваробу. Боль рэзаў напалам. Боль ірваў яе паміж страўнікам і похваю. Жанчыну нечакана скручвала на якую хвіліну, а потым раптоўна адпускала. Дактары казалі: нешта нейкае з кішэчнікам не так. А што там з тымі кішкамі не ў парадку? Самі не ведалі. Куды толькі пакутніца ні хадзіла ды ні ездзіла! Паўсюль пабыла, ва ўсіх папыталася. З-за гэтай хваробы Паўліна азлілася на свет. Сварылася на ўсіх безнагодна. Скаргі пісала гнюсныя ды ілжывыя. Як яна да іншых, так і людзі да яе. Паўліну, мусіць, і з пошты выгналі б, каб яна не знайшла лекі для сваёй хворай сярэдзіны. Пра лекі яна пачула выпадкова, едучы ў цягніку Мінск-Ворша. Адна старая расказвала, што ад хворай сярэдзіны жанчынам дапамагаюць Зялёныя суніцы з чужой магілы. Бо калі ў магіле ляжыць нехта блізкі, з такой зямлі лепей ягады не браць, не дапамогуць і горшай шкоды наробяць. Паўліна вырашыла рызыкнуць. Знайшла на могілках сунічнік. Назбірала жменьку цвёрдых ягадак і зжавала іх. Быў сонечны, цёплы, духмяны дзень. У Паўліны раптам закруцілася галава, і яна легла проста

на траву паміж крыжамі. Прылегла і заснула. Жанчыне прыснілася смерць. Яна падышла да Паўліны, стала над ёй і сказала: «Харошая ты пташка, Паўліна, але сёння я цябе не забяру ў свой сад!» Сказала так і прапала. Паўліна прахапілася ад сну. Навокал панавала халодная, цёмная, бяззорная ноч. Жанчына прыбегла дамоў і мусіць гадзіну прасядзела пад гарачым душам. Самае добрае ў гэтай могілкавай гісторыі — цудоўнае пазбаўленне ад хваробы. Сваю змучаную сярэдзіну Паўліна Зялёнымі суніцамі ўсё ж вылекавала.

## ЧОРНАЯ КНІГА З БЕЛЫМІ ЛІТАРАМІ

У Лондане пад мостам мастак набыў Чорную кнігу з белымі літарамі і прывёз яе ў Мінск. Прынёс ён кнігу ў майстэрню, разгарнуў і прачытаў: «Прыйдзе Відзьма-нявідзьма і паробіць усю работу!» Толькі мастак прачытаў гэты сказ, як з'явіўся волат Відзьма-нявідзьма і запатрабаваў сабе работы. Мастак папрасіў волата прыбраць майстэрню. Праз імгненне майстэрня ззяла чысцінёю, нібыта ў ёй толькі што зрабілі еўрарамонт. Мастак загадаў зрабіць прыборку ў сталіцы, а пазней і ва ўсёй Беларусі. Волат зрабіў. Мастак крыху напружыўся, можна нават сказаць — напужаўся. Таму і вырашыў даць волату работу, якую нельга зрабіць. Мастак пусціў з крана ваду і загадаў са струменя скруціць вяроўку. Волат і так круціў струмень і гэтак круціў, змогся, але вяроўкі зрабіць не змог. Стомлены волат папрасіў літасці

ў мастака, і той дазволіў яму вярнуцца ў Чорную кнігу з белымі літарамі да тых часоў, калі трэба будзе зноў павыграбаць смецце з вялікіх і малых будынкаў.

## ШЭРЫ САБАКА

У маім квартале ёсць дом з вежай, а на той вежы стаіць высокі шпіль. На першым паверсе таго дома, што на вуліцы Чырвонай, — цукерачная крама, а на другім жыла чараўніца — жудасная вядзьмарка. Аднаго разу яна мясцовага алкаголіка ператварыла ў сабаку. Здарылася тое ў жніўні. Спякота стаяла жахлівая. Нават уначы было горача і цяжка. Таму ўсе і адчынялі вокны наросцяж. Спалі з адчыненымі вокнамі. Спалі, хто мог спаць. Вядзьмарка доўга не магла заснуць, а як толькі заснула, тут жа і прахапілася, бо якраз пад яе вакном мясцовыя алкаголікі селі на ганак цукерачнай крамы і пачалі выпіваць. Яны папівалі віно, гучна гаманілі і смяяліся. Вядзьмарка паспрабавала іх прагнаць, а яны ад віна абнахабіліся, аблаялі яе і аббрахалі. Тут яна і абярнула самага брахлівага п'янтоса ў Шэрага сабаку. Два другіх п'яніцы на якую хвіліну мову страцілі, а калі здатнасць гаварыць да іх вярнулася, пачалі маліць-прасіць вядзьмарку, каб Шэрага сабачку вярнула ў чалавечае аблічча. Яна, канешне, паспрабавала з брахлівага стварэння чары зняць, ды ў яе не атрымалася. Шэры сабака зрабіўся кацянём, кацянё перарабілася ў мыш, мыш стала мухаю, а муха дзынкнула адзін раз і рассыпалася ў пыл. П'яніцы паўцякалі, нават

бутэльку недапітую пад цукерачнай крамаю пакінулі. А вядзьмарка легла і праспала ў цішыні да самай ружовай раніцы, ажно пакуль сонца не асвяціла ўвесь высокі шпіль.

## БЕЛАЯ РУСАЛКА

Русалка ўпадабала аднаго маладзёна. Ад моцных пачуццяў яна вырашыла яго заказытаць. Як толькі малады мужчына засынаў, русалка прылятала да яго ў кватэру на бульвар Шаўчэнкі, клалася побач і пачынала яго лашчыць, песціць і паказытваць. Калі мужчына прачынаўся, русалка імгненна ўцякала. Ён так напакутаваўся ад русалчыных казытлівых любошчаў, што пайшоў да ведзьмака. Той быў вядомы на ўсю сталіцу, шмат чараваў, зарабляў многа і меў цэлы трохпавярховы дом у зацішным завулку Скарыны. Вядзьмак доўга распытваў мужчыну і сказаў, што русалку трэба злавіць, паланіць і прымусіць працаваць па гаспадарцы. Дзеля гэтага давядзецца не спаць да сярдзіны ночы, потым пазатыкаць гумовымі коркамі і пазаклейваць скотчам усе водаправодныя адтуліны ў ваннай і на кухні, а яшчэ ва ўсе замкі паўстаўляць ключы. Аперацыю трэба загадзя падрыхтаваць і правесці ў поўнай цемры ды цішыні, а потым неабходна запаліць усе кватэрныя лямпы і лямпачкі. Мужчына падрыхтаваўся і зрабіў усё, як параіў вядзьмак. Запаліўшы лямпы і лямпачкі, ён убачыў у сваім ложку аголеную прыгажуню — Белую русалку. Тая паспрабавала ўцячы, але не змагла, пагойсала па кватэры і вярнулася ў ложак, залезла пад коўдру з галавою, сцішылася

і заплакала. Толькі пад раніцу русалка перастала плакаць. Мужчына прынёс ёй спартовую вопратку. Так русалка засталася ў яго жыць. Яна была такая прывабная і добрая, што мужчына з ёю ажаніўся. Падчас сціплага вяселля, на якім былі толькі жаніх і нявеста, русалка напаіла мужа віном. Моцным віном русалка моцна напаіла свайго маладога. А калі жаніх захмялеў, спытала, як яму ўдалося яе паланіць. Вядзьмак, зразумела, папярэджваў кліента, што русалка паспрабуе даведацца пра канструкцыю пасткі і будзе з яе выбірацца. Мужчына не хацеў казаць праўду пра коркі і ключы. Не хацеў, але моцнае віно развязала ягоны язык. Ён сказаў Белай русалцы і пра ключы ў замках, і пра гумовыя коркі ў адтулінах. Толькі сказаў, як голая русалка выскачыла з ложка, падбегла да дзвярэй, выцягнула ключ з замка і ўцякла прэч праз замочную шчыліну. Людзі з бульвара Шаўчэнкі нават бачылі, як Белая русалка ляцела над вуліцай у бок Камсамольскага возера.

## ЧЫРВОНЫЯ ПЛЯМІНКІ

У краме «Карона» да хлопца падышла дзяўчына і прапанавала выпіць па келіху чырвонага віна ў кавярні «Амстэрдам». Хлопец здзівіўся, але не адмовіўся. Дзяўчына замовіла віно. Выпілі. Яна разлічылася і папрасіла хлопца крыху пагуляць з ёй па вечаровай сталіцы. Маладыя людзі прайшлі праз мост у накірунку Кальварыі. Каля могілак хлопец захваляваўся, папрасіў прабачэння, развітаўся і пакінуў дзяўчыну. У час развітання ён пацалаваў яе ў шчаку. Дзяўчына

ажно здрыганулася, такі пякуча-ледзяны быў дотык чужых вуснаў. Хлопец накіраваўся да могілкавай брамы і знік за ёй. Дзяўчына пайшла за хлопцам і пабачыла, як той расхінуў жалезныя дзверы, зайшоў у старую капліцу і там зачыніўся. Здарылася тое, як вядома, увечары, а раніцай дзяўчына знайшла на Кальварыі вартаўніка і папрасіла адчыніць неагатычную капліцу. Вартаўнік за бутэльку гарэлкі пагадзіўся прагуляцца па могілках. У капліцы пахла свежай зямлёю. Пасярод незасыпанай магілы стаяла новая труна. Вартаўнік прыўзняў века. Дзяўчына пабачыла хлопца, з якім надоечы піла чырвонае віно ў «Амстэрдаме». На белай манжэце яго святочнай кашулі цямнелі вінныя плямкі. Калі ўчора яны пілі за знаёмства і чокаліся, некалькі вінных кропель патрапілі на манжэту. Пабачыўшы Чырвоныя плямінкі, дзяўчына так перапужалася, што пераехала з Мінска ў Вільню, каб больш ніколі нават выпадкова не сустрэцца з маладым нябожчыкам.

## ЧЫРВОНЫ КІНАТЭАТР

Некалі ў Мінску на вуліцы Харкаўскай стаяў клуб, дзе кожную суботу ладзіліся танцы. У той клуб сцякалася моладзь з усяго раёна. Нават з вуліцы Апанскага ды вуліцы Альшэўскага хлопцы падыходзілі на Харкаўскую. А шлях іх ляжаў каля Кальварыйскіх могілак. Два хлопцы з маёй дзявятай школы — Сяргей Бурак ды Вова Дрожын — кіраваліся на танцы. Яны спяшаліся, бо заседзеліся ў кафэ «Рабінка». Каб хутчэй трапіць у клуб, хлопцы не сталі абыходзіць старыя

могілкі, а пайшлі праз іх. Хлопцы ішлі подбегам, а таму і не заўважылі, як, ідучы па крывой сцяжынцы, наступілі на стары капец. Зайшлі яны на могілкі ўдвох, а выйшлі ўтрох. Бурак з Дрожыным, вядома, пабачылі, што побач з імі крочыць трэці, але вырашылі маўчаць. Так яны і прыйшлі моўчкі ў клуб. Настрою танцаваць у хлопцаў ужо не было, бо невядомы паўсюль хадзіў за імі. Вова і Сяргей выйшлі з танцаў, за клубам выпілі прынесеную бутэльку віна. Выпілі яе на трох, бо прапанавалі глыток хлопцу, які прычапіўся на Кальварыі. Хлопец узрадаваўся, выпіў, захмялеў і прапанаваў шчодрым людзям схадзіць з ім на іншыя танцы. Бурак пачаў быў адмаўляцца, але Дрожын яго ўгаварыў, і яны рушылі праз начны Мінск услед за новым знаёмым. Неўзабаве той прывёў іх у вялікі Чырвоны кінатэатр, дзе ў фае граў спраўны ансамблік. Публікі назбіралася не так каб і многа, але ўсе былі апранутыя па-святочнаму і мелі цудоўны настрой. Дрожын і Бурак пачалі танцаваць. Яны танчылі ўсе хуткія і ўсе павольныя танцы, якія ў нас на раёне называлі «медлякамі». Хлопцы танчылі несупынна і не заўважалі, як ляціць час. Калі ж Бурак і Дрожын стаміліся і, падзякаваўшы новаму знаёмаму за гасціннасць, выйшлі з кінатэатра, на вуліцы быў ясны дзень. Толькі гэта быў не наступны дзень, як падумалі Уладзімір Дрожын і Сяргей Бурак, гэта быў дзень, які для ўсіх астатніх людзей надышоў праз адзінаццаць гадоў. Бурак і Дрожын пратанцавалі з нябожчыкамі адзінаццаць гадоў. Добра сабе так патанцавалі, паскакалі, пакруціліся. У дзявятую школу хлопцы не вярнуліся, давучваліся ў вечаровай школцы для працоўнай моладзі,

а потым з’ехалі з Мінска. Каму прыемна, калі зноў і зноў пра цябе кажуць: «Ён танцуе з мерцьвякамі!»

## ШЭРАЯ ЧАРКА

Адбылося тое, пра што тут апавядаецца, у Мінску на Дзяды. Жанчына пайшла адведаць магілу мужа, які трынаццаты год адпачывае на Паўночных могілках пад шэрым каменным шурпатым крыжам. Дзяцей у жанчыны не было, таму помнік мужу, разам з якім сыходзіла ў зямлю і прозвішча, быў зроблены ў выглядзе дрэва з паабразанымі каля самага камля галінамі. Над крываватым каменным камлём шарэў і невялікі крыж. Жанчына прынесла мужу-нябожчыку пачастунак — пляшку гарэлкі. Дастала дзве чаркі, адну поўную паставіла пад помнік, на зямлю, а з другой паціху, седзячы на лавачцы, выпіла ўсю бутэльку. Ап’янеўшы, жанчына крыху паплакала над сваім лёсам і сабралася была сыходзіць, але з каменага крыжа высунулася каменная рука з Шэрай, чаркай поўнай духмянай гарэлкі. Удава ўзяла Шэрую чарку і выпіла пачастунак. Выпіла і павалілася мёртвая пад каменны камель з абрэзанымі галін.

## ШЭРЫ ДЫМ

Мужчына стаяў на гаўбцы, пазіраў на цёмны Мінск і курыў «Мальбара» з чырвонага пачака. Шэры дым плыў па сталічных праспектах,

плошчах і вуліцах. Гарэлі тарфянікі і лясы. Пачатак лета выдаўся сухі, ветраны і спякотны. У лясах забаранілі раскладаць вогнішчы, але лясы ўсё адно загарэліся, за лясамі закурodымілі балоты. Шэры дым запоўз у вёскі, мястэчкі, гарады. Ад яго каламуціліся краявіды, чырванелі вочы і біў кашаль. Уночы з’яўляўся слабкі халадок, але і ён не цешыў змучаны гарачынёю народ. Мужчына ледзь датрываў да адпачынка. Увечары ён выклікаў таксоўку, што ранкам мусіла завезці яго з дачкою ў аэрапорт. Яны планавалі даляцець да Сухумі, адтуль даехаць аўтобусам да Піцунды і цэлы месяц адпачываць пад высознымі хвоямі на беразе чыстага мора. Тры месяцы мужчына марыў пра сустрэчу з лагодным морам. Перад сном ён мора ўяўляў. Вялікае, спакойнае, празрыстае мора. Нават уяўнае мора супакойвае. Цяпер мужчына хваляваўся і курыў адну цыгарэту за другой. Ён пачуў з радыё, што ў Абхазіі распачалася вайна. Ён не паверыў навіне. Праз кожную гадзіну мужчына праслухоўваў навіны. Халодны голас зноўку казаў, што ў Абхазіі пачалася вайна з грузінамі. Абхазы паўсталі супраць Грузіі. За ноч мужчына скурыў цэлы пачак «Мальбара». Яму вельмі хацелася далучыцца да паўстанцаў. Праглася прыляцець у Сухумі і разам з абхазамі ды чачэнамі вызваліць шматпакутную Абхазію. Раніцай мужчына не стаў будзіць дачку, калі пад гаўбцом спынілася таксоўка. Мужчына заплаціў шафёру за памылковы выклік і вярнуўся дамоў. Золак у той дзень быў дымна-шэры. У такія шэрадымныя золкі і пачынаюцца войны. Мужчына пабудзіў дачку, і яны паехалі на рэчку Іслач

купацца. Вада ў рэчцы плыла ледзяная. Навокал стаяла сцяна Шэрага дыму. У гэтым Шэрым дыме гарэла і згарэла адна з самых вялікіх у свеце імперый.

## ЗАЛАТАЯ КРЭДЫТКА

Камуністы кажуць: надыдзе час, калі грошы знікнуць. Ага! Раней камунякі квакталі, што безграшовы час прыйдзе неўзабаве. Квактуны праквакталі свае жыцці, незабава працягваецца, а светлы час татальнага безграшоўя так і не надышоў. Грошай заўжды мала, капейчыны паўсюль не хапае, любоў да рубля — грэх... Толькі без іх не атрымліваецца ні жыць, ні любіць, ні квактаць пра будучыню, нават у чырванатварых ад перманетнага п'янства камуніздаў з камуняздамі не атрымліваецца. За «так» не наліваюць! Таму можаш уявіць, як я не па-дзіцячы ўзрадаваўся, калі чырвананосы Дзед Адмароз падарыў мне на Новы год Залатую крэдытку. Так і было! Вер! Я сумаваў каля маленечкай елачкі. Прыбраная цацкамі, паабчапляная лямпачкамі, узнагароджаная шкляной зоркаю мая штучная ялінка цешыла вока. Я піў і цешыўся. Тут і зайшоў Дзед Адмароз у чырвоным каптане. Зайшоў выпіў «штрафную», бо спазніўся, бо прыйшоў не а дванаццатай, а ажно а трэцяй гадзіне ночы. Выпілі мы, і ён падарыў мне Залатую крэдытку. Сказаў, што магу жыць, як пры камунізме, магу працаваць адпаведна здольнасцям, а набываць усяго столькі, колькі спатрэбіцца. Адна ўмова... Адна... Адна адзіная... Не трын-дзець! Трэба, каб пра Залатую крэдытку ніхто нічога не ведаў.

Мяне надоўга не хапіла. Дацягнуў да нашага праваслаўнага старога Новага года і прантрындзеўся. Напіўся з сябрунамі пад гастраномам «Цэнтральны». Яны пацікавіліся, на якія шышы гуляем. Мелі права пацікавіцца. Я заўжды цікаўлюся, за які такі рубель п'ю. Таму і расказаў пра Дзеда Адмароза і цудоўны крэдыт. Ніхто не паверыў, бо Залатая крэдытка, ліха на яе маці, перастала разлічвацца.

## ЖОЎТЫ ПІНЖАК

Ёсць у Мінску мужчынскі кравец, вялікі майстра шыць пінжакі. Вядома, калі навокал гурбы гатовага адзення, краўцу жывецца не так каб і соладка. Але прырода апякуецца краўцамі. Яна лепіць нестандартныя чалавечыя экзэмпляры. Некаму рукі да каленяў выцягне. Камусьці зробіць дупу ўдвая шырэйшую за плечы. Хтосьці атрымае ад яе куртатыя ногі. Тут і патрабуецца кравец. Ён так спрытна абаўе нестандартную паставу featureрознымі тканінамі, што прыродныя заганы зробяцца нябачнымі. Ёсць! Ёсць і ў нас такія майстры. Адзін такі — Ян Навіцкі — жыве насупраць Камароўкі. Кожную нядзелю ён выпівае некалькі чарак гарэлкі ў кавярні «Акварыум». Там я і пачуў ягоную гісторыю пра Жоўты пінжак. Вядомы на ўсю Беларусь бізнесовец Іван Старыкевіч вырашыў пашыць сабе Жоўты пінжак. Пінжакоў у таго заможнага капіталіста было шмат, але ў юнацтве ён пабачыў у амерыканскім часопісе Жоўты пінжак і вырашыў, што некалі абавязкова атрымае яго сабе ў гардэроб. Вырашыць вырашыў,

але ўсё не было часу мару сваю запаветную здзейсніць. Так бы і пражыў Іван без Жоўтага пінжака, каб зноў не пабачыў яго ў новым амерыканскім фільме пра старыя часы. З фільмам на флэшцы і жоўтым матэрыялам у пакеце бізнесовец Старыкевіч прыйшоў да краўца Навіцкага, прыйшоў да найлепшага мужчынскага краўца. Ян узяў замову, атрымаў ад Івана аванс і пачаў працу. Бізнесовец, хай цяпер яму ў раі складаецца добрая банкаўская гісторыя, разбіўся на матацыкле. Заехаў у сцяну. Як так атрымалася? Каб хто растлумачыў. Цвярозы, ехаў і заехаў у цагляную сцяну. Смерць на месцы. Ян Навіцкі, ясная справа, працу над Жоўтым пінжаком спыніў. Паклаў недашыты пінжак у папяровы пакет і засунуў той пакет на самую высокую паліцу свайго працоўнага стэлажа. Уночы да краўца прыйшоў замоўцанябожчык і запатрабаваў неадкладна дашыць Жоўты пінжак. Навіцкі сваю работу любіць. Трэба ўстаць пасярод ночы і дарабіць пачатае? Устане і даробіць. Замоўца заўжды мае рацыю. Пад раніцу Іван Старыкевіч выйшаў з атэлье Яна Навіцкага ў выдатным Жоўтым пінжаку. З той ночы і пачаў лётаць па Мінску на грукатлівым матацыкле нябожчык у Жоўтым пінжаку. Лётаў ён глыбокімі начамі, людзям спаць не даваў і так усім надакучыў, што давялося раскопваць магілу, адразаць Івану Старыкевічу галаву і класці пад ногі. Такі зомбі не можа падняцца з магілы датуль, пакуль галава ягоная ў нагах ляжыць. Мужчыны, што адразалі і перакладалі бізнесоўцу галаву, выказалі сваё захапленне Жоўтым пінжаком. Некаторыя нават пазамаўлялі ў Яна Навіцкага падобныя

пінжакі. Ён іх пашыў, толькі з іншай тканіны, бо такой, як была ў Івана Старыкевіча, ніхто дастаць не змог.

## ЧЫРВОНАЕ ДАМІНО

Дырэктар ЦУМа вырашыў шукаць сабе новага начнога вартаўніка, бо ранейшыя шторазнапіваліся. Тым часам у магазіне завялася нячыстая сіла. Штоноч розныя рэчы псаваліся ды раскідваліся па падлозе. Дырэктар абвясціў кастынг. Калі хлопцы даведваліся пра перспектыву начнога змагання з нячысцікамі, дык адразу ж адмаўляліся ад такой працы, нават на вялікія грошы не спакушаліся. Толькі адзін маладзён — Жэнік Рэпа — пагадзіўся праз тыдзень пайсці вайною на чорную сілу. Раніцай Яўген узяў сваю старую салдацкую форму і занёс яе на Вайсковыя могілкі, дзе і закапаў у тлустую зямлю. Форма праляжала ў могілкавай зямлі шэсць дзён і шэсць начэй. На сёмы дзень Рэпа надзеў яе і пайшоў у ЦУМ. Пасярод ночы, калі астатнія вартаўнікі моцна спалі і бачылі хмельныя сны, Жэнік пачуў галасы. Пайшоў Рэпа на іх і пабачыў жывых нябожчыкаў. Тыя паставілі пасярод крамы стол з крэсламі ды селі гуляць у Чырвонае даміно. Вартаўнік папрасіў жывых нябожчыкаў, каб і яго прынялі ў гульню і дазволілі пагуляць на грошы. Нябожчыкі абнюхалі вартаўніка, пачулі свой земляны могілкавы салодкі дух і прызналі Жэніка Рэпу за свайго чалавека. Пачалася гульня. Колькі ні гулялі ў тую доўгую ноч, а ўсе ўвесь час прайгравалі Яўгену. Праз пару гадзін нябожчыкі прайграліся дарэшты.

Яны прайгралі нават сваё права прыходзіць у ЦУМ. Атрымаўшы ганебную паразу, нябожчыкі сышлі. Нават сваё Чырвонае даміно пакінулі на стале. Яно і зараз захоўваецца ў ЦУМе, ляжыць у дырэктарскім кабінеце. За дырэктара там працуе... Правільна! За дырэктара цяпер працуе спадар Яўген Рэпа, паважаны чалавек.

## БЛАКІТНАЯ РУСАЛКА

У возеры Нарач завялася Блакітная русалка. Шмат хто яе бачыў. Яна свяцілася ў цемры халодным месяцовым святлом. Нарачанцы нават любілі сваю русалку. Любілі, пакуль яна не заказытала хлопчыка з дзіцячага лагера «Зубронак». Заказытала хлопца да смерці, кінула ў чароце і схавалася ў азёрныя глыбіні. Нарачанцы злавілі Блакітную русалку электратралам, пасеклі яе на кавалкі і спалілі ў вялікім вогнішчы. Хто ж гэта ў наш час дазволіць дзіця заказытаць беспакарана?

## ЗЯЛЁНАЯ КВЕТКА

Красуе ў Беларусі Зялёная кветка. Часам яе называюць і папарaць-кветкаю. Цвіце наша Зялёная кветка адзін раз на год. Цвіце ўлетку, на Купалле, пасярод ночы. Зазвычай чароўную кветку шукаюць глыбока ў лесе ці ў вялікай пушчы. А мне добрыя людзі расказалі пра Зялёную кветку, знойдзеную ў горадзе. Знайшла яе простая жанчына. Знайшла каля канцэртнай залы «Мінск». Ішла жанчына з канцэрта праз

мост, ішла над Свіслаччу і пабачыла пад вербамі, каля самай вады, зялёны агеньчык. Спусцілася да рэчкі і сарвала там Зялёную кветку. Як толькі ўзяла яна ў рукі Зялёную кветку, дык адразу свет навокал пераманіўся. Свет стаў празрысты. У новым празрыстым свеце жанчына і пабачыла скарб — вялікі алюміневы бідончык, поўны залатых манет. Той бідончык быў закапаны пад аркай на стадыёне «Дынама». Жанчына ўзрадавалася і пабегла дамоў па рыдлёўку. Балазе жыла яна побач са стадыёнам. Дома яна ўзяла рыдлёўку і пакінула Зялёную кветку. Калі жанчына з рыдлёўкай прыбегла пад стадыён, дык зразумела, што страціла чароўную здатнасць бачыць скрозь сцены. Бідончык з золатам жанчына не знайшла. Шукаць пашукала, але не знайшла. Вярнулася дамоў і пабачыла завялую, пачарнелую, мёртвую кветку. Жанчына хацела ўзяць яе і пакласці ў ваду, але ад лёгкага дотыку кветка рассыпалася на шэры пыл.

## ШЭРЫ ЗАПЛЕЧНІК

Студэнт прыехаў з мястэчка ў сталіцу. Ён пайшоў праз ярка асветлены чыгуначны вакзал. Падстольны сухі жаночы голас папярэджваў пасажыраў, каб яны былі пільныя, уважліва глядзелі навокал, каб пры знаходжанні нічыйных ці падазроных рэчаў абавязкова выклікалі праваахоўнікаў. Студэнт заўважыў нічыйны Шэры заплечнік. Ён падышоў да знаходкі і нахіліўся, каб як мага лепей разгледзець стыльны і новы дарагі заплечнік. Як толькі студэнт схіліў-

ся, Шэры заплечнік ускочыў яму на спіну. Студэнт паспрабаваў скінуць заплечнік, але не змог. Ён хацеў крыкнуць, хацеў гукнуць каго на дапамогу, хацеў паскардзіцца на Шэры заплечнік, але голаса ў студэнта не было. Голас прапаў. Тады студэнт вырашыў вынесці Шэры заплечнік з люднага месца. Вынесці яго з асветленага вакзала, занесці ў цёмны бязлюдны халодны сквер і тамака працягнуць барацьбу з Шэрым заплечнікам. Студэнт пайшоў, пайшоў подбегам, шпарка-шпарка пайшоў. Заплечнік быў цяжкі, ён усё цяжэў і цяжэў, нарэшце стаў такі цяжкі, што студэнт спыніўся. Ён выцер успатнелы лоб і зірнуў на гадзіннік, што чарнеў на прывакзальнай вежы. На тым гадзінніку было шэсць гадзін раніцы. Студэнт падумаў, што ўсю ноч нёс Шэры заплечнік. І толькі ён сказаў сам сабе, што нёс чортаў заплечнік усю ноч навылёт, як адчуў палёгку. Шэры заплечнік прапаў, як і не было. Студэнт заплакаў ад радасці.

## ШЭРАЯ СТРЭЛЬБА

Мужчына вырашыў схадзіць на паляванне. Не тое каб сам узяў ды вырашыў, а яго запрасілі, і ён даў згоду. Што за паляванне без уласнай стрэльбы? Таму мужчына пайшоў да аднаго ўжо зусім старога знаёмага і выкупіў у таго Шэрую стрэльбу разам з ладуннікам ды рознай іншай паляўнічай амуніцыяй. Стары спытаў, каго хоча ўпаляваць мужчына, і пачуў пра ваўка. «Добра, ваўка дык ваўка, упалюеш ты свайго ваўка!» — сказаў стары перад развітаннем. Ня-

дзельнай раніцаю мужчына разам з іншымі паляўнічымі паехаў з Мінска ў Бярэзінскі запаведнік, дзе мелася адбыцца паляванне на ваўкоў. У запаведніку мужчына вырашыў пасля дарогі крыху прайсціся каля рэчкі. Адышоў ён ад гурта паляўнічых і пабачыў старога, у якога Шэрую стрэльбу прыдбаў. Стары дзед ішоў уздоўж Беразіны з пугай у руцэ. Той доўгай пугаю ён гнаў паперадзе сябе зграю вялікіх ваўкоў. Ваўчыная зграя ішла спакойна, як статак авечак. Мужчына зняў з пляча Шэрую стрэльбу, прыцэліўся ў самага магутнага ваўка, які вёў шэрую зграю, і стрэліў. Мёртвы воўк паваліўся на снег. Зграя рассыпалася. Ваўкі разбегліся. Дзед з пугаю прапаў, як і не было. Вярнуўшыся з запаведніка ў сталіцу, мужчына вырашыў на тыдні адведаць дзеда і падзякаваць яму за ўдалае паляванне і добрую стрэльбу. Прыйшоў мужчына ў дзедаву кватэру, а там незнаёмая жанчына ў чорнай хустцы сказала, што ў нядзелю раніцаю стары памёр, светлая памяць.

## ЧОРНАЯ ГІТАРА

Хлопцу страх як захацелася навучыцца граць на гітары. Ён пайшоў у краму з музычнымі інструментамі, што на плошчы Перамогі. Пахадзіў па краме, папрыглядаўся, да коштаў папрымерваўся, але купіць нічога не купіў. На выхадзе з крамы хлопца запыніў танкавусы мужчына ў чорным кацялку. Вусаты прапанаваў набыць за невялікія грошы Чорную гітару. Хлопец завагаўся. Чарнавусы паабяцаў наву-

чыць хлопца граць на гітары за адзін урок. Хіба цвярозы ў такое паверыць? Але хлопец пагадзіўся зайсці ў двор і крыху пайграць на Чорнай гітары. Нічога добрага ў хлопца не атрымалася. Тады мужчына паклаў свае пальцы на хлопцавы, і яны зайгралі разам, ды так зайгралі, як мала хто на белым свеце зайграе. Хлопец падзівіўся з самога сябе і сказаў, што сам жа ён не зможа так дзівосна граць. «Зможаш, — запэўніў танкавусы, — набудзеш Чорную гітару і будзеш граць, як сам д'ябал!» Хлопец выграб з партманеткі назапашаныя грошы і перадаў мужчыну з блакітнымі ад педантычнага галення шчакамі. Увечары хлопец прыхапіў Чорную гітару і паехаў у Зялёны луг на дзень народзінаў да знаёмай дзяўчыны. Замест падарунка ён паўвечара граў на гітары. Прысутныя слухалі і наслухацца не маглі. Хлопец граў, граў і граў, ажно пакуль на вечарынцы не з'явіўся чарнавусы мужчына ў смокінгу і чорным кацялку. Мужчына вольна хадзіў па дому, але, апрача маладога гітарыста, яго ніхто чамусьці не бачыў. Мужчына хадзіў па пакоях і спраўляў малую патрэбу ў келіхі з віном. Хлопец падбег да танкавусага чорта і ўдарыў яго левай рукою, кулаком у лоб. Ударыў так, што чорны кацялок зляцеў з вастрарогай галавы. Ударыў і крыкнуў: «Згінь рагаты!» Чорт прапаў, разам з чортам прапаў і чорны кацялок, а разам з кацялком прапала і Чорная гітара. Прысутныя падумалі, што хлопец проста перабраў з алкаголем і яму прымроіўся чорт. Імянінніца крыху пасуцяшала знерванага хлопца і выправіла на таксоўцы дамоў, у ня-блізкую Серабранку.

# БЛАКІТНЫЯ КАНВАЛІІ

У газетцы «Рэспубліка» працавала маладая журналістка Таццяна Мірная. Жыла яна адна. Здымала аднапакаёўку каля станцыі метро «Маладзёжная». Усё ў Таццяны складвалася выдатна, пакуль не стаў да яе прыходзіць начны мужчына. Мірная засынала, і да яе ў сон заходзіў вялікі мужчына. Забаўляўся той ненатольны мужчына з Таццянаю да самай раніцы. З-за тых забавак пачала яна худнець, марнець, сохнуць і зрабілася зусім як цень. Прыбірачка з «Рэспублікі» паспачувала Мірнай і асцярожна параспытвала пра прычыну такога хуткага змарнення. Жанчына баялася казаць пра начнога мужчыну з шасцю пальцамі на левай руцэ, але расказаць пра яго ўсё ж наважылася. Прыбірачка параіла змучанай Тацяне пайсці ў батанічны сад і знайсці каля возера Блакітныя канваліі. Тыя канваліі Мірная паклала ўвечары на сваю коўдру. Пасярод ночы жанчына прачнулася ад гучнай лаянкі. Шасціпалы абураўся тым, што жанчына схавалася за чароўную кветку. Палаяўся ён, паабураўся, пасварыўся і сышоў назаўжды. Праўда, трэба сказаць, што Блакітныя канваліі мужчына знёс.

# СІНІЯ ЛЮДЗІ

Былы міністр фінансаў Станіслаў Лыч набыў і адрамантаваў вялікую кватэру ў Бранявым тупіку. Гэта была зусім не простая кватэра. Лыч выкупіў цэлы паверх у двухпавярховым дамку. З цягам часу ён збіраўся і першы паверх выку-

піць, але суседзі з першага былі яшчэ не гатовыя да продажаў і пераездаў. Станіслаў іх не прыспешваў. Чыноўнік умее чакаць. Сядзенне па розных прыёмных зрабіла яго цярплівым. Але ні сам Лыч, ні хто іншы з яго сям'і не чакаў, што ўночы прыйдуць да іх Сінія людзі. Яшчэ і сямі дзён не пражылі Лычы ў свежай адрапараванай кватэры, а Сінія ўжо з'явіліся. Яны заявіліліся і пачалі душыць былога міністра. Той прасіўся і прапаноўваў Сінім людзям у якасці ахвяры ўласнага сына. Сінія пагадзіліся. Яны пайшлі і задушылі Лыча-малодшага. Цяжка было Сінім задушыць маладога асілка Станіслававіча. Бо асілкам ён быў сапраўдным. Каб Сініх людзей у страшную ноч было не пяць, а тры, дык яшчэ не вядома, хто б каго замардаваў. Лыч-старэйшы і паспадзяваўся на сынаву дужасць. Але паспадзяваўся дарэмна. Сінія задушылі і сына ягонага, і жонку ягоную і яго самога. Задушылі ўсіх, кватэру абрабавалі і сышлі ў тую непралазную цемрадзь турэмных сутарэнняў, адкуль і з'явіліся.

## ШЭРЫ ШЭПТ

Студэнт-архітэктар штодня ездзіў паўз могілкі. У адну золкую лістападаўскую раніцу ён і пачуў Шэры шэпт. Студэнт якраз праязджаў на аўтобусе адчыненую могілкавую браму, калі пачуў запрашэнне: «Хадзі сюды...» Архітэктар не надаў патрэбнай увагі Шэраму шэпту, таму той паўтарыў запрашэнне тройчы. «...хадзі сюды, хадзі сюды». Пасля заняткаў студэнт вырашыў не рызыкаваць, не спакушаць лёс

і паехаць паўз могілкі на метро. Але Шэры шэпт і ў метро пераняў студэнта, і, як толькі вагон пайшоў пад магіламі, запрашэнне прагучала выразна і настойліва. Вячэраючы, студэнт расказаў бацькам пра Шэры шэпт з ягонымі запрашэннямі. Бацькі ўспрынялі аповед як чорны жарт і дарма, бо ўвечары напраўду здарылася трагедыя. Сын выправіўся ў начны клуб. Ён выйшаў з кватэры, выклікаў ліфт на свой шосты паверх, зайшоў у кабіну, а яна ўзяла ды абарвалася. На хаўтурах толькі і было размоў, што пра Шэры шэпт.

## ШЭРЫ САЛДАТ

Ён вярнуўся з далёкага поўдня, дзе тры гады праваяваў з духамі. У гарах яго кантузіла, і часткова знік слых. Таму ў кампаніях, дзе выпівалі пад магнітафон, Шэры салдат прасіў узмацніць гук. Ён піў і не п'янеў, ён еў і не мог наесціся, ён слухаў царкоўную музыку, а наслухацца не мог. Усё ўжытае Шэрым салдатам хутка праходзіла праз яго. Ён пачаў чэзнуць ды сохнуць. Куды толькі ні звяртаўся салдат! Пахадзіў ён нямала па далёкіх і блізкіх лякарнях ды дактарах, пакуль не пазнаёміўся са старой Зояю з мінскай Грушаўкі. Сівакудлая Зоя і сказала Шэраму салдату, што ён жыве не толькі за сябе, але і за сваіх таварышаў, пазабіваных духамі ў далёкіх паўднёвых гарах. Каб паправіць парадак рэчаў і вярнуць жывое жывому, трэба дачакацца поўні, пайсці на могілкі і закапаць у зямлю тры гімнасцёркі. Шэры салдат так спакутаваўся ад вечнага голаду ды бясконцай ненажэрнасці,

што пайшоў на могілкі, асветленыя поўняю, і закапаў там тры новыя гімнасцёркі. Так і вылекаваўся Шэры салдат ад ненажэрнасці.

## ЧЫРВОНАЯ СКАРБОНКА

У бар, што на піваварні «Аліварыя», кожную пятніцу прыходзілі тры сябрукі. Выпівалі па куфлі падмацаванага гарэлкаю піва і сыходзілі. Аднаго разу гэтая троіца завяла гаворку пра скарб. «Каб я знайшоў на дарозе скарбонку з золатам, дык узяў бы золата і сумленна падзяліў на тры часткі паміж намі, хлопцы!» — запэўніў адзін аматар разліўной «Аліварыі». «А я не браў бы ўсё. Узяў бы толькі палову. Гэта ж палюдску — узяць палову ад знойдзенага?» — разважаў другі наведнік бара. «Лепей зусім не чапаць чужога золата. Мяне ў дзяцінстве так вучылі: не бяры чужое, бо калі возьмеш, рукі паадсыхаюць!» — так выказаўся трэці з сябрукоў. Дапілі яны сваё піва з гарэлкаю і пайшлі ад «Аліварыі» да метро, на плошчу Перамогі. Каля крамы «Яхант» убачылі мужчыны Чырвоную скарбонку. Адчыненая скарбонка стаяла на ганку крамы і паблісквала залатымі манетамі. Пабачылі сябрукі скарб і аслупянелі. Першым выйшаў са здранцвення той, якога ў дзяцінстве спрабавалі навучыць, каб чужога не браў. Ён і падбег да скарбонкі і схапіў поўную жменю залатых манетак. Тут Чырвоная скарбонка ўзяла ды зачыніся. Скарбонка зачынілася і адхапіла сквапную руку па самы локаць. Скалечаны сквапнік зароў і пачаў уцякаць, каб Чырвоная не з’ела яго цалкам. За скалечаным паўцякалі ад

«Яханта» і астатнія ўдзельнікі гаворкі пра золата. Паўцякалі і цяпер радуюцца, што жывымі засталіся. У бар «Аліварыя» яны, вядома, не ходзяць, але ў іншых мінскіх барах сядзяць і часам расказваюць гісторыю пра Чырвоную скарбонку і закляты скарб. Лепш за ўсіх распавядае аднарукі.

## ЧОРНАЯ КРОЎ

Пра Чорную кроў расказвалі мне людзі з Раўбічаў... Багаты чалавек вырашыў збудаваць сабе дом каля возера. Набыў кавалак зямлі, замовіў праект дома і наняў прараба, каб сачыць за будоўляй. Багаты быў багаты не толькі праз прыродныя спрыт ды хітрасць, ён быў багаты і праз беражлівасць, ашчаднасць і сквапнасць. Таму заробак у прараба быў мізэрны, але існавала дамоўленасць, што пасля заканчэння будоўлі ён забярэ рэшткі матэрыялаў. Як ты ні лічы, але і цэгла застаецца, і плітка, і дошкі, і фарба... Дабудаваў прараб дом. Гаспадар з ім разлічыўся, і нават той маленькі заробак выдаў беларускімі рублямі па самым нявыгадным для работніка курсе. Дамаўляліся пра заробак у далярах, а сплочвалася ўсё ў рублях. Прараб падзякаваў за грошы і сказаў, што забірае матэрыялы. Падышоў да жонкі гаспадара, падняў яе і закінуў сабе на плячо. Ніхто не чакаў такога нахабства. Жонка сцішылася. А сквапны гаспадар так раз'юшыўся, так заперажаваў, так закалаціўся, што розум яго пацямнеў, і чалавек зубамі парваў сабе на руках жылы. З папарываных жылаў і засвістала Чорная кроў. Чарнакроўны вар'ят пабег

вакол возера. Ён бег, а Чорная кроў цякла з яго, цякла-цякла і ўся выцекла. Калі людзі дабеглі да вар'ята, ён ужо ляжаў мёртвы. Гісторыя пра Чорную кроў мае шчаслівы канец, бо прараб з багатай удавою ўзялі шлюб і зажылі шчасліва ў вялікім доме каля возера ў Раўбічах.

## ЧОРНЫ МЯШЭЧАК

На рагу вуліц Кузьмы Чорнага і Чарнышэўскага жылі-былі два таварышы. Прыйшоў час тым хлопцам пайсці ў войска. Купілі яны гарэлкі і зладзілі праводзіны. У час той сумнаватай балюшкі таварышы схадзілі да вечаровай школы, што стаяла пасярод іх двара. Пад школьным плотам хлопцы закапалі глыбока ў зямлю дзве чакушкі — каб тыя іх чакалі па-сапраўднаму, каб абавязкова дачакаліся і каб узрадавалі, дачакаўшыся. Не пашанцавала таварышам у войску, патрапілі яны на вайну. Адзін з іх загінуў пад Кабулам, а другі адваяваў прызначаны тэрмін і вярнуўся на рог Чарнышэўскага і Чорнага. З нагоды вяртання купілі гарэлкі і зладзілі гучную гулянку. У час гулянкі пайшоў салдат да вечаровай школы і адкапаў хованку. Пад плотам ён знайшоў адну чакушку і аксамітны Чорны мяшэчак, поўны золата.

## ШЭРАЯ ХВАРОБА

Яна з'яўляецца напрыканцы нашага змрочнага лістапада, калі краіну апаноўвае ледзяная золь. Шэрая хвароба ходзіць па начных гарадах

і вёсках, заходзіць у дамы, грукае ў дзверы дубовай кульбаю і пытаецца: «Усе спяць?» Калі ніхто не адгукнецца на грукат, не пацікавіцца: «Хто там?», тады за тымі дзвярыма ніхто больш і не прачнецца.

## СВЕТЛЫ МУЖ

У разумнай жанчыны было ажно трое каханкаў — Чмок, Жмак і Шпок. Ёй хацелася выйсці замуж, і каб усе чмокі-чмокі, жмакі-жмакі ды шпокі-шпокі рабіў ёй адзіны законны Светлы муж. Але такога спрытнага на ўсе патрэбныя справы мужа жанчына не знайшла. Шукаць шукала, а каб знайсці, дык і не знайшла. Так і пражыла яна сваё доўгае шчаслівае жыццё з трыма каханкамі — Шпокам, Жмакам і Чмокам.

## СРЭБНАЯ ЛЫЖАЧКА

Малады фотамастак убачыў узорны жаночы твар. Ён пазіраў на мастака з фотаздымка на помніку. Малады чалавек вырашыў зняць жанчыну з керамічнага медальёна. Людзі казалі, што фатаграфаванне на могілках — занятак небяспечны і кепскі. Толькі фотамастак моцна захапіўся ўзорнай жаноцкасцю і нават не ўзгадаў пра папярэджанні дасведчаных людзей. Ідучы з могілак у студыю, фатограф наведаў кавярню «Грунвальд». Там каля барнай стойкі сядзела жанчына з узорным тварам, рыхтык такім, які быў на могілках. Мастак вырашыў пазнаёміцца з уладальніцай яркай узорнасці. Ён сеў пры бар-

най стойцы, замовіў чорнай гарбаты і завёў гутарку, як ён спадзяваўся, са сваёй будучай узорнай мадэлькай. Гутарка была лёгкая і вясёлая. Фатограф сам не заўважыў, як згадаў у гутарцы чорта. Размова зрабілася змрочнай, і фатограф сказаў: «Чорта няма!» Жанчына збрыдчэла і тэатральна зарагатала на ўвесь «Грунвальд». Яе суразмоўца нязграбна павярнуўся на высокім крэсле і локцем скінуў з барнай стойкі Срэбную лыжачку. Тая паляцела на падлогу. Срэбная лыжачка праляцела палову адлегласці і спынілася ў паветры. «Чорта няма?» — спытала брыдкатварая жанчына і зноў гучна зарагатала на ўсю кавярню. Фатограф кінуўся ўцякаць. Ён бег, скакаў, ляцеў, імчаў, ажно пакуль не схаваўся за металічнымі дзвярыма сваёй фотастудыі. Толькі праз тры дні ён наважыўся зазірнуць у фотаапарат. Ніякага ўзорнага твара там не было. Здымкі Паўночных могілак меліся ў вялікай колькасці, а жанчына з узорным тварам прапала. У «Грунвальдзе» фатографу сказалі, што ён не разлічыўся за чорную гарбату. Давялося прыніжацца, выбачацца і разлічвацца. Фатограф выйшаў на ганак кавярні, дзе прыняў рашэнне — забыць чортаву гісторыю. З гэтай нагоды ён вырашыў выпаліць цыгарэту. З кішэні разам з запальнічкай выцягнулася і Срэбная лыжачка.

## ШЭРАЯ ПАШТОЎКА

Яна — віншавальная Шэрая паштоўка — можа з’явіцца і ў тваёй пад’езднай металічнай скрынцы з нумарам. Друкуюць яе на шчыльнай,

амаль як кардон, паперы і падпісваюць шэрым, амаль як срэбра, алоўкам. Такую паштоўку лепей браць у пальчатках ці рукавіцах. Чытаць яе не трэба, бо прачытанае можа хутка спраўдзіцца. Шэрая паштоўка прыходзіць ад тых, хто ведае амаль усё пра твой лёс. Яна з'яўляецца напярэдадні старога Новага года. У ёй віншаванне з надыходам апошняга года твайго зямнога хуткаплыннага жыцця. Зазвычай прароцтва спраўджваецца, але можна і пазмагацца з наканаванасцю. Калі Шэрую паштоўку спаліць не чытаючы, цёмныя сілы могуць і адступіцца. Большасць людзей, якія атрымлівалі Шэрыя паштоўкі, спадзяваліся, што паштоўка прыйшла не да іх. Спадзевы на тое, што паштар пераблытаў адрасы і ўкінуў Шэрую паштоўку не ў тую скрынку, — марныя, але ж менавіта спадзевы доўжаць нашае з табою жыццё, таму паштоўку трэба спаліць.

## ШЭРЫ ГУЗІК

Ён такі прывабны, такі мацібцовы і пералівісты... 

ты, ні адкуль ты. Нават імя свайго ты не можаш згадаць. Увесь свет робіцца для цябе спакойны, ціхі і аднолькава-шэры.

## ПЫЛАВЫ ЧАЛАВЕК

У спякотны надвячорак, бліжэй да шарай гадзіны, яго можна пабачыць на вясковай дарозе каля Заслаўя, што пад Мінскам. Пылавы чалавек няспешна ідзе па вузкай прыдарожнай сцежцы. Ён ідзе зусім павольна і крыху прыпадае на правую, карацейшую нагу. Міжвольна ўзнікае жаданне дагнаць і абагнаць такога чалавека. Чым шпарчэй ты ідзеш за кульгавым, тым хутчэй ён аддаляецца. Пагоня за Пылавым чалавекам — занятак небяспечны. Ты і сам не заўважыш, як апынешся ў далёкім і чужым месцы, пасярод пустога поля. Ты амаль дагоніш Пылавога чалавека, а ён возьме ды рассыплецца тонкім шэрым пылам на прыдарожную траву. Навокал пацямнее, і ў жнівеньскім небе пачнуць загарацца вялікія зоры.

## ШЭРЫ МУТАНТ

Ён жыў на вуліцы Камуністычнай. Там і працаваў у майстэрні па вырабе надмагільных плітаў. Тамака і піў таннае віно — чарніла, чарлік, чарльстон. Ад таго чарліка розум яго каламуціўся, свядомасць мутнела і ўвесь арганізм муціраваў. Дзякуючы чарнілу супрацоўнік майстэрні па вырабе надмагільнай прыгажосці ператварыўся ў Шэрага мутанта. Метамарфозу ўсе заў-

важылі толькі тады, калі на чорнай гранітнай пліце замест генерала ў фуражцы з'явілася выява вінтарогай кошкі. Шэрага мутанта падманам завабілі ў вар'ятню і там зачынілі. Мутант асабліва і не наракаў на лёс. Ён скарыўся, піў лекі і маляваў крылатых зебраў ды паласатых кенгуру. За добрыя паводзіны і ўсмешлівую ціхмянасць Шэрага мутанта выпусцілі на волю. Вольнае паветра ён адразу змяшаў з чарльстонам, трапіў у доўгатэрміновы запой, з якога выбраўся наўпрост у лепшы свет. Майстэрня па вырабе могілкавай прыгажосці адгукнулася на падзею: на магіле Шэрага мутанта паклалі чорную гранітную пліту са сціплай шрыфтавой кампазіцыяй без малюнка.

## ШЭРЫЯ ФОТАЛЯЛЬКІ

Стары шэльма захварэў на пыху. Ад той пыхі ягоную самаадзнаку так раздзьмула, што ён вырашыў палезці на галоўны дзяржаўны трон. Шэльма ездзіў па гарадах, мястэчках, вёсках і казаў, што ён — цар беларускі. Той-сёй і паверыў пыхліваму самазванцу. Людзі любяць абяцанкі, людзі далі веры абяцанкам-цацанкам, і пачалі людзі абяцальніка паўсюль запрашаць. Тых запрашэнняў назбіралася досыць многа. Тады шэльма нарабіў кардонных фоталялек са сваім заблураным ды адфоташопленым партрэтам. Замест сябе пыхлівец пачаў пасылаць у розныя месцы фоталялькі. Пыха хутка прагрэсавала. Стары лялькароб надумаў сабраць на сталічнай плошчы народ, каб гучна абвясціць сябе адзіным усебелару-

скім царом. Калі ж у час, прызначаны на ўсеагульны збор, ён прыйшоў на плошчу, народу там не было. На шэрым бруку стаялі і валяліся Шэрыя лялькі. На плошчы было шмат выцвілых пакарабачаных кардонных лялек. Замест людзей пляц Каліноўскага запаўнялі старыя фоталялькі.

## ЧЫРВАНАТВАРЫ ПАКУПНІК

У мінскі ўніверсам «Цэнтральны» часам заходзіць Чырванатвары пакупнік. Бывае, што ён бярэ каву без цукру, а бывае, замаўляе і сто грамаў гарэлкі і да яе шклянку з таматным сокам. Паводзіць ён сябе сціпла — прыйшоў, замовіў, выпіў і сышоў. Адно дзівіць: скура на ягоным твары ажно палымнее, нібыта пад скураю не кроў цячэ, а сапраўдны агонь гарыць. Іншыя наведнікі «Цэнтральнага» пачалі заўважаць, што сустрэча з Чырванатварым адбываецца напярэдадні бяды. Сустрэў яго? Чакай гора горкага. Перад выбухам у нашым метро я Чырванатварага пакупніка сустракаў па тры разы на дзень. Пасля такога і хацеў бы не верыць у прыкметы, а не атрымліваецца. Асабіста я веру, што сустрэчы з Чырванатварым пакупніком — новы сталічны знак бяды.

## ШЭРАЕ ВЯСЛО

Неба пакрыўдзілася на зямлю. Паліўся дождж. Ён ішоў тры дні і тры ночы. Дарогі і сцежкі стаялі ў калюгах. Ручаіны, рэчкі і ва-

зёры ўскаламуціліся і пашырэлі. На чацвёрты дзень дождж пачаў аціхаць, але ўсё яшчэ не спыніўся. У цёмным паветры вісела ледзяністая золь. З халоднай золі і выйшаў высокі мужчына ў доўгім вайсковым плашчы. Ён накіраваўся да пастуховай хаты, што стаяла на беразе Дзвіны. «Перавязеш цераз рэчку? Людзі казалі, што ты тут — галоўны перавозчык». — «Мо перачакаем, пакуль вада крыху спадзе ці хоць бы дождж скончыцца?» — «Не магу чакаць, спяшаюся. Калі не хочаш везці, дык якую лодку пазыч». — «Лодкі не пазычаю. Правіла такое. Рэчку нашу я ведаю, таму павязу, калі чалавек просіць, калі чалавеку трэба...» Пастух узяў прыхаваныя ў гумне вёслы і разам з высокім спусціўся да рэчкі. Там яны знялі лодку з ланцуга, селі ў яе і адштурхнуліся ад берага. Дзвіна хвалявалася, шумела і гула. Плысці было цяжка. Пастух не адразу заўважыў, што яго спраўная лодка ўсё глыбей і глыбей прасядае ў ваду. Асабліва моцна яна пачала прасядаць з боку высокага. Было ўражанне, што той робіцца ўсё цяжэйшы і цяжэйшы. Калі лодка ледзь не перакулілася і моцна чарпанула вады, перавозчык не вытрываў і спытаў: «Ты хто, чорт цябе забірай?» — «Я — чорт, і прыйшоў цябе ўтапіць!» — высокі скінуў вастраверхі капюшон. Над скронямі тырчэлі акуратныя рогі. Чорт засмяяўся, затрэсся, зарагатаў. Перавозчык выхапіў з качотаў вясло і з усяе моцы трупнуў па рагатлівай чортавай раганоснай галаве. Удар быў трапны і моцны. Чорт сціх, аплыў, згубіў прытомнасць. Пастух схапіў яго за капыты і скінуў з лодкі ў каламутны вір. Толькі ў хаце перавозчык заўважыў, што ў яго

цяпер розныя вёслы. Адно як было звычайна-блакітнае, такім і засталося, а другое зрабілася Шэрым вяслом, бо ўся фарба з яго абсыпалася ад моцнага ўдару па чортавай галаве.

## КАЗКА ПРА БОГА

«Ты верыш людзям?» — «Не!» — «Дык навошта ты паверыў тым хітрунам, якія апавядаюць старую казку пра Бога?»

## ЧЫРВОНЫЯ КРЫЛЫ

У парку, што ляжаў паміж рэчкаю і школай, на лаўцы сядзеў чорт з Чырвонымі крыламі. Паўз чорта праходзіў яснавокі хлопчык. Чорт высока ўзняў крыло і ласкава спытаў: «Хлопчык, ты ў гэтай школе займаешся?» — «Так. Так, у гэтай!» — «Хочаш набыць сабе Чырвоныя крылы?» — «Яны дарагія. У мяне грошай не хопіць!» — «Колькі ў цябе ёсць?» Дурнаваты школьнік дастаў гаманец і паказаў свае капіталы. «Хапае! Будзеш браць крылы?» — «Яны дакладна працуюць?» Чорт узлез на лаўку, прабегся па ёй, скочыў, замахаў крыламі і праляцеў два метры. «Разгон кароткі і вышыня маленькая. Узлезеш на школу, разгонішся па даху, лёгка праляціш над паркам і спакойна прызямлішся на другім беразе Свіслачы». Хлопчык узяў склееныя з тонкай паперы Чырвоныя крылы і панёс іх у бок сваёй школы, школы для дзяцей з абмежаванымі разумовымі здольнасцямі.

# ЗЯЛЁНЫ ВАДЗЯНІК

Жылі ў Мінску двое рабочых, чарнявы ды бялявы. Не складаліся ў іх стасункі з жанчынамі. Дажылі да трыццаці пяці, а сем'яў не пазаводзілі. Каму ў наш час патрэбны рабочыя з бесперспектыўных заводаў? Вядома, чарнявы з бялявым папівалі. Не злосна і не моцна, а так, каб у нядзелю маркоту прагнаць. Выпілі яны ў той злашчасны вечар. Прыйшлі ў парк і выпілі піва ў рэстарацыі «Лідо». З рэстарацыі пайшлі ў бок цырка, а там, пад мостам, пабачылі ў рачной вадзе голых жанчын. Зазвычай там толькі качкі плаваюць і хлеб выпрошваюць. Тым познім цёмным вечарам плавалі там жанчыны. Рабочыя вырашылі пагаварыць з голымі дзеўкамі і прапанаваць свае рукі і сэрцы. Раптам якая і дасць згоду? Дзеўкі толькі пасмяяліся з прапаноў. Злосна панасміхаліся. Рабочыя пакрыўдзіліся на галадупых эксгібіцыяністак. Тут у іх перамовы і ўступіў Зялёны вадзянік. Ён загадаў дзвюм найпрыгажэйшым русалкам пайсці з рабочымі ды стаць іх жонкамі. Адна была ўмова: рабочыя павінны былі навязаных на вяроўку русалак весці праз увесь горад да свайго інтэрнату. Калі яны давядуць русалак і не азірнуцца, тыя паробяцца жонкамі. Той, хто за дарогу хоць раз зіркне назад, прыгажуню страціць. Зялёны вадзянік даў рабочым у рукі доўгую мокрую брудную вяроўку, павярнуў іх спінамі да сваіх аголеных прыгажунь, сказаў, што русалак навязаў, і загадаў ісці. Рабочыя павалаклі вяроўку ў бок свайго велазавода. Калі яны пераходзілі праз трамвайныя рэйкі, чарнявы спатыкнуўся, паваліўся і азірнуўся. Русалак нідзе не было. Так

ён і сказаў таварышу. Бялявы рабочы азліўся на чарнявага, кінуў вяроўку і дастаў з кішэні нож з выкідным лязом. Чарнявы вывернуў з бруку важкі камень. Бялявы ўдарыў чарнявага нажом у жывот. Чарнявы трупнуў бялявага брукаўцом па лобе. Брукавец яшчэ прыклаўся да скроні, да носу і да сківіц бялявага. Пасля такога збіцця ў бялявага не засталося аніякіх шанцаў на выжыванне. Ён памёр на трамвайных рэйках. Чарнявы спрабаваў дайсці да лякарні, балазе яна была недалёка, нейкая там палова трамвайнага прыпынка. Не дайшоў, упаў, скурчыўся і сцішыўся назаўжды. Такую гісторыю распавядаюць у Мінску пра жыццё і смерць рабочых з велазавода.

## БЕЛЫ ЧАЛАВЕК

Кранаўшчыца пахавала мужа, таксама кранаўшчыка. Ён, бядак, застудзіўся на верхатуры. Падхапіў запаленне лёгкіх. За тры тыдні згарэў. Кранаўшчыца занудзілася і пачала папіваць. Прыйдзе на Усходнія могілкі, сядзе каля капца, пад якім адпачывае кранаўшчык, вып’е гарэлкі і паплача. У такую слёзную хвіліну да яе і падышоў светлы чалавек. Усё ў яго было светлае: і барада, і вусы, і бровы, і скура на высокім лобе. Нават вочы ў яго былі светла-светлыя, амаль белыя. «Што табе трэба? Калі выпіць папросіш, дык я не дам!» — «Я прыйшоў з іншага свету, прынёс прывітанне ад твайго кранаўшчыка». — «Як ён там, мой нябога, мой працаўнік?» — «Кепска. Ён там, як у турме тутэйшай Жодзінскай. Прасіў, каб ты крыху

пагрэла яго, грошаў праз мяне перадала. Халодна яму». Кранаўшчыца аддала Беламу чалавеку ўсе грошы, што мела пры сабе. Белы падзякаваў і прапаў. Пасля сустрэчы з Белым чалавекам кранаўшчыца кінула піць. На могілкі яна цяпер наведваецца, як і ўсе людзі, тры разы на год — на Радаўніцу, на Дзяды і на дзень нараджэння кранаўшчыка.

## АФРА-ЧОРНЫ АНЁЛ

Адбылося тое ў раёне Усход. Да маладой жанчыны падляцеў галодны Афра-чорны анёл і папрасіў есці. Жанчына завяла афра-анёла дадому, пасадзіла за стол і пачала карміць. Раптам яны пачулі, што дамоў вярнуўся гаспадар — муж маладой жанчыны. Тая прапанавала анёлу неадкладна залезці ў шафу. Чорны анёл ледзь-ледзь змясціў у шафе вялікія крылы. Муж сеў за стол і пачаў вячэраць фасолевым супам. Анёлу зрабілася млосна ў цеснай шафе. Ён высунуў з яе сваю па-дзявочы прыгожую афра-галаву і спытаў: «Як прайсці ў бібліятэку?» Агаломшаны гаспадар сказаў: «Выйдзеш з шафы, пройдзеш праз кватэру, на ліфце з'едзеш на першы паверх, выйдзеш на вуліцу, праз падземны пераход пяройдзеш на другі бок, там і стаіць бібліятэка... Канешне, ты можаш і пераляцець праспект, крылы ж маеш». Анёл падзякаваў за падрабязна растлумачаны маршрут і пайшоў. «Мала таго, што яны, ліха ім у бок, пабудавалі выродлівую бібліятэку за нашымі вокнамі, дык яны, ліха на іхніх дзяцей, яшчэ і дарогу ў бібліятэку праклалі праз нашую шафу!» — так выказаў жонцы сваю

незадаволенасць муж. Выгаварыўся, замоўк і з апетытам працягнуў сёрбаць фасолевы суп са свінымі скабкамі.

## ДЭМАН І СВЯТА

Заставацца на свяце самотным можа толькі дэман, бо ў яго няма іншага выйсця... У праўдзівага дэмана ўсе дні і ночы святочныя.

## ЧОРНАЯ ГАЛАВА

Стары муляр знайшоў у сутарэннях новага дома Чорную галаву. Некалі тая галава мела цела і належала нейкаму маладзёну. Цяпер яна валялася на цэментнай падлозе новабудоўлі. Муляр закаціў Чорную галаву ў цэлафанавы мех, накрыў яе прынесенымі з бытоўкі ўшчэнт стаптанымі чаравікамі і занёс у кантэйнер са смеццем.

## ЧОРНАЯ ВАВЁРКА

У скверыку Янкі Купалы завялася Чорная вавёрка. Казалі: калі яе злавіць ды зварыць, а потым акуратна дастаць усе чыста косткі, дык можна сярод іх знайсці і костку-нябачніцу. Трэба сесці насупраць люстэрка, раскласці косткі Чорнай вавёркі на белай талерцы і браць па чарзе кожную костку ў рот. Калі возьмеш нябачніцу, дык і твой адбітак з люстэрка знікне. Акрабат з дзяржаўнага цырка Ян Паднебны ўпаляваў

і зварыў Чорную вавёрку. Апошні раз Паднебнага бачылі ў грымёрцы, дзе ён клаў у рот вавёрчыны косткі. Больш Яна Паднебнага не толькі не бачылі, больш яго ніхто ніколі і не чуў.

## ЧОРНАЯ ПАННА

У Грушаўцы завялася вяліказубая вядзьмарка. Яна пафарбавала валасы ў чорны колер, прыдбала рудога ката, пашыла доўгую чорную сукенку. Яна зрабілася Чорнай паннаю і пачала труціць палёнай гарэлкай ласых да выпіўкі мужчын. Атруціла тузін і нарвалася на блакітнавокага ведзьмака, які ўвагнаў у яе халоднае сэрца доўгае шыла. Рудога ката вядзьмак забраў сабе.

## ЧОРНЫ АГОНЬ

Мастак маляваў чорную свечку з Чорным агнём. Доўга маляваў чорны пялёстак чорнага полымя на чорным кноце. Маляваў, ажно пакуль Чорны агонь не шугануў з малюнка на мастака і той згарэў ушчэнт.

## ГАЛАВА ДЫ МЫЛА

Лявона Ждановіча я не бачыў гадоў пяць. Сустрэча — нагода пасядзець, пабазарыць, выпіць. Зайшлі ў «Бярозку», узялі па сотцы з апельсінавым сокам, сядзім, показкі травім. Пасля трэцяй Ждановіч і расказаў пра галаву ды

мыла... Ён штораніцы бегае на турнік, пасля турніка — душ, таму і шампуні купляе дарагія, каб можна было кожны дзень галаву памыць. Намыліў. Добра так намыліў. Чуе, як пад пальцамі галава пачала змыльвацца. Хутка змылілася ўся галава да самай шыі. Лявон апаласнуўся. Галавы як і не было. Адна шыя вытыркаецца з плячэй. Нават няма чым у люстэрка зірнуць. Безгаловы Лявон абцёрся крыху і па сценцы пасунуўся ў спачывальню. Лёг. Паляжаў і заснуў. Праз гадзіну прачнуўся з галавою. Бывае, бывае і такое намыльванне.

## Д'ЯБАЛ І ЛАЦІНА

Раней, калі Д'ябал, спакушаючы людзей, яшчэ прамаўляў на лаціне, ягоныя пераканаўчыя словы гучалі так: «Eritis sicut dii scientes bonum et malum...» Цяпер у кожным кутку Еўропы д'ябалятам даводзіцца займацца перакладам. Тутэйшае, мінскае д'ябалянё шэпча: «Вы будзеце падобнымі да багоў... Вы падобныя... Вы былі, ёсць і будзеце падобныя да багоў і адрозніце зло ад дабра...»

## ГАЛАНДСКАЕ ЛЮСТЭРКА

Беларускі бізнесовец Алесь Качан пабойваўся пярэваратняў. Варажбітка напрарочыла яму смерць ад іклаў чалавека-ваўка. Качан так баяўся нячыстых, што прывёз у свой мінскі офіс чароўнае Галандскае люстэрка ажно з Ратэрдама. Пярэварацень, як толькі бачыў свой адбі-

так у круглым Галандскім люстэрку, дык адразу згараў і рассыпаўся шэрым попелам па офіснай падлозе. Алесь ганарыўся набыткам, ганарыўся моцна, ды нядоўга. У час карпаратыўных вячорак нейкі нехлямяжы госць зачапіў люстэрка, тое грымнулася на падлогу і разляцелася на дробныя аскалёпкі. Добра, што ніхто з гасцей не парэзаўся і нікога аскалёпкамі не зачапіла і не пасякло. Качан моцна заперажываў. Ён нават аблаяў усіх прысутных на тых вячорках. Але не страта чароўнага люстэрка была найгоршай бядою ў той злашчасны вечар. Ваўкалакі, празнаўшы пра пабітае люстэрка, з усіх куткоў Беларусі зляцеліся ў Мінск і парвалі бізнесоўца Алеся Качана на лахманы.

## БЛАКІТНЫЯ ЗУБЫ

Маладая мінчанка ачмурыла лядашчага француза. Той падараваў ёй старажытнае прозвішча — Бурбон. Першае, што зрабіла ўдзельніца праекта «Няроўны шлюб», — уставіла Блакітныя зубы. У яе і так былі роўныя і чыстыя белыя зубы, ды няма межаў для паляпшэння. Трыста трыццаць тры тысячы еўра каштавала трухляваму Бурбону стаматалагічная аперацыя для чарговай жонкі. Жанчына заганарылася блакітназубай усмешкай. Было чым! У асляпляльную ўсмешку і закахаўся сербскі танцор. Бурбон, як ты памятаеш, быў нядошлы, а танцор меў вялікі сэкспатэнцыял. Беларуска злюбілася з сербам. Француз даведаўся пра здраду, сабраў доказы і адсудзіў у здрадніцы Блакітныя зубы, усе як адзін.

## ПРАЗРЫСТАЕ ПАВЕТРА

Ёсць паданне, што ў старажытныя часы існавала школа мудрых асфіксістаў. Яны ўсе пражывалі на зямлі больш за сто гадоў, бо мелі лёгкае і чыстае дыханне. Калі які з асфіксістаў стамляўся жыць, ён проста выдыхаў з сябе ўсё чыста Празрыстае паветра і паміраў. Чалавек сам спыняў дыханне і адыходзіў у невараць. Ёсць версія, што школа асфіксістаў перастала існаваць, бо чалавецтва незваротна забрудзіла зямное паветра.

## ЧЫРВОНАЯ КРОПКА

У кожнага чалавека ёсць маленечкая Чырвоная кропка. Націснеш на яе і прападзеш. Добра, што мала хто з людзей ведае, дзе дакладна знаходзіцца ягоная Чырвоная кропка. Бо ціснулі б на яе дзеля забаўкі ці дзеля цікаўнасці націскалі б, ціснулі б ад няма чаго рабіць, ад таго, што сумна і млосна, маглі б націснуць і скончыць жыццё ў самазнішчэнні. Менш ведаеш пра Чырвоную кропку — даўжэй жывеш. Смерць, калі з'яўляецца да чалавека, дакранаецца да Чырвонай кропкі. Тая чарнее, чалавек застывае і спыняецца ў шматколерным часе. Чалавечае жыццё — Чырвоная кропка.

## СУС І GILLETTE

Сус памыў адну жаночую нагу, памыў і другую жаночую нагу. Паглядзеў ён і ўбачыў, што гэта добра. Сус дастаў брытву Gillette Mach3

пагаліў абедзве жаночыя нагі, палюбаваўся на плён справы сваёй і сказаў, што гэта выдатна. Быў вечар...

## ЧОРТАЎ ДОМ

Літаратар захапіўся чортам. Збіраў пра яго, рагатага, казкі. Калекцыянаваў малюнкі ды скульптуры з чортавымі абліччамі. Напісаў некалькі апавяданняў і вялікую гатычную прыгодніцкую аповесць, дзе чорт выступаў за галоўнага героя. Сябры казалі, што кватэра таго літаратара зрабілася Чортавым домам. Прачуў праўдзівы чорт, што ёсць чалавек, які шчыра ім захапляецца, які проста апантаны чартаўшчынай. І надумаў чорт адведаць Чортаў дом. Прыйшоў, падарунак з пекла захапіў — вілы, якімі грэшныя душы ў сараны са смалою закідваюць. Убачыў літаратар чорта з віламі, спужаўся і кінуўся ўцякаць. Чорт за ім пабег, каб сказаць пра свае добрыя намеры. Забег літаратар на могілкі — ажно ў Калодзішчы, схапіў стары драўляны крыж, што за новым помнікам ляжаў. Перахрысціў пісака чорта крыжам так, што скалечыў на ўсё астатняе жыццё. Ведаў чорт, што нельга да людзей з дабром, ведаў, што не трэба ў Чортаў дом наведвацца, цяпер ведае дакладна, бо моцна кульгае.

## БЕЛЫЯ КАНТРАЦЭПТУНЧЫКІ

Толькі імі і харчавалася. З раніцы адзін маленечкі круглы Белы кантрацэптунчык і ўвечары крыху большы Белы кантрацэптун. Больш нічога

не піла і не ела. Не верыш? Я і сам слаба веру, але так было. Выглядала ўсё — акурат наадварот. Яна была тоўстая, непамерна тоўстая, невыказна тоўстая, самая тоўстая ў Мінску. Яна была жанчына-медуза. Жанчына — мара людаедаў. Мужчыны яе любілі, любілі і любілі. Яна ела Белыя кантрацэптунчыкі і яблася. Больш нічога не рабіла. Божы чалавек. Божае стварэнне. Народжаная задавальняцца і задавальняць. Задаволіла... Канібала задаволіла. Прыйшоў, трахнуў і пусціў на антрэкоты. Казалі, еў яе з цыбуляю. Казалі, пасля яе засталося многа Белых кантрацэптунчыкаў, але па спадчыну ніхто не прыйшоў.

## ШЭРЫ НАДМАГІЛЬНЫ КАМЕНЬ

Ёсць у мяне таварыш — Міхась Нацэўскі. Той Міхась робіць надмагільныя партрэты. Аднойчы з Нацэўскім здарылася вясёлая гісторыя... Ён старанна павыдзёўбваў на дарагіх чорных плітах партрэты бацькоў заможнага замоўцы. Але памыліўся, і над імем Таццяна з'явіўся мужчынскі твар, а над імем Сяргей — жаночы. Давялося камяні перашліфоўваць і надпісы перарабляць, бо партрэты атрымаліся як жывыя і падобныя да ўзораў. А было і страшнае здарэнне з Міхасём... Выдзеўб ён на Шэрым надмагільным камені дзявочы твар. Стараўся, як ніколі. Пасля працы, як звычайна, выпіў гарэлкі. Прыцягнуўся раніцай у майстэрню. Бачыць: на Шэрым камені зусім іншая дзяўчына. Каб толькі твар змяніўся, не так бы Нацэўскі напалохаўся, але там імя іншае і даты смерці ды нараджэння памяняліся. Зноў

шліфаваць? Зноў перарабляць? Зноў усё наноў? Міхась вырашыў папіць піва і пашукаць у Інтэрнэце дзяўчыну, што з'явілася на Шэрым камені. Знайшлася яна лёгка. Нацэўскі напісаў ёй паведамленне і атрымаў адказ. У наступным лісце Міхась распавёў дзяўчыне пра Шэры надмагільны камень і пераслаў яго фотаздымак. Дзяўчыну асабліва ўразіла дата смерці, бо гэты быў заўтрашні дзень, калі яна збіралася ехаць на маршрутцы да сваякоў у Магілёў. Дзяўчына не паехала ў Магілёў, а тая маршрутка разбілася пад Бялынічамі. Шафёр заснуў за рулём, наехаў на дрэва і загінуў. Пасажыры пакалечыліся. Дзяўчына прыйшла да Міхася ў майстэрню з бутэлькай гарэлкі «Тутэйшая», каб адзначыць цудоўнае выратаванне. Нацэўскі і дзяўчына ў той вечар моцна напіліся. Пакуль яны напіваліся, з Шэрым каменем адбылася чарговая метамарфоза. На каменную паверхню вярнуўся папярэдні дзявочы партрэт. Такія два цуды здарыліся з Шэрым надмагільным каменем. Міхась Нацэўскі сам пра іх і расказваў. Калі што, можаш у яго і перапытаць.

## АДАМ І ВЫГНАННЕ

Анёл узняў меч і выгнаў першага чалавека і ягоную жанчыну з райскіх садоў. Анёл выконваў загад, гнаў сумленна, страшыў мячом і гучна крычаў тугім голасам: «Пайшлі... Пайшлі прэч!» Адам выбег за райскую браму. За ім Ева паляцела. Уцяклі людзі ад Божага гневу. Прайшлі, колькі змаглі, стаміліся, селі адпачыць. Тут Адам і закурыў. Так людзі і пачалі пацыху пакурваць.

## МАРСКІЯ БАЙСТРУКІ

Як гэта іх няма? Ты не бачыў і нават не чуў? Нічога гэта не кажа, бо я іх бачыў на свае вочы... Марскія байструкі ўдзень спяць у рададэндранах. Увечары, як сцямнее, яны выходзяць на прыпляжныя праменады і гандлююць там шматколернымі чароўнымі шарамі. Бачыў шары? Вось, імі гандлююць марскія байструкі. Пагандлююць і сыходзяць на лежбішчы ў рададэндраны. Бясшкодныя стварэнні — марскія байструкі.

## БЕЛЫ ЛІХТАРЫК

Корпус у ліхтарыка быў са светлага металу, і святло ён меў чыстае белае. Не халоднае блакітнаватае і не жоўтае цёплае, якім свецяць звычайныя ліхтары, а моцнае і белае. Наводзіш такі чысцюткі белы прамень на рэч, і яна робіцца празрыстай наскрозь. Больш за тое, у такім святле адразу відаць усе хібы і заганы кожнай рэчы. Малады мужчына знайшоў ліхтарых на сметніку, што акурат за гасцініцай «Еўропа». Пайшоў выкідаць пакет з пустымі бутэлькамі і знайшоў спраўны ліхтарык. Прынёс дадому і пасвяціў на стары гадзіннік, які гадоў адзінаццаць як спыніўся, але яшчэ вісеў у передпакоі. Пасвяціў ён на спынены гадзіннік Белым ліхтарыкам, і з гадзінніка пасыпаўся на падлогу шэры пыл. Шмат пылу высыпалася з гадзіннікавага механізму, і той пайшоў. Так мужчына і стаў вялікім гадзіннікавым майстрам.

# КОКІ-НАКІ

Падышла і сказала: «Яшчэ слова, і раблю табе Кокі-накі!» Нічога я не ведаў пра Кокі-накі. Ніхто мяне і не папярэдзіў пра Кокі-накі. Смяяўся я, як і ўсе смяяліся. Скакаў, тросся, гізаваў — танчыў, адным словам. Гыгыкаў, як і ўсе гыгыкалі. Гыркалі, рагаталі, кіслі, напапалам складаліся ўсе, і я не адставаў. На танцах усе свае, усе нашы, усе блізкія людзі. Весялімся, як умеем, у нашым Палацы Рэспублікі. Чужаніца-прыблуда са сваімі Кокамі-накамі што мне зробіць? Ну што? Ушчыльную падсунулася да мяне і зрабіла Кокі-накі! Душа мая паляцела з цела, а яно павалілася на танцпадлогу, нібы падла. Скурчылася цела на гладкіх дошках. Дыхаць перастала, зусім. Прыблуда-чужаніца спакойна пайшла сабе, яе і не запыніў ніхто, нібыта ніхто яе і не бачыў. Нібыта я сам без нагоды на дошкі бразнуўся. Душа мая села на шкляную зорку, што на вершаліне елкі паблісквала. Новы год, Кокі-накі і сапсаваная прыблуднай смерцю вечарына. Так бывае.

# ГІСТОРЫІ ПРА РЭЧЫ І З'ЯВЫ



# ГАРАЧЫ ДОЖДЖ

Хлопец вяртаўся з адпачынку дамоў. З аэрапорта Мінск-2 ехаў аўтобусам. Той ляцеў на шалёнай хуткасці, калі кіроўца заснуў. Аўтобус збочыў і стукнуўся ў груд. Шыбы павыляталі. Пасажыры папабіліся і пакалечыліся. Хлопец апынуўся на траве. Падняўся, агледзеў месца здарэння і не знайшоў свайго дарожнага заплечніка. Ён шукаў заплечнік, а знайсці не мог. Ён так доўга шукаў згублены заплечнік, што людзі паспелі пакінуць месца трагедыі. Нават усіх параненых звезлі адтуль. Нават пабіты аўтобус выцягнулі на дарогу і павольна адкацілі ў дэпо. Калі хлопец застаўся зусім адзін, з неба пасыпаліся гарачыя, нібыта слёзы, кроплі дажджу. Ён прастаяў пад гарачым дажджом нядоўга, бо да хлопца падышоў высокі анёл і павёў у аэрапорт, на склад згубленых рэчаў, дзе іх чакаў заплечнік.

# ЛІЛОВАЯ БАРОДАЎКА

У кар’ерыста Сяргея Раманчука засвярбела скура над левай лапаткаю. Сяргей пачасаўся і падумаў, што ўсё ягонае мітуслівае жыццё праходзіць на нервах. Раманчук чухаўся, але зуд не праходзіў. Чым больш ён часаў, тым больш скура свярбела. Праз гэты сверб Сяргей кепска спаў. Аднойчы ранкам ён убачыў на расчасанай скуры ліловую плямінку. За якія тры дні плямінка вырасла і зрабілася Ліловай бародаўкай, якая несупынна прагла пагладжвання і козыткі. Раманчук яе казытаў і пагладжваў, ажно пакуль тая

не трэснула напалам. Трэснуўшы, барадаўка пачала балець. Раманчук раззлаваўся і вырваў з сябе Ліловую барадаўку. Вырваў і кінуў у блакітную чарупіну рукамыйніка. Барадаўка заўсміхалася і танютка правішчала чалавечым голасам: «Ну вось і ўсё!» Сяргей змыў барадаўку і адчуў палёгку. Ён апрацаваў ранку ёдам і пайшоў на працу, дзе старана працягваў рабіць кар'еру. Увечары на месцы адной Ліловай барадаўкі сядзелі тры новыя Ліловыя барадаўкі. Хірургі ў Бараўлянах спрабавалі ўратаваць Раманчука, але не далі рады смяротнай хваробе. Праз тры месяцы на кар'еры Сяргея Раманчука быў пастаўлены сапраўдны крыж.

## ЧОРНАЯ ЯМА

Не было ў абутніка Глеба Хлябцэвіча шчасця. Зусім ніколі не было, ні вялікага, ні нават дробнага. Нястачы, гора, нэндза — усяго такога было поўна. Таму і вырашыў Глеб пайсці ў зямлю. Ён так і сказаў: «Зямля, калі радасці жыцця я не маю, дык забірай ты мяне ў цёмныя нетры хоць зараз!» На вуліцы стаяў ледзяны пачатак красавіка, з-пад снегу толькі пачалі з'яўляцца чорныя купіны. Адна такая купіна і адказала Глебу: «Вялікіх скарбаў ты — абутнік Глеб Хлябцэвіч — не заслужыў, але дам я табе кавалак шчасця ў выглядзе Чорнай ямы. Цяпер падыдзеш да мяне, да чорнай земляной купіны, націснеш левым абцасам так, каб утварылася ямка. Гэта і будзе твая памочніца — Чорная яма. Яна будзе паглынаць і рабаваць ворагаў тваіх. Дзякуючы Чорнай яме ты зажывеш

заможна і бестурботна, шчасліва зажывеш і перастанеш раней тэрміна прасіцца ў зямлю...» Хлябцэвіч паслухаў зямлю, націснуў на купіну левым абцасам і атрымаў сабе ў памочніцы Чорну яму. Яна спрытна папаўзла па сцежцы і выпаўзла з парку Чалюскінцаў на праспект Незалежнасці. На ходніку снег папрыбіралі, і Чорная яма ператварылася ў даволі глыбокую расколіну. Тая расколіна падставілася пад нагу аднаму мінаку так, што ён спатыкнуўся і паваліўся. Мінак моцна пабіўся і выпацкаўся. Пакульгваючы, ён сышоў з месца здарэння, а расколіна вярнулася да Глеба з партманеткай, скрадзенай у небаракі. Хлябцэвіч узрадаваўся грашам, якія так проста здабыла для яго Чорная яма. Праз тыдзень, рабуючы мінакоў у розных раёнах Мінска, Глеб стаў адчуваць шчасце быцця. Нэндза, нястачы, гора-горкае і ўсё такое астатняе адышло ў мінулае. Хлябцэвіч быў падумаў, што гора яго пакінула назаўжды. Ды дзе там! Каля Палаца спорту ён вымаў з Чорнай ямы чарговую партманетку, калі на яго наляцеў міліцай. «Чужое забіраем? Крадзем? Рабуем? Я даўно за табой назіраю! Як прозвішча? Ну-у-у!» — міліцай ушчыльную насунуўся на Глеба і ўчапіўся за рукаво ягонага новюткага, тры дні як купленага аўстрыйскага манто. Абутнік Глеб Хлябцэвіч сваё прозвішча не сказаў, замест гэтага ён папрасіў Чорную яміну праглынуць цікаўнага міліцая. Праглынула, не папярхнулася. Праўда, правальваючыся ў Чорную яміну, міліцай моцна ўчапіўся ў рукаво манто, тое адарвалася і згінула ў зямной бездані разам з вельмі цікаўным міліцаем. Тры дні і тры ночы, як

зазвычай бывае ў казках, Глеб Хлябцэвіч думаў пра сваё далейшае жыццё. Нічога лепшага, як затаптаць Чорную яму сваім правым абцасам, не прыдумалася. Глеб затаптаў яму, вярнуўся ў сваё нешчаслівае будзёнае і павольнае жыццё абутніка і адчуў спакой.

## ЧЫРВОНАЯ БРОШКА

Маладая жанчына купіла ў антыкварнай краме, што на праспекце Незалежнасці, Чырвоную брошку. Дома яна акуратна начапіла брошку на свой чорны аксамітны пінжак. Яе трохгадовая дачка Юзя ўбачыла брошку і закрычала: «Хачу! Хачу! Хачу!» Жанчына паспрабавала супакоіць Юзю, але чым больш яна супакойвала дзяўчынку, тым больш патрабавальна гучала «хачу». Юзю нават сцебанулі пасам па дупе, але і гэта не падзейнічала. Змораная крыкамі маці адчапіла ад пінжака Чырвоную брошку і перадала ў дзіцячыя рукі. Юзя перастала крычаць, але пасля крыку ў яе пачалася моцная ікаўка. Каб спыніць ікаўку, маці пайшла на варэльню па ваду. Тым часам Юзя засунула Чырвоную брошку ў рот і паспрабавала праглынуць. Брошка захрасла ў горле і перакрыла дыхаўку. Калі маці вярнулася з варэльні са сподачкам гатаванай вады, яе Юзя ўжо пачала сінець. Пакуль выклікалася «хуткая», пакуль дактары ехалі, Юзя сканала. Чырвоную брошку даставалі з мёртвай дзяўчынкі. Доўгі час жанчына не ведала, што ёй рабіць з Чырвонай брошкай, а потым узяла і занесла яе на праспект Незалежнасці ў антыкварную краму.

# ШКЛЯНЫ ГРАФІН

У Хведара Баравіка вецер сарваў з хаты дах. Давялося Баравіку пазычаць у заможнага Міхася Роўды грошы пад вялікі працэнт. Калі прыйшоў час вяртаць пазыку, у Хведара патрэбнай сумы не назбіралася. Каб выблытацца з непрыемнай сітуацыі, ён набыў бутэльку віна і пляшку гарэлкі. Роўда прыйшоў забіраць пазыку, а Баравік замест рублёў паказаў шкляны графін і дзве чарачкі. Хведар сказаў, што, калі схадзіць пад калодзеж і апаласнуць чаркі свежай вадою, у графіне з'явіцца віно. Роўда не паверыў Баравіку, і яны пайшлі пад калодзеж. Вярнуўшыся, мужчыны пабачылі графін з віном, якое хутка выпілі. Выпіўшы, Хведар сказаў, што калі схадзіць да крыніцы і памыць чарачкі крыштальнай вадой, дык у графіне з'явіцца гарэлка. Пакінуўшы графін на стале, мужчыны схадзілі да крыштальнай крыніцы. Вярнушыся, яны знайшлі ў графіне праўдзівую гарэлку, якую старая Хведарава маці пераліла туды з пляшкі. Віно яна таксама пералівала з бутэлькі ў графін. Мужчыны хутка выпілі і гарэлку. Хітры Баравік прапанаваў сквапнаму Роўду забраць замест рублёў чароўны графін з чарачкамі. Захмялелы Роўда пагадзіўся на абмен. Развітваючыся, Хведар папярэдзіў Міхася, каб той тры дні і тры ночы не хадзіў з чарачкамі пад калодзеж і да крыніцы, бо графін павінен прывыкнуць да новага гаспадара. Роўда не паслухаў Баравіка і адразу накіраваўся да крыніцы, а праз гадзіну вярнуўся і сказаў, што шкляны графін не чароўны, бо не дае ні віна, ні гарэлкі. Баравік пачаў крычаць, што дурань сапсаваў графін і той больш нікому

ніколі не дасць ні глытка віна і ні кроплі гарэлкі. Мужчыны пасварыліся так, што больш не размаўлялі. Гісторыя са шкляным графінам скончылася тым, што вецер зноў сарваў дах з хаты хітрага Баравіка, і ніхто ў Грушаўцы грошы на рамонт яму не пазычыў.

## ЧОРНЫЯ ЯГАДЫ

Малады мужчына захварэў, ды так моцна, што думаў — памрэ. Абліваючыся потам, ён дайшоў да старой чараўніцы, што жыла каля Камароўкі. Тая пашкадавала хворага і дала яму сем сухіх Чорных ягад. Сказала, што кожная ягада дасць адзін год жыцця. Мужчына пражыў сем гадоў і зноў захварэў. Ён прыйшоў на кватэру да чараўніцы, але там ужо жылі іншыя людзі. Пра Чорныя ягады яны нічога не ведалі. Мужчына папрасіў дазволу зазірнуць у кухонны буфет. Там знайшоўся маленькі слоік, поўны сухіх чарніц. Добрыя людзі падарылі той слоік хвораму. На Чорных ягадах мужчына пратрымаўся семдзесят сем гадоў і яшчэ сем збіраецца пратрымацца.

## ЛАЗОВЫ ХУТАР

Некалі даўно стаяў паміж мястэчкам Койданава і вёскай Дзягільна невялічкі хутар. Называлі яго — Лазовы. На тым хутары жылі людзі з прозвішчам Лазовік, і ўсе яны былі майстрамі плесці лазовыя кошыкі. Нейкі час была мода на кашы з алюміневага дроту, але тая мода хутка

прайшла, бо алюміневы кош атрымліваўся значна цяжэйшы за лёгенькі лазовы, а таму і не зручны. Карацей, жылі на Лазовым хутары Лазовікі, а бяда ўзяла ды прыйшла да іх у хату. Бяда прыйшла, калі жонка Каруся — Маня — правалілася пад лёд. Баба ўзімку пераходзіла дзягілёнскі ручай, думала — лёд яшчэ моцны, а ён за доўгую адлігу патанчэў і трэснуў. Маня правалілася ў ледзяную ваду па пахі. Пакуль бегла дамоў прамерзла так, што атрымала запаленне лёгкіх і праз чортава запаленне згарэла за тры дні. На Лазовым хутары застаўся Карусь з дачкою Геняю. Хутаранін шукаў для сваёй дачкі новую маці, ды не знайшоў. Жанчыны не вельмі хацелі перабірацца з вёскі ці мястэчка на хутар. Можа, ён бы знайшоў сабе новую хутаранку, але ж яго забілі. Каруся Лазовіка прапароў віламі Шурык Варакса. Справа разгортвалася наступным чынам... На ўскрайку Койданава некалькі местачковых сем'яў пабудавалі вяндлярню, каб у ёй вэндзіць кумпякі ды паляндвіцы. Вэнджанае мяса і сала ўтрая смачнейшае за проста пасоленую свініну. Вэндзіць сала трэба некалькі дзён і начэй, дым мусіць ісці несупынна. Таму мужчыны зрабілі расклад і па чарзе вэндзілі свае і чужыя кумпякі. Шурык Варакса працаваў на швачнай фабрыцы, вярнуўся з другой змены стомлены. Не дзіва, што ён пасярод ночы крыху паспаў. Змарыў яго сон, а тым часам злодзей скраў вэнджаны кумпяк і ажно тры паляндвіцы. Асабліва было шкада паляндвіц. Вараксу ніхто моцна не папракаў тымі паляндвіцамі, але сам ён сябе цэлы год еў, ажно пакуль на наступны год не паставілася новая вяндлярня. Шурык правільна разлічыў, што ста-

ры злодзей прыйдзе і да новай вяндлярні. Тры ночы Шурык не спаў. Чакаў і дачакаўся. Злодзей палез у вяндлярню па паляндвіцы, а Варакса яму вілы ў спіну і ўвагнаў. Нябожчыка — Каруся Лазовіка — Варакса ў той вяндлярні і спаліў, а косткі з попелам закапаў на сваім гародзе, за прыбіральняй. Хто знойдзе? Ніхто. Такім чынам на Лазовым хутары засталася адна сямнаццацігадовая Геня. Яе бацькі нябожчыкі Карусь ды Маня пачалі ўночы прыходзіць да Шурыка Вараксы і прасіць яго, каб узяў сабе за жонку іх самотную Геню. Шурык адмаўляўся, але потым зразумеў, што Маня з Карусём ад яго так проста не адчэпяцца. Ён пайшоў на Лазовы хутар, выпіў з Геняю салодкага віна, закусілі яны віно падвэнджанай паляндвіцаю і злюбіліся. Геня ўгаварыла Шурыка прадаць дом з Лазовага хутара і самім жыць у Мінску. Так і зрабілася. Дом прадаўся, сад высеклі, калодзеж засыпалі, і цяпер на месцы таго Лазовага хутара — роўнае поле.

## РОЗНЫЯ ФАРБЫ

Вядома, я таго не пабачыў, але людзі казалі, што раней наш Мінск быў суцэльна шэры. Шэрыя цэрквы і шэрыя касцёлы, шэрыя дамы пад шэрымі дахамі, нават людзі апраналіся ва ўсё шэрае з шарачка. Быў такі матэрыял — шарачак. З яго і шылі нашы людзі свае апранахі. Шыў і Веніямін Качар сваім дочкам шыкоўныя шэрыя сукенкі. Ён пашыў і падараваў любімым дочкам сукенкі, але радасці ў іх на тварах не заўважыў. Тады вырашыў Веніямін Качар нарабіць зменаў у шэрым мінскім свеце. Ён выра-

шыў нарабіць зменаў, каб пабачыць радасць на тварах сваіх любімых дачушак — Мілусі, Алусі і Зоі. Качар пайшоў да Сонца і папрасіў чырвонай фарбы. Сонца дало Качару чырвонай фарбы, і ён пафарбаваў Зоіну адзежу ў чырвоны колер. Зоя ўзрадавалася. Так і Алуся ўзрадавалася, калі Качар пафарбаваў яе сукенку ў белы колер, які выпрасіў у Месяца. Толькі Мілуся не ўзрадавалася сваёй перафарбавай сукенцы, бо яна стала чорнай. Качар прасіў у спадарыні Ночы сіні колер, але тая наліла яму такой густой сіняй фарбы, што яна выглядала на сукенцы зусім чорнай. Мілуся так замаркоцілася, што захварэла і памерла. Яе пахавалі ў чорнай сукенцы. Але чорнае — мёртвым, а жывым — чырвонае, белае і шматколернае. Зоя і Алуся навучыліся так разводзіць белай фарбай чорную, што ў іх атрымліваўся нябесна-блакітны колер. Ён паціху і памяняў традыцыйны Мінскі шэры на новы нябесны блакітны. Так увесь наш горад зрабіўся з шэрага шматколерным, але ўлюбёнымі засталіся два колеры — чырвоны і белы, якія Веніямін Качар некалі прынёс сваім дочкам — Алусі і Зоі.

## ВОГНЕННЫ ЯБЛЫК

Местачковыя падлеткі любяць красці яблыкі. У чужым садзе яблык саладзейшы. Не столькі дзеці дастануць тых салодкіх яблыкаў, колькі наробяць шкоды. Патопчуць агуркі, паломяць кроп і цыбулю, паабтрасаюць памідоры. Вядома, што местачкоўцы кажуць, што кралі не яны, а вяскоўцы з Дзягільна ды Бакінава. Вяскоўцы

казалі на хутаран, а тыя на гарадскіх, на сталічных-мінскіх ды на цыганоў. Каб знайсці праўдзівага злодзея, стары Гулякевіч схаваўся ў сваім садзе, пад райскай яблыняю. Вопытны паляўнічы злодзея злавіў. Быў гэта школьнік-хутаранін Віця Стасевіч. Гулякевіч звязаў Віцю, заторкнуў яму рот анучаю і разоў з адзінаццаць прыпаліў хлапечы твар цыгаркаю. Моцна прыпаліў, каб знакі на ўсё жыццё засталіся. Віця як пабачыў у люстэрку свой знявечаны агнём твар, дык пайшоў у хлеў і павесіўся. Гулякевіча хацелі асудзіць, але не змаглі давесці, што менавіта ён знявечыў хлопца. На гэтым праўдзівая гісторыя скончаецца, і пачынаецца гісторыя казачная. Хутаранін Віця Стасевіч цяпер напрыканцы лета і ўвосень з'яўляецца ў беларускіх садах. Як хто з дзяцей збіраецца скрасці чужы яблык, той яблык пачынае гарэць і робіцца Вогненным яблыкам. Не возьмеш і не скрадзеш. Яшчэ ў нас на такі Вогненны яблык кажуць: Стасевічаў яблык.

## ДАМАВІК І ВЯРТАННЕ

Амаль месяц я дома не быў. Ездзіў ды лётаў па далёкім свеце. Вена, Барселона, Франкфурт. Нарэшце, пасля дванаццацігадзіннай дарогі зайшоў у сваю сцішаную доўгім чаканнем мінскую кватэру. Ад застаялага густога паветра мяне пачало смажыць. Дастаў я з валізы бутэлечку падарожнай вады, адкруціў корак і збіраўся ужо зрабіць вялікі глыток, як гладкі корак узяў ды выслізнуў з пальцаў. Ён заскакаў па дубовай падлозе і заскочыў пад кабінетную

канапу. «Так ты сустракаеш мяне, родны дом!» — падумалася. Толькі падумалася, як сіні корак павольна і бязгучна выкаціўся з-пад канапы і спыніўся каля майго запыленага чаравіка.

## БЕЛЫЯ МАЛАНКІ

Некалі ў нашым горадзе паміж скверам і рэчкай стаялі два дамы, высокі гмах заможнага Шота і крывы дамок беднага Будая. У траўні на Мінск насунулася чорная навальніца з грымотамі ды маланкамі. Адна Белая маланка пацэліла ў дамок Будаёў. Дом загарэўся. Добра, што сам Будай і ягоная Будаіха паспелі павыскокваць з полымя. Суседзі Шоты крыху дапамаглі пагарэльцам. Будаі абсталявалі пад часовае жытло нізкі пограб у адно вакенца. Пасярод ночы Будаіха сказала свайму Будаю, што трэба яму паехаць пад Заслаўе на Лысую гару, знайсці там гаспадара навальніц — Перуна, які пусціў Белую маланку і спаліў іх дамок. У Перуна варта папрасіць якой кампенсацыі, бо хто, калі не Ён, дапаможа адбудавацца. Мужчына паехаў на Лысую гару, знайшоў рудабародага Перуна і папрасіў грошы на дом. Замест грошай Той даў бяздонную бутэльку, у якой ніколі не сканчалася гарэлка. Будай пачаў паціху гандляваць Перуновай гарэлкай, добра зарабляў і на заробленае пачаў будаваць новы дамок. Ён амаль скончыў будоўлю, калі завітаў сусед Шот і прапанаваў накрыць дамок металадахоўкай, а за тую дахоўку узяў з Будая адно бяздонную

бутэльку. Базыль пабойваўся, што яго арыштуюць ды асудзяць за падпольны продаж алкаголю, таму і памяняў чароўную бутэльку на звычайную дахоўку. У новым доме Будаі пажылі не доўга, бо не паставілі маланкаадвод, і Белая маланка зноў падпаліла ім жытло. Гэтым разам да Перуна пайшла Будаіха. Замест бяздоннай бутэлькі Перун даў электрашокер. Яшчэ на Лысай гары Будаіха выпрабавала падарунак. Жанчына толькі крышачку дакранулася да выключальніка, як з шокера вылецела Белая маланка і моцна пеканула Будаіху ў руку. Пеканула так, што жанчына з гадзіну праляжала ў паралюшы. Калі Будаіха вярнулася ў Мінск, дык сказала мужу, каб пайшоў да Шотаў і расказаў пра электрашокер, які можа бараніць дом ад рабаўнікоў і бандытаў. Шот паслухаў пра новую чароўную рэч ад Перуна і вырашыў абмяняць яе на бяздонную бутэльку. Будаіха з прыхаванай радасцю аддала Шоту шокер і папярэдзіла, што выключальнік у яго тугі, бо не распрацаваны, таму трэба ціснуць на яго моцна-моцна. Дома Шот з усяе моцы націснуў на выключальнік у электрашокеры і быў забіты маланкай. Тая маланка забіла не толькі самога Шота, але і ягоную Шоціху. Яна забіла людзей і падпаліла дом. Полымя было такім вялікім, што перакінулася з дома Шотаў на пограб Будаёў. Добра, што Будаіха з Будаём не пацярпелі. Яны нават паспелі ўратаваць свой адзіны скарб — бяздонную бутэльку з нескančальнай гарэлкай. Першае, што пасля трагедыі паўстала на пажарышчы паміж рэчкай і скверам, быў высокі і зграбны маланкаадвод.

## БЕЛАЯ ТАБЛЕТКА

У мінскага аптэкара Паўлюка Абрамовіча здарылася дэпрэсія. Ён згубіў смак да жыцця. Усё навокал зрабілася прэсным, як стаялая вада ў Свіслачы. Днямі навылёт Паўлюк ляжаў на ложку тварам да шэрай сцяны. Дэпрэсія забрала яго амаль усяго, а тое дробнае, што засталося незабраным, аднойчы ўскінулася і пайшло на вуліцу. Абрамовіч ішоў праз Мінск, сам не ведаючы куды. На чорным небе ляжала белая таблетка поўні. «Каб гэта была таблетка атруты, я б яе праглынуў і такім чынам вырашыў усе свае праблемы!» — падумаў аптэкар, і адразу убачыў на дарозе белую таблетку. Яна ляжала пасярод ходніка на патрэсканым, старым асфальце. Аптэкар схапіў таблетку і праглынуў. Памёр Паўлюк Абрамовіч імгненна. Памёр пасярод дарогі, непадалёк ад невысокай царквы, што стаіць побач з хлебзаводам. Памёр ад страху, што з'еў страшэнную атруту, а Белая таблетка была ўсяго толькі бяскрыўдным placebo.

## ТОДЗЯ І МІНСКАЕ МОРА

Тодзя жыла на беразе Нёмана. Штораніцы яна любавалася ціхай вадой. Запарвалася моцная кава. З вялікім кубкам Тадзіяна падыходзіла да вакна, піла гарачы напой маленечкімі глыткамі і пазірала на сваё ўлюбёнае Мінскае мора. Яму — спакойнаму і мудраму мору — Тодзя расказвала свае сакрэты і таямніцы. Як толькі сыходзіў лёд, Тодзя пачынала купальны сезон. Спачатку про-

ста абціралася халоднай вадою, потым акуналася, а пазней плыла і нарэшце пераплывала мора туды і назад. Неяк незаўважна для сябе Тадзіяна пражыла са сваім морам сорак сем гадоў. Нічога лепшага за Мінскае мора ў яе жыцці не сустрэлася. Яно было адзіным вартым згадкі. Яно і засталося адзіным. У свой сорак восьмы жнівень Тадзіяна даплыла да сярэдзіны Мінскага мора і пайшла на дно. Ці сама яна пайшла на тое дно? Ці мора запрасіла і забрала Тадзіяну да сябе? На гэтыя пытанні няма дакладных адказаў. Адно вядома: Тодзя заўсёды любіла і ўсхваляла Мінскае мора, а мора любіла і лашчыла яе.

## ІНШАПЛАНЕТНІК І ВЕРА

Толькі не кажы мне, што ты не чакаеш сустрэчы з іншапланетнікам! Не паверу. Усе чакаюць такой сустрэчы, і ты не выключэнне. Я магу памыліцца ў апісанні аблічча, у якім ты чакаеш і бачыш іншапланетніка, але ты яго чакаеш. Хай сабе і без фанатызму, але ж чакаеш... Можаш прамаўчаць, я і так ведаю. Сам чакаў — і прычакаў. Я сустрэў іншапланетніка ў Мінску, у Круглым завулку. Толькі не трэба казаць, што ты зноў не верыш. Можна сказаць, што Круглага завулка ў Мінску няма, але ў Мінску ёсць Круглы завулак. Ты ўжо спрабаваў мяне падмануць і запэўніць, што сам не чакаеш іншапланетніка. Да цябе ён не прыйшоў. Веру. Ты чакаў і чакаеш, а ён не прыходзіў і не прыйшоў. Веру! А да мяне іншапланетнік падышоў! Які ён? Бачыш, ты паверыў, што ён падыходзіў да мяне. Паверыў, што ён прыйдзе. Галоўнае, што ты верыш...

# ШЭРАЯ ДУДКА

У Сяргея Смольскага быў сляпы брат. Каб сляпому Віктару не так сумна жылося, Сяргей зрабіў яму дудку і пафарбаваў яе ў шэры колер, каб выглядала старой і каштоўнай. Віктар навучыўся граць і заўсёды адзначаў вяртанне брата ціхім граннем на Шэрай дудцы. Аднойчы Сяргей вярнуўся дамоў, але не пачуў музыкі. Замест музыкі ён знайшоў у доме братаў труп з перарэзаным горлам. Шэрай дудкі нідзе не было. Рабаўнік не толькі зарэзаў сляпога інваліда, ён абакраў дом і знёс Шэрую дудку. Сяргей Смольскі вырашыў знайсці забойцу, вярнуць сабе Шэрую дудку і адпомсціць за брата. Ён абшукаў увесь Мінск, а потым выправіўся з Мінска ў далёкі свет. Ён абышоў шмат вёсак, мястэчак і гарадоў, пакуль пачуў, нарэшце, голас сваёй дудкі. Сяргей пайшоў на голас і знайшоў рабаўніка, які вучыўся граць на Шэрай дудцы. Смольскі падышоў да рабаўніка і спытаў: «Навошта ты зарэзаў майго брата?» Рабаўнік адказаў: «Я не ведаю цябе і не разумею, пра што ты кажаш...» — «У цябе ў руках Шэрая дудка, якую я зрабіў для сляпога брата!» — «Дудку я купіў на кірмашы ў Мсціславе! Калі не верыш, можаш паехаць у Мсціслаў. Знойдзеш там аднаногага Максіма. Ён і скажа, што прадаў мне гэтую дудку за дзесяць даляраў...» Сяргей Смольскі сумеўся і зусім быў сабраўся адпусціць злоўленага рабаўніка, але Шэрая дудка раптам заспявала чалавечым голасам: «Ён ілжэ. Ён забіў — перарэзаў горла брату твайму! Ён абрабаваў твой дом. Ён скраў мяне — Шэрую дудку! Я пакутую ў руках забойцы...» Сяргей Смольскі з Мінска доўгім нажом

забіў рабаўніка. Ударыў ён роўна ў сэрца. Шэрую дудку Сяргей занёс на Паўночныя могілкі, што ляжаць каля крэматорыя, і паклаў брату свайму Віктару на магілу.

## ГРАНАТ І ПАЭТ-БАЖАВОЎК

П'яны паэт-бажавоўк без дай нагоды бадзяўся па Камароўскім кірмашы. Ён прыпыніўся каля скрынак з садавінаю, бо захацеў паспытаць крывава-рубінавых зярнятаў са спелых пладоў гранатаў. Паэт прапанаваў гандлярцы паслухаць верш «Надта хочацца ў вырай...», а за гэта даць яму крышку бліскучых зярнятак. Ружаватварая гандлярка пачала насміхацца з паэта, пачала зневажаць бажавоўка. Напрыканцы бруднаслоўнай тырады яна плюнула паэту ў твар. Сліна, нібы драбнюткі шрот, адскочыла ад паэта і заляпіла вочы гандлярцы так, што тая аслепла. Сляпая пачала плакаць і маліць бажавоўка, каб той вярнуў зрок. Паэт толькі слабенька падзьмуў у заплаканыя вочы, і зрок вярнуўся. Сквапная гандлярка расшчодрылася, выбрала і падаравала паэту-бажавоўку найспялейшы гранат. Нейкі час увесь Камароўскі кірмаш пераказваў гісторыю пра цуд з вяртанне зроку, а паэта-бажавоўка людзі называлі святым-цудадзейнікам.

## ЧОРНЫ ДУБ

Некалі ў Мінску на беразе Свіслачы стаяў дом, перабудаваны на два канцы. Раней у тым доме былі адны дзверы. Так было, пакуль гаспа-

дар не памёр, а як толькі ён выправіўся на Кальварыю, ягоныя два сыны дом падзялілі. Падзяліўшы, перабудавалі. Пакуль дзялілі бацькаву спадчыну і перабудоўвалі дом, пачалі сварыцца. Як пачалі, так несупынна і сварыліся, ажно пакуль бацькаў дом не абрынуўся ў рэчку. Перабудаваны дом скінула ў Свіслач дрэва — Чорны дуб. Ён рос паміж дарогай і домам. Ён быў самым старым і самым вялікім дрэвам ва ўсім Мінску. Жалуды з Чорнага дуба былі памерам з добрую сліву. Іх збіралі, каб укінуць свінням. Жолуд з Чорнага дуба дапамагаў ад усіх свінскіх хваробаў. Дапамагаў ці не дапамагаў? Хто давядзе? Мінчукі верылі, што дапамагаў, таму дрэва даглядалі і ў спякотныя дні палівалі. Калі браты пачалі дзяліць і рваць напалам бацькаву спадчыну, Чорны дуб паціху пачаў перасоўвацца далей ад дарогі і бліжэй да дома. Спачатку Чорны дуб рухаўся павольна, сунуўся ледзь заўважна. Браты захваляваліся толькі тады, калі пабачылі, што велізарнае дрэва стаіць каля самай сцяны іх дома. Мужчыны пахапалі сякеры і, не спыняючы лаянкі адзін на аднаго, паспрабавалі ссячы Чорны дуб. Пакуль яны seклі неабдымны камель, Чорны дуб перасунуўся разам з домам на край стромы. Браты перасяклі камель запозна, бо дом разам з падсечаным Чорным дубам не ўтрымаўся на беразе і паляцеў са стромы ў цёмную ледзяную кастрычніцкую Свіслач. Згубіўшы дом, браты, як гэта ні дзіўна, паміryліся і з’ехалі на заробкі ў Рыгу. Старыя мінчукі моцна бедавалі, страціўшы Чорны дуб, а маладыя не бедавалі, бо не верылі ў тое, што жалуды з Чорнага дуба дапамагалі ад усіх свінскіх хваробаў.

# ЧЫРВОНАЯ КРАПІВА

На вуліцы Беларускай, што ў Мінску, жыве старая, як наш свет, баба Гэля. Яна і расказвае ўсім пра Чырвоную крапіву, якую пабачыла ў далёкім юнацтве. На Купалле разам з вясковымі хлопцамі і дзяўчатамі Гэля паліла вогнішча, піла вішнёвую наліўку, спявала, танцавала і скакала цераз агонь. Наспяваўшыся ды наскакаўшыся, моладзь пайшла ў лес шукаць сваё шчасце — Папараць-кветку. Гэлі моцна падабаўся Кастусь Кот. Яна крадком і пайшла за Кастусём. Той Кот толькі зайшоў быў у лес, толькі правёў прамянём з ліхтарыка па сасновых камлях, як у яго з-пад ног пачала вырастаць Чырвоная крапіва. Яна ўзнялася да цёмных сасновых вершалін, а потым апусцілася долу і абгарнула Кастуся Ката з ног да галавы чырвоным, як праўдзівае полымя, лісцем. Гэля спалохалася, пабегла да купальскага вогнішча і там расказала ўсім пра Чырвоную крапіву. Дзеўцы не паверылі. Ці мала што можа пабачыць п'янаватае вока неразумнай Гэлькі. Раніцай, як толькі развіднела, на беразе леса вяскоўцы знайшлі абгарэлы труп Кастуся Ката. Следства паказала, што нехта ўдарыў Ката доўгім нажом у самае сэрца, забіў, абліў газаю і падпаліў. Забойцу шукалі, ды не знайшлі. Казалі, што Ката зарэзалі і спалілі вясковыя мужчыны за крадзяжы, бо ён цягаў сала з чужых кубельцаў, краў паляндвіцы ды кіндзюкі з гарышчаў, выносіў слоікі сочыва з паграбоў. Гэля як тады гаварыла пра казачную вогненную крапіву, так і цяпер пра яе кажа: «Як убачыш, дружа, Чырвоную крапіву — уцякай! Бяжы-ляці ад яе, бо спаліць!»

# БЕЛЫ ПАЛЕЦ

Канец верасня ў Мінску выдаўся прахалодны, з пералётнымі даждамі і моцным ветрам. Выходзіць на вуліцу не хацелася. Гэля глядзела праз вакно на пажаўцелую ліпу. Там, у шапатлівых шатах, на голай сухой галінцы яна заўважыла Белы палец. Звычайны чалавечы палец ляжаў на галінцы. Каб лепей яго разгледзець, Гэля не паленавалася дастаць з шафы тэатральны бінокль. Палец нерухома ляжаў на кары, пацямнелай ад дажджоў. Гэля добра яго разгледзела, гэта быў мужчынскі ўказальны палец з правай рукі. У ім захаваліся ўсе тры фалангі. Месца, якім палец некалі мацаваўся да сваёй далоні, было роўна зацягнута цёмнай, падобнай да падсохлай лімфы плевачкай. Гэля ўзяла сотавік, каб патэлефанаваць да міліцыянтаў. Яна б патэлефанавала абавязкова, каб мёртвы палец не ажыў. Белы палец нібыта зразумеў, што яго хочуць забраць у турму, і ўстаў. Палец пастаяў на галіне зусім не доўга. Ён плаўна ўзняўся ў паветра і падляцеў да шыбы, за якой стаяла здзіваваная Гэля з тэлефонам у руцэ. Белы палец сагнуўся напалам і пастукаў у шкло так, нібыта прасіў жанчыну пусціць яго з вуліцы ў цёплую кватэру. Так Гэля вытлумачыла сабе тое пастукванне. Яна адчыніла вакно, і Белы палец разам з ледзяным ветрам апынуўся ў кватэры. Тут ён па-гаспадарску падляцеў да люстэрка, пад якім на століку стаяла касметыка і парфума. Белы палец завіс над манікюрным наборам. Гэля зразумела пажаданне Белага пальца. Той хацеў, каб яна акуратна зрэзала падламаны пазногаць і апрацавала яго пілачкай. Гэля апрацавала пазногаць і пакрыла яго

празрыстым лакам. Жанчына пяшчотна пахукала на свежа залакіраваны пазногаць, каб лак хутчэй высах. Лак высах. Палец падляцеў да Гэлінага твара і ласкава пагладзіў яе па шчацэ. Ён так пяшчотна паласціў жанчыну, што ў той, глыбока ўсярэдзіне, з’явіўся шарык радасці. Шарык той стаў павялічвацца і павялічвацца і нарэшце выбухнуў. Шарык рассыпаўся на безліч пякучых жарынак. Калі свядомасць вярнулася да Гэлі, жанчына сядзела на падлозе пад адчыненым наросцеж акном. У кватэры было халодна і моцна пахла апалай лістотай.

## МАЛАДЗЕНЬКАЯ БУЛЬБА

Лёнік Мох краў бульбу. Яшчэ ніхто ў вёсцы не пачынаў яе капаць. Не вырасла, задробная, рана. Уночы злодзей выходзіў з ляска на край чужога поля і накопваў сабе кошык дробнай, як гарох, маладзенькай бульбы. Накапае і ў лес ляціць. Каб не вайна, каб не чорны час, каб не голад, можа, таго Лёніка ніхто б і не лавіў; але ж голад, нястача, вайна ў маленькай вёсцы Рудзіца былі, як і ва ўсім астатнім вялікім свеце. Мужчыны сабраліся і дамовіліся злодзея злавіць і пакараць. Больш за ўсіх крычаў пра страшнае пакаранне сам злодзей — Лёнік Мох, бо верыў: не зловяць, не схопяць і не заб’юць. Яго падпільнавалі, пераанялі і засеклі капачамі Ян Доўнар ды Антон Нарко. Мох нават і віскнуць не паспеў. Нябожчыка на могілкі не павалаклі, закапалі там, дзе і засеклі, на ўскрайку бярозавага ляска. «Мох да моха!» — пажартаваў тады Нарко. «Добра, што так. Добра, што не Нарко ў нор-

ку!» — дадаў жарт да жарту Доўнар. Мужчыны былі ў гуморы, бо спадзяваліся, што злодзей больш не будзе абкрадаць галодную Рудзіцу. Ён і не абкрадаў, ён утварыў горшае злачынства. Недзе праз год, калі немцы сышлі, а па шашы Мінск–Брэст пасунуліся танкі Т-34. На адным з такіх танкаў і заехаў у Рудзіцу прывід Лёніка Моха. Спачатку вяскоўцы не ведалі, хто загнаў савецкі танк у вёску. Людзі сабраліся вакол машыны, усе сабраліся, важная падзея. Тут і здарылася дзіва: люк адчыніўся, і над вежаю ўзняўся прывід Лёніка Моха. Ён вылез з танка, саскочыў на зямлю, падышоў ушчыльную да Яна Доўнара і застрэліў яго з пісталета. Антон Нарко паспрабаваў уцячы, але пісталетная куля дагнала і яго. Пакараўшы забойцаў, Мох вярнуўся ў танк і з'ехаў з Рудзіцы ў мінскім напрамку. Больш на зямных дарогах яго ніхто ніколі не сустракаў. Антона Нарко і Яна Доўнара аднавяскоўцы не пахавалі на могілках, а закапалі ў бярозавым ляску, недалёка ад магілы Лёніка Моха, які некалі так неабачліва краў у суседзяў маладзенькую бульбу.

## ЧАРКА БЕЛАЙ ПАД ЛУСТАЙ ЧОРНАГА

У бяздзетнай Галіны Кумпяк памёр муж. Хавалі Кумпяка пышна, удава сродкаў не пашкадавала. Яна і дзевяць дзён адзначыла, і саракавіны справіла. Не папракнеш. Выплакалася Галіна за якіх тры месяцы і перастала на могілкі хадзіць. Кінула мужаву магілу даглядаць. Крыж пахіліўся. Капец зарос высознай травою. Напрыканцы

лета выбралася Галя ў грыбы. Год выдаўся грыбны надзіва. На Камароўскім кірмашы было поўна баравікоў і чырвонагаловікаў, бабак і махавікоў, лісічкі з груздамі таксама вока радавалі. Галя жыла на ўскрайку Мінска, таму ў лес ёй было недалёка. Навакольныя лясы яна ведала добра і грыбныя мясціны пазапаміналі ажно з юнацтва. Здавалася, пойдзе і хуценька нарэжа кошык белых. Пайшла, хадзіла, блукала і не пабачыла ніводнага добрага грыба. Паганкі і мухаморы трапляліся, а каб хоць якая сухаватая ці чарвівая сыраежка, дык і не. Нахадзіўшыся па лесе да цяжкіх ног, Галіна раптам заўважыла, што заблукала. Куды ісці? У якім баку дарога? Дзе Мінск? Не ведае! Прысела Галя на цёплую ігліцу пад высокай сасной і заснула. Здавалася — на імгненне заплюшчыла вочы, а прачнулася пад халоднай поўняю, якая высока стаяла ў чорным небе з буйнымі зорамі. Спалохалася Галя, а яшчэ больш перапалохалася, калі пабачыла цень свайго мужа — Івана Кумпяка. Ён загадаў жонцы прыбіраць магілу. Сказаў, каб крыж папраўіла, каб траву павырывала, каб на капец паставіла чарку белай і накрыла яе лустай чорнага. Раніцай Галя зрабіла ўсё, што казаў мужнябожчык. Крыж паставіла роўна. Траву выпалала і на сметнік занесла. Капец папраўіла і дзёрнам абклала. Стограмовік з пшанічнай паставіла пад крыж і накрыла лустачкай нарачанскага. Праз тыдзень сяброўкі ўгаварылі Галю пайсці ў грыбы. Адна не рызыкнула б. Сяброўкі грыбоў амаль і не знайшлі, а Галя нарэзала поўны кош крамяных баравікоў. Грыбнікі не змаглі схаваць зайздрасці. Пыталіся: «Як ты так змагла?» На што Галя казала: «Іван дапамог!»

## РАКАЛОЎ СА ШКЛЯНЫМ ВОКАМ

Сава Куль згубіў вока. Куль ішоў уздоўж гравійкі. На вялікай хуткасці яго абагнаў легкавік. З-пад колаў вылецеў камень. Ён і выбіў хлопцава вока. Давялося купіць шкляны пратэз. Штучнае вока раздражняла Саву. Калі ён перабіраў з гарэлкай, дык вымаў пратэз і разбіваў аб сцяну. Аднаго разу замест пратэза п'яны Куль выняў з сябе жывое вока. Добра, што ў час спахапіўся і не шпурлянуў у сцяну. Працверазеўшы, Сава вырашыў лавіць ракаў у Раўбічах. Вочы ён павымаў, загарнуў у хустачку, паклаў пад трыпутнік і палез пад карчы. Бязвокі Сава Куль налавіў пад чорнымі карчамі процьму вялікіх ракаў. Пакуль Сава плёхаўся ў рэчцы, на беразе з'явіўся сабака, які знайшоў і праглынуў жывое Кулява вока. Мокры Сава моцна разлаваўся, калі ў хустачцы намацаў толькі шкляны пратэз. Ён прынюхаўся да паветра і ўчуў сабаку. Цуцык і вокам міргануць не паспеў, як Сава Куль скруціў яму кашлаты голаў. У сабачых вантробах знайшлося зусім і не папсаванае жывое чалавечае вока. Ракалоў вярнуўся дадому ў Мінск, выпіў гарэлкі і добра закусіў варанымі клюшнямі ды шыйкамі.

## БЕЛЫ ПЯРСЦЁНАК І ЗЯЛЁНЫ АГУРОК

У старой Арыны быў адзін сын. Старая марыла пра ўнукаў, а ў сына не было ні жонкі, ні нявесты, нават знаёмай дзяўчыны не было. Дастала Арына са скарбонкі Белы пярсцёнак. Некалі

даўно, дзякучы гэтаму чароўнаму пярсцёнку, яе свякруха знайшла нявесту для свайго сына. Арына паехала ў гіпермаркет «Замак»... А дзе яшчэ, як не ў гіпермаркеце, ты ў нядзельную раніцу знойдзеш спраўную дзеўку? Арына прапаноўвала маладым красуням прымерыць Белы пярсцёнак. Якой падыдзе, тая і стане нявестай яе адзінца. Можа, з якой сто першай спробы пярсцёнак усё ж надзеўся на дзявочы палец. Арына завяла абранніцу да сваёй машыны і папрасіла пачакаць, пакуль сама накупляе прадуктаў для святочнага стала. Старая набрала цэлы кошык розных далікатэсаў, а зверху паклала Зялёны агурок. Дзяўчыне страх як спадабаўся агурок. Яна яго панюхала... і зацяжарыла. Пакуль жанчына хадзіла цяжарнай, яна ўвесь час прасіла мужа прыносіць з крамы салёныя агуркі. Ён насіў, ажно пакуль у іх не нарадзіўся хлопчык на вялікую радасць старой Арыне .

## ЛЯЛЬКА

Майстравіты скульптар зрабіў ляльку. Яна была рыхтык той стары скульптар. Калі ён апрануў ляльку ў сваю адзежу, дык яна зрабілася больш падобная да скульптара, чым сам скульптар, бо майстра пераапрануўся ў чужую адзежу. Дактары сказалі скульптару, што жыцця ў ім засталося на тры дні. Майстра ўспрыняў словы дактароў сур'ёзна і вырашыў падмануць смерць. Калі смерць з'явіцца ў скульптурнай майстэрні, каб забраць жыццё ў гаспадара, яна пабачыць ляльку, пераблытае яе з сапраўдным скульптарам і секане смерцедайнай касою не па чалаве-

ку, а па лялькы. Дактары скульптара не падманулі. Праз тры дні ў ягонай майстэрні з'явілася смерць і касою пасекла ляльку. Скульптар, пераапрануты ў доктара, ажно тры дні і тры ночы святкаваў перамогу. Толькі свята не можа цягнуцца вечна. За святам прыходзіць будзень. У звычайны будзень да скульптара зноў прыйшла смерць, а ён, бедны-няшчасны, за святкаваннямі ды баляваннямі не паспеў зрабіць новую падобную да сябе ляльку.

## СМЕРЦЬ І АКУЛЯРЫ

Як ты ўжо ведаеш, Смерць мае малапрывабную знешнасць. Ніхто не радуецца яе з'яўленню. Не ўзрадаваўся і доктар акуліст, калі пабачыў Смерць з касой у сваім кабінеце. «Усё!» — падумалася акулісту. «Не ўсё! Не трэба спяшацца. Я тут па іншай справе. Ведаеце, доктар, Чалавек апошнім часам здрабнеў. Людзей процьма, іх усё больш і больш, а тым часам Чалавек робіцца ўсё меншым, нязначным, нікчэмным. Мізарнее Чалавек. Мая праца знітаваная якраз з Чалавекам. Ён змяншаецца, а мне ж трэба яго добра бачыць. Каб выправіць у небыццё менавіта таго, каго трэба. Апошнім часам пачала я памыляцца. Замест старога карча забіраю хлопчыка-шчаўліка, замест старой каргі кашу дзяўчыну-красачку. Кепска. Нягожа. Дрэнна. Трэба выпраўляцца, трэба акуляры насіць. Узрост. Самі разумееце. Ну і Чалавек здрабнеў...» Акуліст падабраў зненавіднай Смерці акуляры і выпісаў рэцэпт. Доктар даваў клятву дапамагаць хворым, і клятву тую не парушаў ніколі. Смерць пахваліла акуліста за

добрую працу і закасіла яго сваёй найвастрэйшай у свеце касою. Смерць любіць рабіць адным разам дзве справы, такі ў яе стыль.

## СОН І ЖАХІ

Грыша Кухар убачыў у сне сваю дачку — трынаццацігадовую Ніку. Яна вярталася са школы, калі на яе напаў сусед — сівагаловы Шура Амельяновіч. Шура зацягнуў Ніку ў сутарэнні, там яе згвалціў, задушыў і яшчэ раз згвалціў. Кухар ведаў, што Амельяновіч — сціплы, выхаваны, сямейны чалавек, які працуе інжынерам на заводзе, дзе робяць лядоўні «Атлант-Мінск». Грыша разумеў, што Шура не забіваў і не гвалціў задушаную Ніку. Разумеў, ведаў, а стрымаць сябе не змог. Ён падпільнаваў суседа ў пад'ездзе, і калі той закурваў цыгарэту, разваліў яму галаў сякерою. Грышу Кухара не судзілі, прызналі за вар'ята і закрылі ў лякарні.

## ШЭРАЯ МАДОННА

У трэцяй бальніцы, што побач са стадыёнам «Дынама», ёсць радзільны дом. Ён праславіўся на ўсю сталіцу добрымі акушэрамі, але шчасце заўсёды жыве побач з горам, нехта нараджаецца, а нехта і пакідае наш свет. Адна цяжарная ўзяла ды сканала у час родаў. Сама парадзіха памерла, і яе дзяўчынку ўратаваць не змаглі. Тут і высветлілася, што ніякіх блізкіх людзей у памерлых няма. Супрацоўнікам радзільні давялося за дзяржаўны кошт крэміраваць жанчыну

і немаўля. Ніхто не ведае, што ў тых сумных падзеях зрабілі не так, але прывід памерлай парадзіхі з мёртвай дзяўчынкай на руках пачаў з'яўляцца каля трэцяй бальніцы. Той прывід людзі назвалі Шэрая мадонна, бо твар у яе быў попельны і вопратка прысыпана пылам. Яна хадзіла пад вербамі каля рэчкі і спявала сваёй дзяўчынцы сумную калыханку пра шапаткі чарот, які хоча пайсці ў далёкі край і не можа скрануцца з месца. Калі ж ёй на дарозе трапляўся чалавек, Шэрая мадонна нападала на яго і старалася сваімі доўгімі і вострымі пазногцямі разадраць твар. Ад нападаў Шэрай мадонны пацярпела шмат людзей, нават спартоўцы са стадыёна пачалі пабойвацца прывіда. Каб спыніць гэты гвалт, супрацоўнікі бальніцы сабралі грошы і нанялі ведзьмака. Той нейкім чынам прымусіў Шэрую мадонну пакінуць свет жывых, але пасля гэтага цэлых тры дні і тры ночы несупынна піў белую і не закусваў.

# ГІСТОРЫІ ПРА ГОРАД



# ЧОРНАЯ ДУША

Раней ў Рагнеда Карташэвіча была светлая і чыстая душа. Ён рабіў запамінальныя тэатральныя дэкарацыі, прыдумляў эфектныя касцюмы для артыстаў, маляваў кідкія плакаты. Карташэвіч быў выбітным тэатральным мастаком. Яго паважалі. Любілі! Праўда, заробкі ў Рагнеда былі сціплыя. Яму надакучыла беднасць, і ён пайшоў зарабляць чорны нал на вытворчасці тэлесерыялаў. За пару гадоў мастак ператварыўся ў цынічнага халтуршчыка, а ягоная душа пацямнела і загніла. Надоечы я сустрэў Рагнеда Карташэвіча на мосце каля Траецкага прадмесця. Ён ішоў насустрач і ўсміхаўся. Ён усміхаўся, бо не думаў, што я бачу яго чорную, падобную да гнілой грушкі, смярдзючую душу. Я не адказаў на ўсмешку. Мы не павіталіся. Нам няма пра што гаварыць.

# ЗЯЛЁНЫ ХАЛАТ

У краме «1000 дробязяў» некалі даўно прадавалася 15 пластмасавых чалавечкаў. На кожным з іх быў свой нацыянальны строй. Беларускі касцюм упрыгожваў жанчыну. Таму я — другакласнік — папрасіў маці набыць на мой дзень народзінаў маленечкага туркмена ў шэрай чалме, шэрых ботах і Зялёным халаце, падперазаным шэрай хусткай. Мой пластмасавы чалавек належыў да ваяўнічых басмачоў, што змагаліся з чырвонаармейцамі. Такіх экзатычных салдатаў ні ў кога з маіх сяброў і аднакласнікаў не было, а я і не выхваляўся перад імі. Басмач быў

маёй таямніцаю. Жыў мой туркмен у скарбонцы. Аднойчы ён папрасіў, каб я сабраў грошы і набыў яму сябрука — малдаваніна ў чорным каўпаку. Я пачаў эканоміць і збіраць капейкі. Па адной, па тры адкладаў з рэшты за школьны сняданак. Трэба было назбіраць ажно 50. Збіраў і хадзіў у «1000 дробязяў» глядзець на лялечных людзей у вялікім зашклёным стэлажы. Першымі прадаліся жанчыны. Яно і зразумела, дзяўчатам больш падабаліся жаночыя строі, і яны пакуплялі сабе беларусак, рускіх, латышак, кіргізак і грузінак. Мужчыны купляліся горш, але нехта набыў украінца, а крыху пазней знік армянін, узбек і таджык. Я пачаў хвалявацца, каб хто не купіў малдаваніна, бо мой басмач застанецца без таварыша. Так і здарылася. Калі назбіралася патрэбная сума і я прыйшоў у краму, з цацачнага народу засталася адна эстонка. Я пабег да свайго туркмена, каб папытацца... Ці падыдзе яму ў таварышы жанчына ў эстонскім строі? Я бег, спяшаўся, але спазніўся. Мой басмач пакінуў скарбонку і сышоў у сваю далёкую Туркменію. На памяць пра нашае таемнае сяброўства ён пакінуў у драўлянай скарбонцы свой маленечкі Зялёны халат.

## ЦЁМНЫ ГІЯЦЫНТ

Фларыян Разумовіч хадзіў на працу пешкі. Па два разы на дзень ён праходзіў каля цырка. У сонечныя дні там стаяў конь, на якім за невялікія грошы дзяўчына катала дзяцей. Усе дзеці любілі чорнага каня. Усім дзецям хацелася пасядзець на кані, сфатаграфавацца з канём,

пакарміць каня падсушаным хлебам. Любіў каня і стары чыноўнік Разумовіч. У адзін пагодны дзень Фларыян Разумовіч падышоў да цырка, спыніўся і вырашыў, што больш не пойдзе на працу ў рэзідэнцыю прэзідэнта, а застанецца каля цыркавых калон у выглядзе белага каня. Разумовіч зрабіўся белым канём і падышоў да дзяўчыны, што апекавалася канём чорным. Дзяўчына здзівілася і ўзрадавалася. Яна катала дзяцей на конях, а ўвечары завяла коней у загарадную стайню. Новаму каню ў стайні не спадабалася, яму было там няўтульна і халодна. Раніцай па дарозе да цырка белы конь пабачыў хлопца з белым сабакам. Хлопец гладзіў сабаку па галаве. Каню захацелася стаць сабакам, якога выгульваюць у скверыку каля опернага тэатра і ягога пяшчотна гладзяць па галаве. Белы конь перакінуўся ў чорнага сабачку і падбег да хлопчыка. Той пагладзіў яго па галаве. Новы сабака быў шчаслівы тры дні. Ён жыў у маленькай кватэрцы на вуліцы Алаізы Пашкевіч, ён еў два разы на дзень варанае мяса, яго гладзілі па галаве. Толькі свайго вялікага белага сабаку гаспадар любіў больш за прыблуднага чорнага. Таму чорны сабака збег ад хлопчыка. Сабака бег па горадзе, бег доўга, бег, пакуль не пабачыў дзяўчынку са слабой галавой. Дзяўчынка трымала на руках чорнае кацянятка. Чорны сабака стаў белым кацяняткам і падышоў да дзяўчынкі са слабой галавой. Дзяўчынка выкінула чорнае кацянятка і ўзяла на рукі белае. Яна так прыціснула новае кацянятка да грудзей, што ледзь не задавіла. Кацянятка каўкнула, падрапала неразумную дзяўчынку і скочыла на зямлю. Дзяўчынка паспрабавала злавіць злое кацяня, але

яно ўскараскалася на ліпу. На вершаліне ліпы сядзела пташачка — блакітніца. Кацяня набралася смеласці і зрабілася блакітніцай. Тры дні і тры ночы чыноўнік Фларыян Разумовіч пражыў на мінскіх вуліцах у выглядзе лёгкакрылай блакітніцы, а потым яму захацелася цішыні, запаволенасці і глыбокага спакою. Фларыян стаў круглавокай памаранчыкавай акварыумнай рыбінай. Акварыум, дзе плавала новая рыбіна, стаяў у кавярні. Аднойчы за столік, што мясціўся каля акварыума, селі закаханыя. Мужчына падараваў жанчыне гіяцынт у сінім гаршчэчку. Жанчына радавалася кветцы, казала, што ў яе чароўны густы вечаровы водар. Памаранчыкавая рыбіна ператварылася ў Цёмны гіяцынт, што з'явіўся ў маленькім залатым гаршчэчку. Жанчына ўзрадавалася новаму падарунку. Кветкі яна занесла дамоў і паставіла на падваконне. За тры дні і тры ночы Фларыян ператвараўся ў гіяцынтавы водар. Яму падабалася быць водарам. Фларыян Разумовіч увесь зрабіўся водарам, бо не захацеў больш нікім быць.

## ЗАЛАТАЯ ЛІСА

Зіма выдалася снежнай, а вясна прыйшла са спазненнем, таму паводкі ў той год былі вялікія. Мінскае мора паднялося і пазатапіла навакольныя пабудовы. Вада прыйшла і ў дачны дамок Сяргея Покуця. Калі Сяргей на маторнай лодцы падплыў да ўлюбёнага дамка, дык пабачыў, што вада стаіць у ім па самыя вокны. Ён моцна зaперажываў за сапсаваную мэблю і знішчаную ў пограбе бульбу ды моркву, толькі ўсе пераж

ванні выветрыліся, калі ён убачыў на шыферным даху Залатую лісу. «Выратуй мяне, дарагі чалавек, а я табе аддзячу!» — папрасіла ліса. «Чым ты, хітрая, аддзячыць зможаш?» — пацікавіўся Покуць. «Сёння субота! Кожную суботу я буду прыходзіць раніцай да твайго дамка і пакідаць табе на ганку каштоўную рэч. Выратуй мяне, не пашкадуеш...» Сяргей перавёз Залатую лісу ў сухі лес, там яна скочыла за елку і прапала, як і не было. Дачнік і не спадзяваўся на ўдзячнасць хітрадушнага звера, але ў суботу паехаў прыбірацца пасля паводкі. На ганку бруднага пасля сыходу вады дамка яго чакала дзіва — залатая брошка ў выглядзе махаона, крылы залатога матыля колка паблісквалі дыяментамі. Ліса не падманула свайго выратавальніка і раз на тыдзень прыносіла яму каштоўную рэч. Яна прынесла вялікі мужчынкі пярсцёнак з пераплеценымі літарамі «с» ды «п», які расчуліў Сяргея Покуця. Прынесла мужчынскі нашыйны ланцуг з белага золата, цыбулю гадзінніка, завушніцу са смарагдам, бранзалеты... За год Залатая ліса напрыносіла на дачны ганак столькі каштоўных рэчаў, што Покуць змог адкрыць у цэнтры Мінска, каля Палаца мастацтва невялічкую ювелірную краму, якую назваў проста «Золата». Справы ў краме ішлі добра, бо рэчы, прынесеныя Залатой лісою, былі ўнікальныя і найвышэйшай якасці. Адзінай праблемай было тое, што кожную суботу Покуцю трэба было ездзіць на дачу. Аднаго разу, калі Сяргей выбіраўся на выходныя ў Вільню, ён расказаў жонцы пра Залатую лісу і папрасіў забраць з ганка сваю каштоўнасць. Жанчына вырашыла, што лепей будзе злавіць звера і выпытаць у яго

пра скарб, каб забраць усё і адразу. План палявання на Залатую лісу праваліўся, і не проста праваліўся, а скончыўся драмай. Жанчына паспрабавала накінуць на звера сетку, але звер ёсць звер. Ліса выслізнула з-пад сеткі, скочыла лапамі жанчыне на грудзі і зубамі разарвала ёй горла. Вярнуўшыся з Вільні, Сяргей Покуць знайшоў на дачным ганку замест чарговай каштоўнасці сваю жонку з разарваным горлам. Забойцу жанчыны, зразумела, ніхто не знайшоў. Залатой лісы Сяргей Покуць больш ніколі не бачыў, але справы ў ягонай краме «Золата» ідуць, як ні дзіўна, вельмі добра.

## БЛАКІТНЫ ДОМ

Валерка Крыловіч жыў з маці ў маленечкай кватэры шэрага пяціпавярховіка, што стаяў на вуліцы Маўра. Ніякіх блізкіх сваякоў у тых Крыловічаў не праглядалася, таму яны не хадзілі на вяселлі, хрэсьбіны ды пахаванні, як звычайна ходзяць людзі. Смерць суседкі так моцна ўразіла юнака Валерку, што ён вырашыў выратаваць сябе і маці ад гэтай страшнай з'явы. Як ратавацца ад смерці? Ад сваіх аднагрупнікаў, з якімі вучыўся на цырульніка, ён краем вуха пачуў, што ў Мінску нібыта ёсць дом, які смерць не бачыць і таму абыходзіць. Крыловіч вырашыў уважліва паглядзець на ўсе дамы ў нашай сталіцы, каб знайсці патрэбны. Ён раздрукаваў падрабязную карту і вольны час прысвяціў пошукам. Па дарозе да бессмяротнасці ён знайшоў у сутарэннях Акадэміі мастацтваў чалавека з двума скрынямі пяску. Штодня стагадовы дзед

перакладаў па пяшчынцы з адной скрыні ў другую. Ён сказаў, што калі перакладзе ўвесь пясок — тэрмін ягонага жыцця скончыцца. На вуліцы Парніковай, у кутку шкляной цяпліцы Валерка пазнаёміўся са стагадовай бабай, якая сядзела каля дзвюх бочак. Яна кожную ноч брала з поўнай бочкі кропельку вады і кідала яе ў другую. Калі ўся вада з адной бочкі апынецца ў другой, баба памрэ. Ад пясочнага дзеда юнак даведаўся, што патрэбны яму дом стаіць недзе ў батанічным садзе. Ад вадзяной бабы ён пачуў, што болей за ўсіх пра таямнічы дом ведае вартаўнік, які ўночы ахоўвае сад. Вартаўнік не адразу расказаў пра дом, якога не бачыць смерць, але пазней раскрыў таямніцу, бо Валера Крыловіч паабяцаў вярнуцца з таго дома ў наш свет, каб распавесці пра неўміручасць. Дом, які шукаў юнак, стаяў на беразе маленькага возера. Убачыць яго можна было толькі ў ясную ноч, калі на небе стаіць поўня. Напярэдадні такой месячнай ночы вартаўнік схаваў юнака за густой ялінай, каб той змог крадком зірнуць на таямнічы дом. Юнак доўга чакаў і ледзь не заснуў пад дрэвам, але ўсё ж дачакаўся маляўнічага відовішча. Месяцавае святло падала на возера так, што ад аднаго берага да другога ляжала срэбная сцяжына. Яна якраз і вяла ў Блакітны дом. Удзень той дом юнак не бачыў. Ён мог паклясціся жыццём роднай маці, што раней на месцы дома быў вялікі кветнік. З Блакітнага дома на бераг возера выйшла доўгавалосая русалка. Яна пайшла праз возера па месяцовым святле. Яна ішла па хісткім зіхаценні і расчэсвала светлыя валасы срэбным грабеньчыкам. Юнак выйшаў са сховішча насустрач

русалцы. Ён падышоў да яе, узяў срэбны грабеньчык і пачаў акуратна расчэсваць яе зблытаныя валасы. Русалцы спадабалася, як юнак старанна расчэсвае яе доўгія валасы. Яна завяла Валерку Крыловіча па сцяжыне са святла ў Блакітны дом. Там яна стала ягонай жонкай. Там малады цырульнік пражыў сто гадоў як адзін дзень. Ён пражыў у Блакітным доме сто гадоў і толькі потым схамянуўся, што абяцаў вартаўніку вярнуцца і расказаць пра неўміручасць. Русалка дала яму ў дарогу клубочак срэбных нітак. Каб ён перакінуў клубочак праз возера і па нітцы перайшоў з аднаго берага на другі. Па срэбнай нітцы Валерка Крыловіч перайшоў з бессмяротнасці ў новы Мінск. За сто гадоў горад моцна змяніўся. У батанічным садзе працавалі зусім іншыя начныя вартаўнікі. На вуліцы Маўра ніхто не мог згадаць шэры пяціпавярховы дом, дзе некалі жыла маці цырульніка Крыловіча. Нават імя першага прэзідэнта ніхто не памятаў, бо Беларусь даўно стала еўрапейскай парламенцкай рэспублікай. Валерка пахадзіў-пагуляў па абноўленай сталіцы і вярнуўся ў Блакітны дом. Ён вярнуўся да сваёй любімай доўгавалосай русалкі, каб больш ніколі не пакідаць яе.

## ЧЫРВОНАЯ СТРАЛА

Некалі ў Мінску працаваў рыжы таксоўшчык. Рудавалосых і рабацiністых сярод таксоўшчыкаў хапае, але гэты быў вогненна-руды. На такога толькі зірнеш, і твой язык сам скажа: рыжы. Была ў таго таксоўшчыка яшчэ адна

адметнасць — ён ніколі не ездзіў у Астрашыцкі Гарадок. Колькі яму ні прапаноўвалі паехаць у той гарадок, ён адмаўляўся, аджартоўваўся, а калі настойвалі — злаваўся і сварыўся. Гэткія паводзіны зацікавілі іншых таксоўшчыкаў, яны змовіліся, паехалі на пікнік, дзе гарэлкай напаілі рыжага. П'янога таварыша яны завезлі ў Астрашыцкі Гарадок і паклалі каля возера. Толькі яны паклалі свайго рыжыка на прыазёрны мурог, як вада ў возеры закіпела і з кіпеня выпаўз пачварны чырванакрылы цмок. Ён дыхнуў на свет сінім дымам, і ад таго дыму Астрашыцкі Гарадок скамянеў. Скамянелі будынкі і машыны, скамянелі сабакі і каты, скамянелі людзі. У каменных калысках ляжалі каменныя дзеці, спавітыя ў каменныя пялюшкі. На каменных галінах каменных яблынь віселі каменныя яблыкі. Побач з каменнымі яблыкамі на каменных галінах сядзелі каменныя птушкі. Цмок пабудзіў рыжага таксоўшчыка і сказаў: «Сынок, як добра, што ты вярнуўся да свайго бацькі! Я так доўга чакаў твайго вяртання, і нарэшце — дачакаўся. Цяпер мы разам будзем жыць і кіраваць светам людзей. Калі хто паўстане супроць нас, той адразу і скамянее...» Рыжы таксоўшчык зазлаваў і наліўся чырванню. Ён зрабіўся чырванейшы за пачварнага цмока, ён ператварыўся ў Чырвоную стралу, якая паляцела і працяла цмокава чорнае сэрца навылёт. Цмок сканаў. Як толькі ён сканаў, навакольны свет вызваліўся ад скамянення. Астрашыцкі Гарадок зноў пачаў дыхаць і жыць сваім павольным і спакойным жыццём. Пасля ператварэння ў Чырвоную стралу таксоўшчык страціў сваю запамінальную вог-

неннасць, цяпер ён проста сівы мужчына, цяпер ён проста звычайны працаўнік, які возіць людзей па Мінску.

## ЧЫРВОНЫ ДАХ

Штодня на золку Ігар Насовіч выгульваў сабаку каля Паўночных могілак. Там ён і пабачыў, як мужчыны выцягнулі з магілы нябожчыка і павалаклі ў бок сметніка. Маючы ратвейлера і байцоўскі характар, Ігар вырашыў пераняць мужчын і папытаць: «Нашто вы дасталі нябожчыка з магілы?» — «Ён вінаваты грошы. Спагнаць пазыку мы не зможам. Дык хай ён валяецца на сметніку пад дажджом, а не адпачывае ў сухой труне на жоўтым пясочку!» Насовіч пацікавіўся пра памер пазыкі. На яго розум, яна была не такая ўжо і вялікая. Ігар паабяцаў сплаціць пазыку, з адной умовай, што мужчыны вернуць нябожчыка ў яго сухую магілу, пад просты крыж. Мужчыны паклалі нябожчыка ў сухую труну. Ігар Насовіч сплаціў за гэта 300 даляраў. На тым гісторыя пра Паўночныя могілкі магла і скончыцца, але яна не скончылася, бо нябожчык — Руслан Лапка — паўстаў з зямлі і прыйшоў да Ігара, каб аддзячыць за вернутую пазыку. Насовіч доўга думаў, якую такую працу на 300 даляраў можна даручыць Руслану. Нічога лепшага, як паставіць новы дах у сваім дамку на лецішчы, Насовіч не прыдумаў. Руслан Лапка паабяцаў пачаць працу неадкладна. Праз тры дні ў дамка на лецішчы Ігара быў новы Чырвоны дах з бліскучай металадахоўкі; суседзі-дачнікі ажно пазайздросцілі.

# ШЭРЫ БУДАЎНІК І ВЯСНОВЫ ВЕТРЫК

У Мінску ішоў палацны бум. Хто толькі не атрымаў палаца? Мастакі атрымалі Палац мастацтва. Чыгуначнікі — Палац чыгуначнікаў. Хакеісты — Лядовы палац. Бібліятэкары з бібліятэкаркамі — палац бібліятэчны. Спартоўцы — Палац спорту. Рэспубліка займела Палац рэспублікі. Прафсаюзы — Палац прафсаюзаў. Новы час у нашай сталіцы, як і ва ўсім нашым краі, можна смела называць часам палацаў вялікіх і малых. Адно кепска — усе нашы найноўшыя палацы шэра-барачнага колеру і будуе іх Шэры будаўнік. Ён і сабе збудаваў вялізны Палац будаўніка. Шэры будаўнік не толькі збудаваў сабе самы вялікі палац, ён яшчэ загадаў сваім памагатым усхваляць той палац. Памагатыя не толькі самі ўсхвалялі палац, але і прымушалі іншых хваліць змрочную будыніну, падобную да старога завадскога корпуса. Пярэчыць Шэраму будаўніку ніхто не наважваўся. Запярэчыш — сабе горш зробіш! Таму неяк занадта моцна прагучалі словы паэта, які асцярожна сказаў, што свежы вясновы ветрык лепшы за палац Шэрага будаўніка. Той, пачуўшы пра ветрык, загадаў прывесці паэта ў палац. Калі паэт стаяў на тоўстым кіліме, будаўнік спытаўся, чаму вясновы вецер лепшым за вялікі палац. Паэт сказаў, што вясновы ветрык аднолькавы для ўсіх. Ён прыносіць радасную вестку пра аднаўленне прыроды. Яму па-сапраўднаму радуюцца ў нашым беларускім краі. Шэры будаўнік вырашыў паспрачацца з паэтам і пабудаваць народны палац у гонар вясновага ветра. Ён пра-

ектаваў і будаваў, перабудоўваў і перафарбоўваў новазбудаванае. Будаваць, вядома, лепей, чым ваяваць ды руйнаваць! Ніхто і не спрачаецца, але не ўсё збудаванае радуе наша вока. Палац для вясновага ветра не атрымаўся, бо колькі ні спрабаваў Шэры будаўнік злавіць і загнаць у палац ветрык, так і не загнаў, так і не злавіў.

## ШЭРАЯ СКРЫНКА

Яня Кныш любіла свайго мужа — Васіля. Ён любіў сваю Яню. На срэбным вяселлі Яня так расчулілася, што паабяцала Кнышу любіць яго і пасля смерці. Ён у адказ паабяцаў жонцы не жаніцца пасля яе пахавання. Такія абяцанкі здаваліся Кнышам дасціпнымі жартамі. Яны і былі жартамі, пакуль Васіль раптоўна не памёр. Яня спаліла мужа ў крэматорыі, а Шэрую скрынку з прахам замуравала на верхняй паліцы калякрэматорнага калумбарыя. Шэрую скрынку Яня Кныш адведвала кожныя выходныя. У адзін дажджысты суботні ранак да яе падышоў самавіты мужчына з вялікім шэрым парасонам. Мужчына сказаў, што прыходзіць у калумбарый адведваць прах жонкі. Ён некалі ёй паабяцаў, што будзе любіць яе і пасля смерці, але пабачыў Яню і закахаўся. Жанчына не паверыла мужчыну, але расказала яму пра ўласнае абяцанне любіць Васіля Кныша пасля ягонай смерці і больш ніколі не выходзіць замуж. Мужчына паспачуваў і зрабіў Яніне нечаканую прапанову. Прапанаваў выйсці за яго замуж. Яня хвіліну памаўчала і пагадзілася. Было адчуванне, што са стромы яна скочыла ў бяздонную рэчку. Жан-

чына ледзь прытомнасць не страціла ад сваёй жа згоды. Мужчына заўсміхаўся і прапанаваў ускрыць нішу, дастаць Шэрую скрынку з прахам Васіля Кныша і высыпаць той прах у кантэйнер са смеццем. «Каб ён нас болей не трывожыў!» — патлумачыў мужчына. Яня і на гэта пагадзілася. Мужчына ўскрыў нішу. Жанчына дастала з нішы Шэрую скрынку. Занесла яе сметнік. Высыпала прах Кныша ў кантэйнер. Калі яна азірнулася, каб усміхнуцца свайму новаму, як яна спадзявалася, мужу, дык пабачыла пад шэрым парасонам рагатага чорта. Ён затупатаў капытамі, зарагатаў і прапаў, пакінуўшы пасля сябе сівыя пасмы смуродлівага дыму і стары дзіравы паламаны парасон.

## БЕК І СЛАВА

Быў час, калі мінскія хлопцы хадзілі біцца — раён на раён. Наш раён Апанскага хадзіў пад кінатэатар «Сучаснік» біцца з раёнам Харкаўскай. Завадатарам тых шматлюдных боек быў з нашага боку Слава, а з іх боку — Бек. Яны — Бек ды Слава — біліся першымі. Была такая дамова: калі нехта з іх атрымае чыстую перамогу, дык вялікай бойкі не будзе. Калі чыстай перамогі не атрымаецца, тады ўжо замалоцяцца банда на банду. Біліся мы за Кальварыйскія могілкі. Яны ляжалі паміж Апанскага і Харкаўскай. Яны былі спрэчнай тэрыторыяй, дзе гулялі і харкаўскія, і апанскія. Паміж крыжоў адбывалася шмат дробных сутычак і боек, таму і дамовіліся на бойку вялікую. Яе распачалі Бек са Славам. Першым ударам Слава разбіў Беку нос.

Юшка заліла Бекаву белую кашулю. Раз’юшаны Бек садануў ворагу кулаком у вока. Яно адразу заплыло крывёю. Слава з Бекам біліся хвілін дзесяць. Махаліся за ўсю мазуту. Ні адзін з іх не змог перамагчы. Таму і закруцілася малацілаўка сцяны на сцяну. Нехта выклікаў міліцаяў. Іх панаехала процьма. Бойка набыла іншы кшталт. Цяпер цывільныя біліся з пагонаносцамі. Міліцаяў наязджала ўсё болей і болей. Цывільным давялося адступаць і хавацца на начной Кальварыі. Кагосьці злавілі адразу. Некага знайшлі пазней. Хлопцаў судзілі, але больш за пятнаццаць сутак нікому не далі. Звычайная гісторыя, скажаш. Яна і была б звычайнай, каб не прапалі Слава і Бек. Яны зніклі зусім, як і не было. Колькі хто ні шукаў, ніхто ніякага следу не знайшоў. Такая, брат, мінская казка з кінатэатрам «Сучаснік» атрымалася.

## ШЭРАЯ ГАЛУБКА

Малады мужчына Міхал Міклашэўскі кожную раніцу бегаў уздоўж рэчкі праз парк. На шурпатым парапеце, каля каменннай альтанкі, што стаіць блізу генштаба, Міхал шматкроць бачыў Шэрую галубку. Яна зацікаўлена пазірала круглым вокам на задыханага Міклашэўскага. Мужчыну нават падалося, што птушка з яго насміхаецца. Каб адчапіцца ад непрыемных падазранняў, Міхал пачаў вітацца з галубкай, але тая не адказвала ўзаемнасцю. Тады Міклашэўскі, мінаючы альтанку, наблізіўся да парапета і схапіў птушку. Ён хацеў быў прытуліць галубку да грудзей, каб не вырвалася, але замест Шэрай

галубкі мужчына прытуліў шэравокую прыгажуню. Міхал спалохаўся не таго, што птушка перакінулася ў жанчыну, а таго, што жанчына была цалкам голая. Міклашэўскі скінуў з сябе байку і ахінуў ёю прыгажуню. Можна лёгка здагадацца, што шэравокая прыгажуня стала жонкай Міхала Міклашэўскага. Жылі яны шчасліва, ажно пакуль Міхал не напіўся з сябрамі і не пасварыўся з жонкай. Ён не проста з ёй пасварыўся, ён яе паспрабаваў ударыць. Здавалася, што мужчынскі кулак вось-вось разаб'е жаночы тварык. Але жанчына раптам абярнулася Шэрай галубкай і вылецела ў адчыненыя балконныя дзверы. Міхал Міклашэўскі яшчэ ўбачыў, як шэрая птушка зрабіла ў небе вялікі круг над каменнай альтанкай, а потым знікла ў вечаровай надрэчнай смузе.

## ЧЫРВОНЫ ТУФЛІК

Інжынер Васіль Гладкевіч вёў спакойнае жыццё старога халасцяка. Большасць таго жыцця працякло ў невялічкай кватэрцы, што месціцца над кнігарняй «Маладосць» на вуліцы Багдановіча ў Мінску. Пад сваімі вокнамі Гладкевіч і пабачыў жудаснае здарэнне. Маладая жанчынка ў чырвоных туфліках перабягала вуліцу. Жоўтая таксоўка збіла яе. Ды так збіла, што адна жаночая нага адарвалася ад тулава і заляцела ажно на кветнік перад кнігарняй. Уражаны пабачаным інжынер тры ночы не мог заснуць. Адарваная нага ў Чырвоным туфліку стаяла ўваччу. За тры ночы і тры дні Васіль так стаміўся, што, заснуўшы, праспаў цэлыя суткі. Калі ён

расплюшчыў вочы, дык пабачыў у сваім фатэлі жаночую нагу, абутую ў Чырвоны туфлік на высозным абцасе. На назе была белая панчоха. Месца адрыва ад тулава было акуратна прыкрыта белым пластыкавым авалам. Можна сказаць, што жаночая нага выглядала вельмі нават прывабна, бо нагадвала выдатна зроблены вітрынны манекен. Думка пра манекен крыху супакоіла Гладкевіча. Ён падышоў да фатэля і памацаў жаночую нагу. Сумневаў не засталося — сапраўдная чалавечая нага, цёплая і прывабная. Ад страху Васіль закрычаў. Ён спадзяваўся, што доўгім крыкам напалохае нагу. Спадзевы спраўдзіліся, і нага прапала. Узрадаваны халасцяк пайшоў у лазенку, дзе прыняў кантрасны душ. Вярнуўшыся ў пакой, Васіль асцярожна агледзеў фатэль. Нагі нідзе не было, але пад фатэлем ляжаў жаночы Чырвоны туфлік.

## БЕЛЫЯ ЛЯЛЬКІ

Рудагаловы Пятро Васілевіч пісаў хоку. Ён гадзінамі блукаў па Мінску, каб знайсці светлы матыў і скласці верш. У Васілевіча даволі добра атрымліваліся лірычныя замалёўкі, зробленыя з натуры. Іх ухваліла старая маскоўская паэтка Вера Матвеева. Пятро пачаў ездзіць да Матвеевай у госці. Старая распавядала яму пра сакрэты паэтычнага майстэрства, а ў час іх апошняй сустрэчы падаравала маленькую кардонную скрыначку з папяровымі Белымі лялькамі. Дорачы скрыначку, Вера папрасіла маладога паэта заўсёды насіць яе з сабой. Тая скрыначка была меншай, чым скрыначка ад запалак, таму Пятро

заўжды трымаў яе ў сваёй сумцы. Гады тры прамінула з таго дня, як Вера Матвеева сышла ў нябыт. Васілевіч наважыўся быў пакінуць дома скрыначку з Белымі лялькамі, але ў апошні момант перадумаў. Ён па сваёй завядзёнцы зноў блукаў па Мінску ў пошуках лірычных настрояў. Ён падышоў да кінатэтра «Беларусь», дзе яго запыніла купка бандзюкаватых падлеткаў. Пагражаючы нажамі ды кастэтамі, падлеткі запатрабавалі ў Пятра партманетку з грашыма і сотавік. Васілевіч расшпіліў маланку на сумцы. Скарбонка з Белымі лялькамі выпала на зямлю. Белыя лялькі пачалі павялічвацца. З белых і папяровых яны сталі шэрымі і кардоннымі. З кардонных і шэрых лялькі зрабіліся жоўтымі і драўлянымі. З жоўтых і драўляных лялькі перакінуліся ў чыгунныя. Змрочныя чыгунныя лялькі былі ўжо большыя за людзей. Яны моцна збілі пераляканых бандзюкоў і пайшлі ад кінатэатра «Беларусь» па Ракаўскай, у бок хлебзавода. Па дарозе да хлебзавода лялькі з чыгунных зрабіліся драўлянымі, з драўляных — кардоннымі, а з кардонных — папяровымі. Белыя лялькі з папяровых сталі маленькімі сняжынкамі і хутка парасталі на яшчэ цёплай кастрычніцкай зямлі.

## ЯКАСНЫ СКАЧОК

Студэнт універсітэта Сяргей Фамін мог лёгка пераскочыць рэчку, такую як наша Свіслач. Стаіць сабе Сяргей на беразе каля выставачнага павільёна, што на вуліцы Янкі Купалы, скок — і ён ужо ідзе побач з рэстаранам «Журавінка». Ад

такога відовішча ажно дух перахоплівае. Так перахапіла дух у іншага студэнта са сталічнага ўніверсітэта Андрэя Александровіча. Андрэй пабачыў Якасны скачок цераз Свіслач і прапанаваў Сяргею добра падзарабіць. Александровіч знаходзіць такіх людзей, з якімі можна спрачацца на вялікую суму. Расказвае пра Фаміна, які пераскоквае Свіслач. Яму не вераць. Ён спрачаецца. Выйгранае ў спрэчках хлопцы дзеляць роўна. Андрэй праз сваякоў ды знаёмых, праўдамі ды няпраўдамі дайшоў ажно да міністра. З міністрам і ягонымі двума памагатымі Андрэй паспрачаўся, што пакажа сапраўдны скачок праз рэчку. Сяргей Фамін лёгка пераскочыў рэчку ў два бакі, паказаў Якасны скачок. Міністр нібыта і ўзрадаваўся ўбачанаму. Ён прапанаваў студэнтам паехаць у свой катэдж, дзе паабяцаў разлічыцца за прайграную спрэчку. У загарадным катэджы памагатыя міністра забілі Сяргея Фаміна і моцна скалечылі Андрэя Александровіча. Андрэй цудам застаўся жыць, але ні пра міністра, ні пра Якасны скачок праз Свіслач больш не згадваў.

## СІНІ КРОТ

У кабінеце контрразведчыка Расціслава Раманчука стаяў акварыум. Замест вады ў ім была насыпана чорная зямля. Над акварыумам вісела круглая лямпачка, поўная чарназёму. Ад лямпачкі сыходзіла земляное цяпло. Тое густое цяпло цякло ў глыбокую нару, дзе жыў Сіні крот. Харчаваўся крот дробна пакрышанай морквай. Расціслаў трымаў Сіняга крата не дзеля прыватных забавак. Крот быў новай зброяй беларускай

контрразведкі. Калі Раманчук атрымліваў сігнал і пачыналася паляванне на здрадніка Радзімы, контрразведчык выкопваў крата з зямлі. Разам з Сінім кратом Расціслаў Раманчук падыходзіў да падазронага чалавека як мага бліжэй. Калі падазроны быў сапраўдным здраднікам, Сіні крот ператвараўся ў бліскучую маланку і забіваў ворага. Апошняе паляванне на зраднікаў Радзімы скончылася для Расціслава Раманчука катастрофай, бо Сіні крот забіў не толькі падазронага. Ён забіў і свайго гаспадара. На нарадзе контрразведчыкі вырашылі больш не працаваць з кратом. Акварыум з зямлёю і лямпачку з чарназёмам яны вывезлі на загарадны сметнік, што каля магілёўскай шашы. На сметніку пакінулі і Сіняга крата. Разведчыкі спадзяваліся, што крот вернецца ў прыроду, але іх спадзевы былі памылковымі. Сіні крот цяпер цалкам самастойна працягвае паляванне на здраднікаў нашай Радзімы.

## ШЭРАЯ СКРЫНКА

У школьнага настаўніка Васіля Сташэўскага была мара — пад Новы год ён хацеў самому сабе падарыць вялікую кардонную скрынку для складання чыстай бялізны. Васіль быў надзвычай акуратны чалавек. Усе рэчы ў ягонай кватэры былі раскладзеныя па сваіх палічках, але для вялікага шчасця не хапала яшчэ адной пакоўнай скрынкі. Патрэбную Шэрую скрынку Сташэўскі бачыў у мэблявай краме, што каля станцыі метро Якуба Коласа. У яе ён і накіраваўся, але там скрынкі не знайшлося. Абыякавыя да кліентаў прадавачкі сказалі Васілю, што скрынкі яны параспрадалі.

Сташэўскі не паверыў прадавачкам і ўгаварыў адну з іх схадзіць на склад. Тая схадзіла і праз пару хвілін прынесла Шэрую скрынку. Задаволены настаўнік прыляцеў са скрынкаю дамоў. Паставіў яе на стол. Распрануўся і ўрачыста зняў шэрую накрыўку. На сподзе Шэрай скрынкі спала маленькая дзяўчынка. Святло пабудзіла яе. Дзяўчынка вылезла са скрынкі на стол. Са стала яна саскочыла на падлогу і пачала расці. Праз некалькі хвілін дзяўчынкаператварылася ў дарослую жанчыну. Васіль Сташэўскі закахаўся ў яе з першага пагляду. «Ты ж разумееш... Я — твая, а ты — мой!» — сказала жанчына з Шэрай скрынкі. «Так, я ведаю, што я — твой, а ты — мая!» — сказаў настаўнік Сташэўскі. «Пасля доўгай дарогі мне трэба памыцца...» Васіль правёў жанчыну да ваннай, паказаў шампуні і гелі, мыла і вяхотку, даў шыкоўны новы ручнік. Памыўшыся, жанчына прапанавала Васілю гэтаксама памыцца. Ён доўга пялёхаўся ў цёплай вадзе, бо страшэнна любіў мыцца, страшэнна любіў чысціню і парадак. Калі ён, свежы і радасны, выйшаў з лазенкі, дык жанчыны ў кватэры не было. Яна знікла назаўжды, пакінуўшы на памяць пра сябе пустату ў Шэрай скрынцы для чыстай бялізны.

## ЧЫРВОНЫ ЗАПЛЕЧНІК

На вуліцы Змітрака Бядулі рыэлтар Дайлідовіч знайшоў рудога сабаку з перабітымі лапамі. Жывёла трапіла пад машыннае кола і ляжала на пабітым пырскамі прыдарожным снезе. Алесь Дайлідовіч пашкадаваў знявечаную істоту. Забраў з дарогі, завёз да ветэрынара, заплаціў за склада-

ную аперацыю і даражэзныя лекі. Больш за месяц рыэлтар патраціў на хворага сабаку. Калі сабака вярнуўся ў нармальны стан, дык сказаў Дайлідовічу пайсці на вуліцу Бядулі і забраць з таго месца, дзе ляжала збітая жывёла, Чырвоны заплечнік. У заплечніку будзе падарунак. Толькі ёсць умова — у заплечнік нельга зазіраць, ажно пакуль не прынясеш яго дамоў. Рыэлтар знайшоў Чырвоны заплечнік і па дарозе дадому не вытрымаў і паспрабаваў у яго зазірнуць. Алесь стаяў на беразе Свіслачы, за цыркам, каля вадаспада. Як толькі ён паспрабаваў раскрыць заплечнік, з вадаспада вылезла зялёная пачвара і выхапіла заплечнік з рук агаломшанага рыэлтара. Разам з каштоўным заплечнікам пачвара дала нырца ў вадаспаднае шумавінне. Дайлідовіч заперажываў з-за страты падарунка, але не так моцна, як ён заперажываў, калі дома не знайшоў рудога сабаку. Тры дні Алесь не знаходзіў сабе месца. Ён хадзіў да вадаспада і сыпаў у яго лаянкай ды праклёнамі. На чацвёрты дзень з-пад вадаспадных струмянёў выйшла зялёная пачвара і кінула пад ногі Дайлідовіча Чырвоны заплечнік. Рыэлтар прынёс заплечнік дамоў, раскрыў і знайшоў падарунак — ключы і дакументы на новую кватэру, зробленыя на імя Алеся Дайлідовіча.

## ВАСІЛЬКОВЫЯ АБРАЗЫ

Кожны карэнны мінчук ведае, што Палац мастацтва стаіць на былых прыкасцёльных могілках, якія называліся Залатая горка. Калі экскаватар капаў яміну пад фундамент Палаца, дык абвалілася частка могілкавага груда. З-пад чорных дошак

на жоўты пясок выкаціўся чалавечы чэрап. Экскаватаршчык паклаў той чэрап у гаспадарчую сумку, каб у нядзелю завесці чалавечыя парэшткі на лецішча і пахаваць іх у кутку вясковых могілак, каля самага поля. Экскаватаршчык Лявон Дыла закопваў чэрап разам з дачкой Яняй. Тая Яня адведвала і прыбірала невялічкую магілу невядомага чалавека. Штолета на магіле красавалі вялікія васількі. Аднаго разу Яня з могілкавых васількоў зрабіла букет, які паставіла на тумбачку каля свайго ложка. Уночы дзяўчыне прысніўся сон, у якім яна захаплялася тонкім водарам васількоў. Пасля таго сну Яня панесла і праз дзевяць месяцаў нарадзіла хлопчыка. Бязбацькавіча пакінулі ў радзільні. Адно, што папрасіла жанчына, калі развітвалася з немаўляткам, каб назвалі яго Васільком. Хлопчык выхоўваўся ў інтэрнатах сярод такіх, як і сам, бязбацькавічаў. Выглядала на тое, што ён стане жорсткім і злым на ўвесь свет чалавекам, але гэтага не здарылася. Васіль меў здатнасць бачыць больш за іншых, таму стаў ён мастаком і пачаў маляваць абразы. Ягоныя абразы адрозніваліся ад іншых дзівосным васільковым колерам. Іх так і называлі — Васільковыя абразы. Васіль стаў вядомы і заможны. Праз сяброў і знаёмых ён знайшоў свайго дзеда Лявона і сваю маці Яню. Дзеду Васілёк падарыў цёплае паліто, а маці — ядвабны васільковы шалік.

## БЕЛЫ ЧАЛАВЕК

У трамваі, што ішоў з вакзала на праспект, ехаў Белы чалавек. У чалавека нічога не было, акрамя прабітага талона, які падаравала чуллі-

вая дзяўчына. Белы чалавек стаяў на задняй пляцоўцы і трымаў у руцэ талон. Чалавек быў цалкам голы. Ён зайшоў у трамвай на чыгуначным вакзале і даехаў да праспекта Незалежнасці, там ён зайшоў у Палац мастацтва. Усе, хто бачыў Белага чалавека, рабілі выгляд, што не бачаць яго. Выключэннем стала спагадлівая дзяўчына, якая пашкадавала бесквіточнага пасажыра і дала яму прабіты талон.

## ЧОРНЫЯ ДЗВЕРЫ

Ёсць у Мінску месца, дзе раней таемна збіраліся скарбашукальнікі. А дванаццатай сыходзіліся яны кожную суботу каля фантана, што недалёка ад музея Купалы. Прагульваліся вакол аголеных бронзавых дзяўчат, слухалі пошум вады і абменьваліся здабытай інфармацыяй пра розныя скарбы. Хадзіў туды і стары Ігнат Татур. Аднаго разу Татур сабраў вакол сябе купку скарбашукальнікаў і сказаў, што яму, каб знайсці залаты скарб, патрэбны тры маладыя жанчыны. Кожная жанчына павінна мець імя Тамара, з’явіцца ў наступную суботу ў доўгай чорнай спадніцы і без майткаў. Татур абяцаў пайсці з жанчынамі ў сутарэнні, знайсці скарб і падзяліць яго сумленна. Скарбашукальнікі не паверылі старому Ігнату, але прывялі яму тры Тамары ў чорных спадніцах. Татур папрасіў жанчын задраць падолы, каб спраўдзіць адсутнасць майткаў. Жанчынам хацелася паспытаць шчасця і знайсці скарб, таму яны высока задралі спадніцы і паказалі аголенасці сцёгнаў і жыватоў. Татур павёў жанчын уздоўж рэчкі. Ён іх завёў

у Верхні горад, дзе давялося доўга кружляць па вузкіх вулках. Праз вузенькія весніцы Татур і тры Тамары зайшлі ў маленечкі дворык. Ігнат падышоў да Чорных дзвярэй, адчыніў іх і павёў жанчын у цёмныя сутарэнні. Пад нізкімі скляпеннямі яны прайшлі ў пакой, поўны залатых брускоў. Ігнат Татур набраў тых брускоў як панесці. Тамары гэтаксама панабіралі сабе залатых брускоў як падняць. Усе спакойна данеслі брускі дамоў. Па дарозе іх ніхто не спыніў, і ніхто нават не папытаў, чаму людзі нясуць па вуліцы золата. Тыя, хто бачыў золата, не мог падумаць, што золата сапраўднае. Трэба сказаць, што радавацца знойдзенаму скарбу як старому Татуру, так і ягоным Тамарам давялося не доўга. Усе яны моцна захварэлі і хутка папаміралі. Скарбашукальнікі, што збіраліся каля фантана, пагадзіліся з меркаваннем, што золата тое было праклятае. Каб праклён не перайшоў на іншых скарбашукальнікаў, было вырашана больш не збірацца ў Купалаўскім скверы. Мінскія скарбашукальнікі знайшлі сабе іншае месца дзе сыходзяцца а дванаццатай кожную суботу, але нікому пра новае таемнае месца не кажуць.

## БЭЗАВЫ КУСТ

Ёсць у Мінску плошча Перамогі, на той плошчы некалі рос Бэзавы куст. Там шмат бэзу, але гэты быў самы адметны з усіх кустоў, бо на ўсёй плошчы ён першы пачынаў красаваць. Куст меў назву — Канец школе. Закрасаваў Канец школе, і ты ведаеш — хутка для выпускні-

коў прагучыць апошні званок. Калі Бэзавы куст ведалі многія, дык акном, што паблісквала шыбамі за кустом, мала хто цікавіўся. Акно як акно, але ў свой час за тым акном жыла ў маленькім пакойчыку сям'я дворнікаў — муж і жонка. Уся іх кватэра была аднаваконным пакойчыкам, а з усіх выгодаў стаяла толькі жалезная чарупіна з халоднай вадою. Ні пліты, ні ўнітаза, ні душа ў гэтай службовай кватэры, як разумееш, не было. Нават сонца зазірала ў пакойчык толькі ўзімку, калі на Бэзавым кусце не было лістоты. Якое сонца ўзімку ў нашай шэрай Беларусі, ты таксама ведаеш. Таму дворнічыха намерылася Бэзавы куст знішчыць, каб у яе кватэры стала крышку больш сонца. Загадала яна свайму дворніку ўзяць сякеру і ўночы куст ссячы. Дворнік сякеру ўзяў і пад Бэзавы куст падлез. Куст нашаторыўся, зашапацеў і зашаптаў: «Не сячы мяне... Зраблю ўсё, што толькі пажадаеш...» Дворнік пажадаў, каб у ягонай кватэры з'явіўся ўнітаз, душавая кабінка, ну і газавая пліта на дзве фаеркі. Хацеў быў папрасіць чатыры фаеркі, але падумаў, што і дзвюх фаерак хопіць. Бэзавы куст першыя пажаданні выканаў імгненна, але дворнічыха пагнала свайго мужа пад Бэзавы куст з другімі пажаданнямі. Цяпер яна хацела стаць генераліхай, жыць у вялікай пяціпакаёвай кватэры і купацца ў джакузі. Бэзавы куст перавёў дворніка ў генералы, а з дворнічыхі зрабіў праўдзівую генераліху. Пасля трэціх пажаданняў генерал стаў прэзідэнтам. Здавалася, што Бэзавы куст спатоліў усе жаданні дворнічыхі-генераліхі-прэзідэнціхі. Але не... Прэзідэнціху засмучала цяпер хуткаплыннасць жыцця. Яна зноў пагнала прэ-

зідэнта палохаць сякераю Бэзавы куст і прасіць, каб той зрабіў іх неўміручымі. Куст зашархацеў лістотаю, куст зашамацеў квеценню і пертварыў прэзідэнта з прэзідэнціхай ў дробных рудых танкалапых мурашоў. Калі чалавек ператвараўся ў мураша, сякера выпала з ягонай рукі і моцна пашчапала камель Бэзавага куста. Праз тую пашчапанасць Бэзавы куст і засох. Цяпер на месцы куста на плошчы Перамогі нашы вочы радуе акуратны кветнік з ружовымі стакроткамі.

## ЗЯЛЁНЫ ЗВЫШЧАЛАВЕК

Некалі пад каланадай Акадэміі навук была таемная лабараторыя. У ёй дактары з кандыдатамі спрабавалі ствараць тутэйшага звышчалавека. Яны бралі парэшткі мёртвых людзей, сшывалі іх і ўваскрашалі. Вяртанне мёртвых да новага жыцця праходзіла цяжка. Большасць доследных не вытрымлівала напружанасці ўваскрашэння і праз пару хвілін зноў памірала. Толькі адзін тутэйшы звышчалавек затрымаўся ў сваім другім жыцці на пару тыдняў. Навукоўцы называлі яго Зялёны, бо скура ўваскрашонага мела халоднае зеленкаватае адценне. Першы тыдзень Зялёны пражыў у клетцы, а другі правёў у тунэлях навюткага метро. Тутэйшы звышчалавек скраў у санітара ключы, уночы адчыніў клетку і праз падземныя пераходы прабраўся з лабараторыі ў метрапалітэн. На станцыі Якуба Коласа Зялёны загрыз прыбірачку, насмактаўся крыві і падсілкаваўся сэрцам. Са станцыі Коласа людажэр прайшоў па тунэлі да станцыі Каст-

рычніцкая, дзе і стаіўся. Голад выгнаў Зялёнага на паляванне, і ён забіў дзяжурнага міліцыянта, каб з'есці сэрца і насмактацца крыві. Міліцыянт супраціўляўся і параніў Зялёнага звышчалавека. Па крывавым следзе яго высачылі і застрэлілі. Справу Зялёнага дзяржава засакрэціла. Дакументацыю схавалі. Лабараторыю, дзе навукоўцы з дактарамі ўваскрашалі мёртвых, давялося закрыць. Усе памяшканні пад каланадай Акадэміі навук былі пазасыпаныя пяском, а ўваходы ў іх пазамуроўвалі.

## ШЭРАЯ КАШУЛЯ

Мастак Алег Гушча рассылаў запрашэнні на сваю персанальную выставу. Усе, хто былі ў электронным нататніку, атрымалі па лісце. Адзін ліст з запрашэннем выправіўся да Павала Плашчынскага, які тры месяцы ўжо адпачываў пад сціплым крыжам на Усходніх могілках. Мастак нават не заўважыў сваёй памылкі. Ён бы яе і зусім не заўважыў, каб нябожчык паэт Плашчынскі не прыйшоў на выставу за дзве гадзіны да адкрыцця. Экспазіцыя была цалкам гатовая. Мастаку заставалася толькі схадзіць дадому, прыняць душ, пагаліцца і апрануцца па-святочнаму. Гушча збіраўся выходзіць з выставы, калі перад ім паўстаў нябожчык. Плашчынскі падзякаваў за запрашэнне, паглядзеў і ўхваліў жывапіс Алега Гушчы, а перад развітаннем запрасіў мастака на сваю паэтычную вечарыну. Гушча тры дні і тры ночы думаў, як быць з запрашэннем на Усходнія могілкі. Сам ён нічога прыдумаць не змог і пайшоў да знаёмага ведзьмака.

Той сказаў, што на вечарыну паэзіі варта завітаць, але трэба знайсці бацькаву кашулю і апрануць яе шыварат-навыварат. Алег доўга шукаў, але ўсё ж знайшоў на лецішчы Шэрую кашулю свайго даўно памерлага таты. У ёй Гушча пайшоў на Усходнія могілкі, дзе яго сустрэў каля раскапанай глыбокай цёмнай магілы паэт Павал Плашчынскі. На беразе магілы ён прачытаў доўгі шчымлівы верш пра ссечанае дрэўца — чырвоную рабіну — і сказаў, што хацеў забраць мастака ў магільны іншасвет, але бацькава Шэрая кашуля добра ахоўвае мастака. На тым гісторыя з незвычайнымі запрашэннямі і скончылася.

## ЧОРНАЯ ХВІЛІНА

Студэнт Слава Сівіцкі быў азартны да дурноты. У мінскіх прывакзальных казіно ён прасаджваў усё, што мог знайсці, каб згуляць. Бацька Славы Сівіцкага па тутэйшых мерках быў чалавекам заможным. Таму студэнт не вельмі перажываў за ўласную будучыню. Ён нават на пахаванні абодвух бацькоў не заплакаў. «Разбіліся людзі на машыне... Лёгкая і хуткая смерць. Не кожнаму такое шчасце выпадае. Далёка не кожнаму...» — так думаў малодшы Сівіцкі, калі труны са старэйшымі Сівіцкімі апускаліся ў бездань крэматорыя. Вялікай спадчыны Славачку Сівіцкаму хапіла на два гады паходаў па розных казіно. Ад вялікіх капіталаў беларускага алігарха ў сына засталася пустая кватэра і бацькаў ліст, які трэба было прачытаць у Чорную хвіліну. «Чорная хвіліна прыйшла! Ты, як я разу-

мею, сабраўся развітацца з жыццём. Правільна! Не страляйся і не труцься. Задавіся на вяроўцы. Пятлю замацуй на круку для лямпы ў сваёй спачывальні. Калі ты, сынок, зробіш, як вучыць бацька, дык я сустрэну цябе ў лепшым свеце і дапамагу!» — такія словы прачытаў Слава Сівіцкі ў татавым лісце. Так ён і замацаваў пятлю на круку ў спачывальні. Так і зрабіў спробу засіліцца. Толькі не атрымалася ў Славачкі праз самазабойства трапіць у лепшы свет. Але ў яго атрымалася зноўку дастаць сабе крыху бацькавай дапамогі. Калі пятля зашморгнулася на шыі маладога Сівіцкага, а цела павісла ды заторгалася ў паветры, крук разам з кавалкам століываліўся. З дзіркі пасыпаліся на галаву няўдалага самазабойцы залатыя манеты ды бліскучыя дыяменты. Тых дыяментаў хапіла Славу Сівіцкаму, каб разлічыцца з пазыкамі. Золата ён пусціў на атрыманне адукацыі і распачынанне ўласнай справы. Няўдалай спробай самазабойства Слава назаўсёды вылекаваўся ад гульнезалежнасці. Добра, калі бацька дапамагае сыну ў Чорную хвіліну. Зрэшты, а хто табе яшчэ дапаможа, калі не тата і не ты сам.

## РОЗНАКАЛЯРОВЫЯ АСКЕПКІ

На вуліцы Някрасава, што ў Мінску, стаіць мастацкі камбінат. У майстэрнях таго камбіната робяць розную аздабляльную красу. Выштукоўваюць там і вітражы з рознакаляровага шкла. Некалі даўно мастак Мачанка атрымаў замову на вітражы ў Дом кіно, што месціўся ў былым Чырвоным касцёле. Мачанка зацвер-

дзіў эскізы і панаймаў майстроў рэзаць шкло. Майстры тры дні рэзалі каляровае шкло, атрымалі аванс і сышлі ў запой. Мачанка застаўся сам-насам з недавыкананай працаю. Тады на камбінатаўскім калідоры ён і пабачыў маладога чалавека ў сінім халаце. Малады чалавек курыў, стоячы каля адчыненага ў перадкалядную зіму высокага вакна. Мачанка папрасіў курца дапамагчы з вітражом. Такога памагатага ў Генадзя Мачанкі ніколі не было. Курэц рэзаў шкло лёгка, нібыта паперу. Рэзаў дакладна. Рэзаў з неверагоднай хуткасцю. «Сам чорт так не змог бы рэзаць!» — хваліў памагатага задаволены Мачанка. Той адно хітаў галавам. Калі праца набліжалася да заканчэння і заставалася нарэзаць ды сабраць у алавяную жылу апошні квадратны метр, Мачанка неабачліва скінуў са стала шкларэзку. Вітражыст нахіліўся, каб падняць з падлогі свой інструмент, і пабачыў шэры хвост з кудлатым кутасом. Чортаў хвост звісаў з-пад сіняга халата спрытнага памагатага. «Чорт!» — ускрыкнуў Мачанка. «Чорт!» — паўтарыў памагаты і крывавата заўсміхаўся. Ён падбег да гатовых вітражоў, што стаялі каля сцяны, і звярнуў іх на падлогу. Вітражы разбіліся. Рознакаляровыя аскепкі рассыпаліся па майстэрні. Утварыўшы шкоду, чорт прапаў. Генадзю Мачанку са змучанымі п'янствам работнікамі давялося распачынаць працу з самага пачатку. Праўду кажуць: як праца пачнецца, так яна і скончыцца. Калі Чырвоны касцёл вярнуся да вернікаў, дык вітражы зноў нехта (ты відаць, ужо здагадаўся, хто!) паразбіваў, і ўся кацельная падлога была пазасыпаная Рознакаляровымі аскепкамі.

# БЕЛАТВАРЫ ЛІЛІПУТ І ЧАРНАВОКІ КАРЛІК

На вуліцы Залатая горка жылі-былі Чарнавокі карлік і Белатвары ліліпут. Карлік быў добры, а ліліпут — злы. Зазвычай усё наадварот: карлікі — злыя, а ліліпуты — добрыя. Добразычлівага карліка людзі любілі, а злога ліліпута абыходзілі трэцяй дарогай. Невядома, колькі б пражылі карлік з ліліпутам на адной вуліцы, каб туды не прыехаў з Лельчыц пагасцяваць у сваякоў знакаміты паляшуцкі чарадзей. Ён прапанаваў Чарнавокаму карліку звычайны чалавечы рост. Карлік пагадзіўся легчы на месячную выцяжку. Пакуль лельчыцкі чарадзей расцягваў пацыента, злосны ліліпут тройчы спрабаваў забіць добрага карліка. Ён і кіслатою збіраўся абліць ахвяру, і страляў, і з нажом кідаўся. Толькі спробы забойства засталіся адно спробамі. Лельчыцкі чарадзей не дапусціў злачынсва, але за дзікунскія намеры прадаў Белатварага ліліпута ў цыркавое рабства. Цяпер той жыве ў жалезнай клетцы з белымі пудзелькамі і разам з вясёлымі сабакамі скача па арэне. Чарнавокі карлік з Залатой горкі перастаў быць карлікам і зрабіў кар’еру шоўмена на тэлекампаніі Белсат.

# ШЭРЫ АНЁЛ

Будаўніца Ілона Завала закахалася ў шафёра Рыгорку. Ён паабяцаў ажаніцца з Ілонай, калі тая сваю сямігадовую дачку здасць у дзетдом. Будаўніца вырашыла дзіця не здаваць. Яна пасадзіла дачку ў шафу, што стаяла ў вітальні. Шафу абабі-

ла дошкамі ад падлогі да столі. На дошкі паклала дранку, якую атынкавала і пафарбавала. Ілона Завала замуравала ўласнае дзіця. Рыгору сказала, што завезла дачушку да адзінокай цёткі ў Камянец. Ілона спадзявалася, што ён узрадуецца. Рыгорка спакойна сказаў Завале, што не любіць яе і за жонку не возьме. Тыдзень Ілона прахадзіла як у тумане. Не дзіва, што ў такім стане ў Завалы ўсё валілася з рук. Ілона працавала на аздабленні элітнага навабуда на праспекце Незалежнасці. Працавала на вышыні шостага паверха. Яна аступілася, зляцела з рыштаванняў і забілася. Пасля пахавання бацька Ілоны прыйшоў у яе кватэру і пачуў плач у сцяне. Дзе ломам, а дзе сякерай ён зламаў сцяну і дастаў з шафы ўнучку. Тая сказала старому Завале, што яе даглядаў і карміў Шэры анёл. Ён і сказаў, што маці Ілона звалілася з рыштаванняў і загінула, таму дзяўчынка так гучна плакала.

## ШЭРАЯ ВЯРОВАЧКА

Рэстарацыйны гітарыст Андрэй Гурло вяртаўся дамоў пасля тлумнага вечара. У начным парку за дзяржаўным цыркам Гурло спыніўся на вузкім мастку. Вырашыў выкурыць цыгарэту, стоячы над вадаспадам. Каб над вадаспадам спыніўся просты чалавек са звычайным вухам, ён бы ніколі не пачуў галасоў русалак. Пагатоў ён бы не разабраў іх словаў. Гурло меў абсалютны слых, таму і пачуў, як адна русалка выхвалялася сваімі зладзействамі перад другой русалкаю. «Ненавіджу, ненавіджу, ненавіджу я гэтую паскудную міс-кампраміс-Беларусь, гэтую даў-

галыгую спявальніцу пашлаватых пёсэнэк, гэтую Анжэлку Галінскую! Звяду яе са свету! Знішчожу! Загублю!» — «І як ты, мая дарагая сястра, будзеш знішчаць Анжаліку Галінскую?» — «Я падклала ёй у ложак Шэрую вяровачку. Штоночы вяровачка будзе душыць яе і забіраць голас. Шэрая вяровачка будзе душыць Галінскую, пакуль зусім не задушыць!» — «Якая ты ў мяне вынаходніца, сястра дарагая! Радуюся — ні нарадуюся!» Пачуўшы размову русалак, гітарыст выграшыў выратаваць спявачку Галінскую. Праз знаёмага кампазітара ён дамовіўся на сустрэчу з Анжалікай. Тая, што тут і казаць, не паверыла Андрэю, але дазволіла абшукаць свой шырокі, як арэна, ложак. Пад прасцінаю знайшлася Шэрая вяровачка. Гурло пачаў яе завязваць на тугія вузлы і шаптаць, каб зло, што прыйшло да Галінскай з Шэрай вяровачкай, вярнулася ў рэчку Свіслач да сваёй гаспадыні русалкі. Гітарыст завязваў вяровачку ў вузлы столькі, колькі мог завязаць, а потым спаліў Шэрую вяровачку ў крыштальнай попельніцы. Гэтая гісторыя са злымі чарадзействамі скончылася тым, што за дзяржаўным цыркам на беразе рэчкі школьнікі раніцай знайшлі мёртвую русалку, завязаную ў вузел.

## ШЭРЫ ГОЛУБ

Студэнтка Вераніка Маркава правеліла іспыт. Гэта быў трэці іспыт, які запар не здала Вераніка. Выключэнне з універсітэта, выгнанне з інтэрната, выезд са сталіцы — тры падзеі, якія чакалі дзяўчыну наперадзе. Чакалі і не дачакаліся, бо

студэнтка Маркава выйшла на ўніверсітэцкі дах і скочыла ўніз. Яна ляцела з даху на пляц Незалежнасці. Ляцела, і цела яе рабілася ўсё лягчэйшым і лягчэйшым. Каля самай зямлі цела дзяўчыны зрабілася лёгкім, як птушынае пяро. Вялікі Шэры голуб схапіў студэнтку Вераніку Маркаву і занёс на ўніверсітэцкі дах. Там дзяўчына аддыхалася. Там да яе вярнулася яснасць розума. Там яна прыняла рашэнне пераздаць праваленыя іспыты. На працягу тыдня Вераніка пераздала ўсе іспыты і вярнулася да свайго звычайнага жыцця, у якое, праўда, дадалося штодзённае кармленне мінскіх галубоў.

## ЧОРНАЯ САВА

Жыла-была на вуліцы Янкі Купалы маладая пара. Як толькі муж засынаў, жонка падымалася з ложка і сыходзіла з дому, а пад раніцу яна вярталася. Аднаго разу муж прачнуўся ў той момант, калі жонка вылізвала з-пад коўдры. Ён падумаў, што яна намерылася здраджваць. Што ён, бачачы начны сыход, мог яшчэ падумаць? Муж вырашыў прасачыць за жонкай-здрадніцай. Яна перайшла пустую дарогу і зайшла ў цёмны сквер. Ён таксама хацеў быў заглыбіцца ў сквер, але не змог, бо на яго напала Чорная сава. Яна біла крыламі, драла кіпцюрамі, крывой дзюбай спрабавала падаставаць вочы... Мужчына ледзь адбіўся, ледзь уцёк ад драпежнай птушкі. Раніцай ён прачнуўся ў сваім ложку побач са сцішанай жонкай. Тая спакойна спала, але ў жончынай руцэ быў каўнер мужавай кашулі, якую падрала ўночы Чорная сава.

# ЛІЛОВАЯ ПАЧВАРА

Афіцыянтка Яніна Бялевіч кахала кухара Сцяпуру. Ён нібыта яе любіў, але пачаў крадком здраджваць з легканогімі танцоркамі, увайшоў у смак і кінуў Яніну дзеля распусных пагулянак. Бялевіч азлілася на ўвесь свет і знайшла сабе ў ложак рэстаратара Хасановіча. Хутка яна раздзьмулася ад цяжарнасці. Нараджаць Яніна легла ў бальніцу, што стаіць на вуліцы Бельскага. Там і нарадзіла Ліловую пачвару. Нейкі час дактары не ведалі, што з пачварай рабіць і што пра яе казаць. Вырашылі яны Ліловую пачвару схаваць, а бацькам сказаць, што дзіця памерла. Бяда! Здараецца і такое... Спачуванні. Яніна спачуванні прыняла спакойна. Татарын Хасановіч раз'юшыўся. Ён бегаў вакол бальніцы і шпурляў кавалкамі асфальта ў вокны. У адным акне ён павыбіваў усе шыбы. Татарын павыбіваў шкло якраз у тым акне, пад якім ляжала ў маленечкім ложку Ліловая пачвара. Як толькі свежае паветра ўварвалася ў пакой, пачвара разгарнула скураныя крылы, падціснула тонкі хвост і паляцела ў вечаровае ўстрывожана-чырвона-чорнае неба. «Далібог, у нашай бальніцы нарадзіўся д'ябал!» — прашаптаў галоўрач, гледзячы, як у цёмнай вышыні знікае Ліловая пачвара.

# БЕЛАЯ ПРАЦЭСІЯ

Ноч была глухая, халодная і поўная густога туману. Паэт ішоў па вуліцы Берасцянскай. Ён вяртаўся дамоў з начнога клуба «Чорная брама». Шампанскае з гарэлкай натхнілі паэта на скла-

данне вершаў. Ішоў і складаў, а калі склаў, дык хацеў запісаць. Аловак у кішэні знайшоўся, а паперы не было. Паэт азірнуўся па баках і заўважыў, што з Вайсковых могілак на Берасцянскую выйшла Белая працэсія. Чалавек з трыццаць у белых хітонах бязгучна плылі над ходнікам. Сярод прывідаў паэт пазнаў Янку Купалу і Якуба Коласа. У Якуба Коласа ён папрасіў аркуш паперы, і той даў яму вялікі аркуш. На ім паэт хутка запісаў свой верш, які знайшоў раніцай на стале. Верш быў накрэмзаны на вялікім шкумаце чалавечай скуры з парэшткамі крыху выцвілай татуіроўкі. Паэт перапалохаўся, схапіў скуру, занёс яе на магілу Коласа і там пакінуў. Складзены ўночы верш ён пазней спрабаваў успомніць, але не змог. Добра помніў ён толькі Белую працэсію, што плыла над ходнікам праз глухую ноч, праз холад і туман.

## РУЖОВАЯ ЛЯЛЬКА

Медсястра Альбіна Іваноўская прагла нарадзіць. Яе жаданне мець сваё дзіця было самым вялікім з усіх яе жаночых жаданняў. Толькі мужчынам Альбіна не вельмі каб падабалася. Пафліртаваць, адзін раз паспытаць блізкасць і не больш за тое. Ніхто не клікаў Альбіну замуж, ніхто не спаў з ёю больш за адну ноч, ніхто не падарыў ёй патрэбную цяжарнасць. Альбіна Іваноўская абышла ўсіх дактароў, яны шукалі, але не знайшлі ў ёй якіх-небудзь адхіленняў ці паталогій. Альбіна абышла ўсіх мінскіх ведзьмакоў і вядзьмарак, якія ўслед за дактарамі прызналі яе цалкам нармальнай і здаровай. Альбіна амаль

страціла надзею нарадзіць, калі знаёмы гітарыст гурта «Мроя» параіў ёй схадзіць пад чароўны дуб. Той дуб некалі стаяў на беразе Свіслачы, насупраць новай канцэртнай залы «Мінск». Альбіна пайшла пад велічнае дрэва, укленчыла і папрасіла сабе дзіцятка. Драўляны шэпт загадаў назбіраць жалудоў, зрабіць жалудовай кавы і выпіць. Іваноўская так і зрабіла. Здарылася дзіва... Праз тры месяцы ў сваім ложку Альбіна знайшла хлопчыка. Таму хлопчыку быў год. Ён мог гаварыць і сказаў, што завуць яго Вова і ў яго моцна баліць рассечанае брыво. Брыво ў Вовы было і сапраўды параненае. Альбіна спалохалася, ёй зрабілася халодна, і яна паспрабавала была зачыніць фортку. Хлопчык сказаў, каб не зачыняла. Альбіна не паслухалася. Дзіця пачало плакаць. Яно плакала і не супакойвалася. Што толькі ні рабіла Альбіна, каб супакоіць дзіця. Нічога не дапамагала. У роспачы жанчына схапіла падушку і ўдарыла па ложку побач з хлопчыкам. Яна ўдарыла моцна. Ад удара дзіця здрыганулася і ператварылася ў Ружовую ляльку. Альбіна схапіла ляльку, пачала яе цалаваць, прыціскаць да грудзей і плакаць несуцешнымі слязьмі.

## ШЭРЫ ПАРТАМАНЕТ

Адзін з нашых былых міністраў фінансаў зусім не падобны да міністра фінансаў. Ён нават да міністра не падобны. Калі б ты не ведаў, што ён — міністр, а табе, паказаўшы на яго, сказалі: «Вакзальны грузчык!», ты б абавязкова паверыў! Рубель даю... Міністр фінансаў, падобны да груз-

чыка, пратрымаўся на адказнай пасадзе больш за астатніх міністраў фінансаў, а ўсё таму, што меў ён Шэры партаманет. Яшчэ школьнікам наш будучы міністр знайшоў каля рускага тэатра, што месціцца ў былой сінагозе, Шэры партаманет. У ім заўсёды былі грошы. Іх было роўна столькі, колькі трэба. Дзякуючы гэтаму партаманету чалавек зрабіў кар'еру і выбіўся ў міністры. У ягоным міністэрстве і ў ягоных банках заўсёды было столькі грошай, колькі цяпер і трэба. Толькі ўсім навокал такіх грошай падавалася замала, усе патрабавалі, каб лічбы былі большыя і большыя. У міністэрства прыйшоў кіраваць чалавек, які абяцаў, што грошай будзе болей і болей. Абяцальніку паверылі, і чалавека, падобнага да вакзальнага грузчыка выправілі на пенсію. Ён сышоў. Шэры партаманет ён, вядома, забраў з сабою. Толькі дамоў да былога міністра чароўны партаманет не патрапіў. Згубіўся. Шэры партаманет згубіўся недзе каля былой сінагогі, у якой цяпер рускі тэатр. Кажуць, калі там пашукаць, дык можна і знайсці Шэры партаманет, у якім грошай роўна столькі, колькі табе зараз патрэбна.

## ЧЫРВОНЫ ЯЗЫК

Некалі ў Грушаўцы ў прыватным дамку жыў чыгуначнік Сымон Дварчанін. У таго Дварчаніна была жонка Зінаіда. Рот у той Зінаіды не закрываўся. Гаварыла яна несупынна, ад самай раніцы да самай ночы. Дзяцей Дварчаніны не завялі. У Зіны праз усё жыццё быў адзін бездакорны слухач — Сымон. Перад выхадам на пен-

сію Сымон з’ездзіў на цягніках у далёка-далёкі свет і прывёз дзве бутэлечкі чароўнай вады. У адной бутэльцы была вада райская, у другой — пякельная. Пасля вячэры Сымон абмыў гарэлкай нож і, не раўнучы Ван Гог, адрэзаў сабе вуха. У Зінаіды ажно мову адняло. Сымон папырскаў на рану і на вуха пякельнай вадой, прыклаў вуха да раны, яно і прырасло. Прырослае вуха Дварчанін абмыў вадой райскай. Рана загаілася, і вуха зрабілася жывым ды здаровым, такім, як і было. Пасля вуха Сымон адрэзаў і прырасціў сабе нос. Зінаіда ачомалася ад сполаху і захацела на сабе паспытаць моц чароўных водаў. Сымон адрэзаў жончын язык і апрацаваў рану пякельнай ды райскай вадой. Рэшткі вады ён выліў у чарупіну, а жончын Чырвоны язык выкінуў у вядро са смеццем. Пасля таго здарэння Дварчаніны жылі ў сваёй Грушаўцы доўга-доўга і ціха-ціха.

## ШЭРАЯ ЧАРАПАХА

Бацька прывёў сына Віктара ў магазін «Прырода». Чаго і каго там толькі ні было... Акварыўмы і клеткі, рыбкі і птушкі, хамякі, пацукі і марскія свінкі, трусікі, вужы, чарапахі... Бацька прапанаваў сыну-першакласніку выбраць сабе падарунак. Хлопчык выбраў Шэрую чарапаху. Бацька паабяцаў кожны месяц даваць сыну 50 капеек з зарплаты. Калі назбіраецца тры рублі, яны пойдуць і набудуць Шэрую чарапаху. Тры месяцы бацька даваў па 50 капеек, а потым з’ехаў у Маскву. Хлопчык на сабраныя паўтары рублі купіў алавяных салдатаў. Пра Шэрую чара-

паху ён амаль забыў. Ён бы пра яе зусім забыў, каб яна не з’яўлялася да яго ў снах. Прайшло тры гады, потым прайшло тры разы па тры гады, і яшчэ прайшло трыццаць тры гады. Шэрая чарапаха зноў з’явілася Віктару ў сне і папрасіла, каб ён пайшоў у «Прыроду» і набыў яе. Віктар пайшоў у краму і купіў Шэрую чарапаху. Віктар халасцякаваў, і чарапаха мусіла крыху развеяць мужчынскую адзіноту. Яна не толькі развеяла адзіноту, яна пачала скідаць панцыр, ператварацца ў жанчыну і прыбіраць у кватэры. Пасля прыборак жанчына-чарапаха пачала гатаваць Віктару вячэры. Аднаго разу Віктар схаваўся ў шафе, пачакаў, пакуль Шэрая чарапаха скіне панцыр, і разбіў той панцыр малатком. Жанчына плакала, шкадавала сваё чарапахавае аблічча, а потым змірылася з лёсам. Віктар ажаніўся з жанчынай, што была Шэрай чарапахай з мінскай крамы «Прырода», і яны пражылі разам яшчэ трыццаць тры гады.

## ШЭРЫ КЛЮЧ

У Мінску не адзін спрытны злодзей, але гэты — Талалай — спрытнейшы за ўсіх спрытнюгаў. Аўтарытэт, адным словам. Шанцаванне Талалая трымалася на Шэрым ключы, які адчыняў любы замок, апрача тых замкоў, над якімі было намаляванае вока ў трохкутніку. Калі жыццё Талалая пачало хіліцца да скону, ён знайшоў сабе вучня — Сямаху. Талалай перадаў яму Шэры ключ і папярэдзіў: «Шмат не крадзі. Бяры столькі, каб жыць доўга і спакойна. Галоўнае — глядзі, каб над замкамі не было вока ў трох-

кутніку. Таму рыхтуйся да справы старанна. Усё правярай і перapраўярай. На справу хадзі цвярозы...» Сямаха паслухаўся Талалая, хадзіў на справу цвярозы, рыхтаваўся да справы доўга і старанна, абавязкова правяраў замкі на наяўнасць каля іх вока ў трохкутніку. Дзякучы Шэраму ключу Сямаха пабудаваў пад Мінскам цэлы замак, наладаваны сучаснымі каштоўнасцямі ды антыкварыятам. Людзі пачалі казаць, што цяпер не Талалай, а Сямаха самы спрытны і аўтарытэтны злодзей у сталіцы. Тут і здарылася трагедыя... Сямаха адчыніў Шэрым ключом чарговы замок і знайшоў у сейфе Талалая з пісталетам у руцэ. Той сказаў, што Сямаха не заўважыў над замком вока ў трохкутніку. Сямаха абурыўся, бо ніякага вока над замком і не было. Тады Талалай засмяяўся і сказаў, што Сямаха не зразумеў самага галоўнага ў крадзяжах, не зразумеў, што мусіў браць столькі, колькі трэба для спакойнага жыцця, а не грэбці так, нібыта збіраешся пражыць не адно, а сто адно жыццё. Таму Талалай асудзіў Сямаху на смерць і Шэры ключ забраў, каб перадаць яго больш разумнаму з маладых злодзеяў.

## ЧЫРВОНАЕ КРЫЛО

Бандыт Мікуліч адсядзеў у гродзенскай турме дзевяць гадоў. Яго вызвалілі пад стары Новы год. Мусілі вызваліць проста пад Новы год, але цягнулі. Турэмнікі спрабавалі за два тыдні справакаваць бандыта на якое парушэнне. Ён трываў, бо меў мару, і тая простая мара была зусім блізка. Бандыт Мікуліч з мянушкай Мік хацеў па

дарозе з Гародні ў родны Магілёў на пару гадзін затрымацца ў Мінску, каб у рэстарацыі «Журавінка» сесці за столік і выпіць сто грамаў гарэлкі за свабоду. Проста і зразумела. У Мінску на чыгуначным вакзале Міка сустрэў даўні таварыш Юра Юркевіч. З вакзала сябры паехалі на плошчу Перамогі, дзе ў прадуктовай краме прыдбалі чырвонага віна, каўбасы і хлеба. У двары, пад тэлевізійнай вежай мужчыны пакроілі хлеб і каўбасу, выпілі віно і закусілі. Міку спадабаўся самаробны нож, якім Юра кроіў закуску. Нож, ясная справа, апынуўся ў кішэні Міка. Мужчыны выйшлі да рэчкі і пайшлі ўдоўж берага. У парку яны запынілі маладога бегуна і спраўдзілі, ці правільна кіруюцца да «Журавінкі». Хлопец сказаў, што ідуць яны правільна, але ён не ведае, ці працуе цяпер рэстаран. «Журавінка» была яшчэ зачыненая. Мік і Юра пачалі грукаць у дзверы. Тыя адчыніліся, і на ганак выйшаў злы ахоўнік. Ён папрасіў мужчын больш не грукаць у дзверы. Мік спрабаваў растлумачыць ахоўніку, што ён дзевяць гадоў чакаў дня, калі зможа зайсці ў «Журавінку» і выпіць сто грамаў за вызваленне. Ахоўнік не зразумеў Міка. Мог бы і зразумець, але не захацеў. Дарма, бо гэтае неразуменне каштавала ахоўніку жыцця. Мік дастаў самаробны нож. Магілёўскі бандыт ён і ў Мінску — бандыт. Добра навостраны нож лёгка ўвайшоў у жывот ахоўніку. Той выхапіў пісталет. Ахоўнік і ёсць ахоўнік. Стрэліў у Міка. Патрапіў у галаў і забіў. Стрэліў у Юру, які спрабаваў уцячы, але куля дагнала і зайшла пад левую лапатку. Калі на белы снег каля рэстарана «Журавінка» палілася кроў і леглі тры трупы, з шэрага неба спусціўся

анёл. Ён схіліўся над мёртвым бандытам і прашаптаў: «Я бяру тваю душу пад сваё Чырвонае крыло...»

## ЗАЛАТАЯ БУЛКА

Юрась Хлябцэвіч раз'еўся. Ён так раз'еўся, што ледзь рухаўся. Бывае, што мужчына распіваецца, п'е, як не ў сябе, співаецца і ставіць чаравікі ў кут. Да мужчынскага п'янства ўсе ў Мінску даўно прызвычаіліся, а да ненажэрнасці толькі-толькі пачалі прывыкаць. Хлябцэвіч вырашыў пазмагацца са сваім апетытам, са сваёй ненажэрнасцю, са сваім — далібог — смяротным грахом. Ён вырашыў штодня трэніраваць волю. Трэніроўка выглядала наступным чынам: Юрась ішоў па вуліцы Багдановіча да піўзавода «Аліварыя». Водары брагі і свежага піва спакушалі Хлябцэвіча. Ён мінаў «Аліварыю» і кіраваўся да хлебзавода №2, што на вуліцы Крапоткіна. Хто з нас не любіць пах свежаспечанага хлеба? Той не чалавек. Чалавек тысячы гадоў захоплены ў палон водарамі свежых боханаў і булак. Юрась гуляў каля хлебзавода, заходзіў у кавярню, замаўляў зялёную гарбату і любаваўся залацістымі смачнымі булкамі. Гарбата была гарачай. Даводзілася досыць доўга сядзець за столікам і пазіраць на булкі. Так Хлябцэвіч пазіраў на Залатую булку, а булка чорнымі вочкамі разынак пазірала на ненажэру Хлябцэвіча. Ён піў пустую гарбату і стрымліваўся, каб не кінуцца да вітрыны і не зжэрці Залатую булку. Яшэ адно імгненне — і Хлябцэвіч кінуўся б да вітрыны, але здарылася іншае. Залатая булка саскочыла са спода, падля-

цела да вечна галоднага Юрася і за адно імгненне зжэрла яго самаго, праглынула разам з вялізнымі чаравікамі і смяротным грахом. Дзве прадавачкі, што былі сведкамі нападу Залатой булкі на ненаеду, вырашылі не падымаць гвалту і ціха засунулі булку з мясам у кантэйнер з адкідамі.

## ЗАЛАТЫ КЛЁН

На вуліцы Альшэўскага над крамаю «Рабочая адзежа» жыла сям'я Вечараў. Бацька Лявон працаваў маляром, маці Таццяна падмятала вуліцы, блізнюкі дзеці Юля ды Юрась хадзілі ў апошні клас школы. Першае кепства для Вечараў здарылася на Альшэўскага. П'яны кіроўца задавіў сваім брудным грузавіком Таццяну Вечар. Праз пару-тройку месяцаў здарылася ў Вечараў другая бяда. Бацька прывёў у кватэру новую жонку. Блізнюкі не змаглі жыць з мачыхай і перабраліся з Альшэўскага на вуліцу Кісялёва, дзе насупраць крамы «Яхант» нанялі сабе маленечкі пакойчык. Юля адразу пасля школы пайшла месці вуліцы, каб Юрась змог паступіць ў Акадэмію сельскай гаспадаркі. Трэцяе няшчасце з Вечарамі здарылася ў скверы Янкі Купалы. Юрась з Юляю вырашылі прагуляцца ў сонечны нядзельны вераснёвы дзень. Яны гулялі па скверу. Юля збірала кляновае лісце, каб чырвона-залатым букетам упрыгожыць свой маленечкі здымны пакойчык. Юрась вырашыў залезці на самы Залаты клён і нарваць для сястры самых залатык лістоў. Ён залез на дрэва і прапаў. Юля яго шукала. Юля яго гукала. Юля брата клікала. Марна. Прапаў, як не было. Штовечар сястра пры-

ходзіла пад Залаты клён і моўчкі сядзела пад ім, чакаючы брата, да самай ночы. Пад Залатым клёнам маркотную Юлю ўбачыў будаўнік Годны. Юля так спадабалася Цімафею Годнаму, што ён закахаўся. Годны закахаўся ў Юлю Вечар і прапанаваў ёй выйсці за яго замуж. Юля пайшла за Годнага і з Юлі Вечар стала Юляй Годнай, але маркота не пакінула маладую жанчыну. Юля заставалася маркотнай і тады, калі нарадзіла дзіця — Юрася Годнага. У кожны свой вольны вечар Юля хадзіла пад Залаты клён і плакала. Цімафей Годны трываў жончыны слёзы і не вытрываў: паклікаў хлопцаў з бензапіламі і разам з імі зваліў Залаты клён. Пад клёнам Годны знайшоў люк, а пад тым люкам — падземны замак. У тым замку і жыў Юрась Вечар. Ён пачаставаў кляновай гарэлкай свайго швагера з памагатымі. Мужчыны выпілі і заснулі мёртвым сном. Юрась вынес п’яных гасцей з падземнага замка ў Купалаўскі сквер і паклаў на залатое кляновае лісце. Калі раніцай Цімафей Годны і ягоныя памагатыя расплюшчылі вочы, дык пабачылі над сабою шаты Залатога клёна. Другі раз пілаваць чароўнае дрэва мужчыны пабаяліся. Юля ад мужа даведалася, што брат яе жыве ў падземным замку пад Залатым клёнам, і маркота пакінула яе сэрца.

## ЧОРНЫ КОТ

Медсястра Лёня Гаўрылава вярнулася з працы ў сваю кватэрку на вуліцы Грыбаедава і заўважыла там страшныя змены. Мэбля была папаламаная, адзежа — папарываная, посуд — паразбіва-

ны. Пасярод пакоя нехта паліў вогнішча, ад чаго ўся столь закурэла. Акуратная і заўсёды прыбраная кватэрка медсястры Гаўрылавай цяпер выглядала прытулкам бамжоў, у якім моцна смярдзела сераю. Лёня зачыніла растрыбушанае жытло і пабегла да знаёмага вядзьмара Рыгора Бердыжа. Той выслухаў расповед пра папсаваную кватэру і ўзяўся яе паправіць. Бердыж пайшоў з Гаўрылавай на Грыбаедава. Адчыніў кватэру і зароў вантробным голасам. Спадзяваўся такім чынам напалохаць нячысціка. Равучы Бердыж узняўся пад чорную столь і пачаў лётаць па смуродлівай кватэры. За плітою на венскім крэсле вядзьмар заўважыў Чорнага ката. Вядзьмар хацеў быў кінуць у жывёлу ключамі, якія сціскаў у руцэ, але не паспеў. Чорны кот зірнуў на Рыгора адным вокам і мяўкнуў. Ціха так мяўкнуў. Чорны кот мяўкнуў нават лагодна, але таго мяўкання хапіла, каб вядзьмар Рыгор Бердыж загарэўся сінім полымям і абсыпаўся на падлогу шэрым попелам. Звар'яцелая ад убачанага Лёня Гаўрылава выбегла на вуліцу і доўга рыдала, схаваўшыся за кустом травеньскага бэза. Выплакаўшы ўсе свае слёзы, медсястра вярнулася ў кватэрку, тая сустрэла гаспадыню чысцінёй і акуратнасцю, як заўжды.

## ЧЫРВОНАЯ СТРЭЛКА

Вартаўнік Ілля Ляўковіч пасярод дня засцілаў ложак. Адпрацаваў суткі, крыху паспаў і цяпер накідваў на ложак пакрывала. Няўдала накідваў. Зачапіў будзільнік, той бразнуўся на падлогу, і ў ім адвалілася тонкая секундная Чырвоная

стрэлка. Ілля забедаваў. Гора не вялікае, але ж будзільнік сапсаваны. Для вартаўніка будзільнік рэч не проста патрэбная, яна для яго неабходная. Таму і меўся ў Іллі яшчэ адзін прыхаваны на чорны дзень будзільнічак, які перайшоў да яго пасля смерці бацькоў. Ляўковіч дастаў бацькоўскі будзільнік з шафы і пачуў матчын голас. Маці нябожчыцы ён не бачыў, але голас чуў так, нібыта мама стаяла ў пакоі, каля засланага ложка. «Ілюня, будзільнік наш завядзі, карыстайся ім, дазваляю. Але я цябе папрашу: схадзі ў катэдру і запалі свечку, каб мне стала крышку святлей і цяплей». Ляўковіч папіў гарбаты з цытрынаю і пайшоў праз марозны Мінск на плошчу Свабоды. «Ма, ты падай мне які знак... Перашкоду якую пастаў на шляху ў касцёл... Буду ведаць, што знак — твой. Будзе мне прыемна пераадольваць такую перашкоду», — шаптаў Ілля, калі ішоў па праспекце Незалежнасці. Не паспеў ён дашаптаць пра «такую перашкоду», як з-за рога рэстарацыі «Макдональдс» выкацілася на кароткіх нагах былая каханка Іллі. Яна кацілася, ухапіўшы пад локаць свайго трэцяга мужа. Ляўковіч не стаў вітацца з брыдка распаўнелай каханкай. Ён нават крыху зазлаваў на маці, бо перашкоду на сваім шляху ў касцёл вартаўнік уяўляў зусім інакш. Дарэчы, правільна ўяўляў. Яшчэ здалёк Ілля пабачыў каля касцёльнага плоту натоўп. У катэдры ў гэты дзень высвечвалі новага біскупа. Народу сабралася многа. Падзея! Ілля набыў дзве свечкі і запаліў іх пад абразом. Ён пабачыў біскупа ў лацінскай мітры. Святочны выгляд залацістай мітры ўзняў настрой самотнага вартаўніка Іллі Ляўковіча. Ён шэптам падзякаваў маці за такую

ўрачыстую перашкоду. Дома Ілля паклаў зламаны будзільнік у кішэнь курткі, каб у наступную раніцу занесці ў майстэрню. Вартаўнік спадзяваўся, што майстра за невялікія грошы паставіць на месца Чырвоную стрэлку.

## ЖОЎТАЯ ЖАБКА

Тая жабка была выплаўленая з нейкага цёплазалацістага, падобнага да латуні металу. Калі, хто і адкуль прывез тую Жоўтую жабку ў наш Мінск, дакладна і не скажаш. Можа, з Індыі, а можа, і з Інданезіі. Але гісторыя, што з ёй адбылася, сапраўды казачная. Фанат спявачкі Разалінды падараваў ёй Жоўтую жабку разам з букетам белых ружаў. Ён падараваў жабку і сказаў, што ў яе можна засунуць палову чалавечага дня. Увесь чалавечы дзень у Жоўтай жабцы не змесціцца, а палова змяшчаецца лёгка. Тую скрадзеную палову дня чалавек спіць мёртвым сном. Пабудзіць яго ну проста немагчыма. Спявачка Разалінда не любіла спявачку Ангелу. Яна не проста яе не любіла, яна ёй зайздросціла чорнай зайзрасцю і хацела канкурэнтку знішчыць. Таму Разалінда і скрала ў Ангелы палову яе дня з сямі вечара да сямі раніцы. Скрадзены час быў засунуты ў Жоўтую жабку, а тая жабка была выкінутая ў Камсамольскае возера. Ангела больш не магла выступаць, яна засынала а сёмай вечара мёртвым сном і прачыналася толькі а сёмай раніцы. Дактары не змаглі дапамагчы Ангеле, але ёй дапамагла вядзьмарка, якая ў чароўным сподку пабачыла ўсю праўду пра Жоўтую жабку і расказала тую праўду спявачцы і яе ахоўніку.

Ахоўнік займаўся дайвінгам і таму лёгка дастаў з Камсамольскага возера Жоўтую жабку. Каб вызваліць скрадзены час, жабку давялося распілаваць на некалькі кавалкаў. Залацістыя кавалкі Жоўтай жабкі Ангела падаравала Разаліндзе на дзень народзінаў разам з вялікім букетам ружовых ружаў.

## ЧОРНЫЯ КАМАРЫ

Пасярод гарачага і дажджыстага жніўня ў Мінску з'явіліся Чорныя камары. Яны былі ўдвая большымі за звычайных, а іх чорныя тулавы і крылы мелі такую шчыльнасць, нібыта іх зрабілі з варанёнай сталі. Чорнага камара нельга было расціснуць ці разбіць, але аб яго лёгка было парэзацца. Раны ад укусаў незвычайнай жамяры загнівалі і доўга не загойваліся. Паратунку ад чорнай напасці ні дактары, ні хімікі, ні біёлагі знайсці не маглі, ажно пакуль адзін даследчык дробных выспаў у Ціхім акіяне не зрабіў заявы. Даследчык Віктар Гваздоў сцвярджаў, што на выспе Цэ жыве племя людзей з іржавай крывёю. Калі некальні такіх людзей прывезці ў Мінск і пасяліць па пары-тройцы ў кожным раёне сталіцы, дык Чорныя камары, паспытаўшы іржавай крыві, захварэюць і прападуць. Мала хто верыў у поспех дарагой аперацыі «Іржавая кроў», але нічога лепшага не прыдумлялася, і аперацыю правялі. За тыдзень Мінск вызваліўся ад Чорных камароў. Людзей з іржавай крывёю вярнулі на выспу Цэ, а даследчыка Гваздова ўзнагародзілі ордэнам доктара Скарыны.

## БЕЛАЯ СВІНКА

Выкладчыца астраноміі Ліда Тарасюк нарадзіла свінку. Думала: народзіць дзяўчыну; а нарадзілася ў Ліды свіння. Муж як даведаўся, што жонка нарадзіла жывёлку, дык адразу і кінуў бедную Ліду. Сапраўдны парсюк гэты муж Тарасюк. Лямант ушчыніў. Не мая свіння! Не ад мяне свіння! Не патрэбна мне жонка са свіннёю ў прыполе! Акушэрка прапаноўвала Тарасюку зірнуць на ягоную Белую свінку. Нават адным вокам зіркнуць — адмовіўся. Кнур! Парадзіха ад сваёй Белай свінкі не адракалася. Лідзе прапаноўвалі здаць свінню ў інтэрнат. Не здала. Забрала Белую свінку і з'ехала з Мінска ў Раўбічы. Там у Ліды стаяў пусты бацькоўскі дамок з хлеўчуком. У хляўчуку жанчына-маці пасяліла дачку-свінку, а сама стала жыць у дамку. Так і пражылі яны год. За той год Белая свінка вырасла ў вялікую свінню. Ліда пачала ездзіць у Мінск і выкладаць у інстытуце сваю любімую астраномію. Вярталася яна позна, галодная і страшэнна стомленая. Аднаго разу Ліда заўважыла, што ў яе дамку нехта навёў парадак — перамыў увесь посуд і падмёў падлогу. Жанчына вырашыла высачыць і пабачыла аматарку чысціні. Гэта Белая свінка скідала тоўстую скуру і ў дзявочым абліччы прыбіра свой хляўчук і матчын дамок. Ліда Тарасюк скрала і спаліла свіную скуру сваёй незвычайнай дачкі. Далей той давялося жыць адно ў дзявочым прывабным абліччы. Аблічча было такім светлым, чыстым і зорным, што былая свінка лёгка выйграла першае месца на конкурсе «Міс Беларусь».

# ШЭРЫ ХАМЕЛЕОН

Дызайнер Гарык Мех кожную пятніцу наведваўся ў бар «Добры настрой». Той бар некалі знаходзіўся на праспекце, каля ЦУМа. Нічога адметнага і прывабнага ў «Добрым настроі» не было, акрамя Шэрага хамелеона. Ён жыў у прасторным, ярка асветленым акварыуме. Кожны дзень гаспадыня «Добрага настрою» — спадарыня Гаранская — мяняла каля акварыума вялікія аркушы каляровага кардону, і Шэры хамелеон паслухмяна змяняў свой колер — рабіўся падобным па колеры на кардонку. Гарыку падабалася піць гарэлку і глядзець на нерухомага гада, які сядзеў на сухім карчы. Бывала, што дызайнер Мех нават размаўляў з хамелеонам. Расказваў пра сваю працу ў глянцавых часопісах, пра свае малюнкі да дрэнных тэкстаў, пра фотасесіі з мясцовымі зоркамі папулярнай культуркі. Аднаго разу Гарык Мех назваў Шэрага хамелеона прыстасаванцам. Маўляў, ты, гад, — прыстасаванец, і я таксама прыстасаванец. На што хамелеон адказаў дызайнеру, што ён не прыстасаванец, а ён адпаведны навакольнай рэальнасці. Прыстасаванства і адпаведнасць, на думку гада, былі рознымі формамі паводзінаў. Ахмялелы Гарык не пагадзіўся з хамелеонам, і той прапанаваў памяняцца месцамі. Мех пагадзіўся і апынуўся ў акварыуме, а Шэры хамелеон засяліўся ў цела Гарыка. На развітанне хамелеон сказаў паланёнаму дызайнеру: «Свет лавіў мяне, ды не злавіў!» У хуткім часе спадарыня Гаранская прадала памяшканне бара «Добры настрой», і ў ім адчынілася казіно. Акварыум з дызайнерам, які сядзеў у цельцы хамелеона,

Гаранская перадала ў школьны кабінет біялогіі. А сам Шэры хамелеон стаў паспяховым акварэлістам і з'ехаў на заробкі ў Вільню.

## ЗЯЛЁНЫ РАК

Тэатральны рэжысёр Генадзь Крыгалюнас любіў ракаў. Сам іх лавіў у крынічных рэчках, сам варыў у вялікім сагане, сам і еў. Раз на два тыдні Крыгалюнас выбіраўся з Мінска па ракаў. Генадзь ведаў шмат розных месцаў, дзе можна было ракаў налавіць. Былі ў яго і любімыя месцы, як рэчка Ятранка на Наваградчыне. У блакітнай Ятранцы з-пад чорнага карча Генадзь Крыгалюнас і выцягнуў Зялёнага рака. Той так моцна ўхапіўся за палец, што рэжысёр быў падумаў: «Зараз рак мяне скалечыць! Далібог застануся без пальца!!!» З важкім ракам на вялікім пальцы Крыгалюнас выскачыў з рэчкі на пясчаны бераг, дзе і строс рака з рукі. На гарачым і сыпкім пяску Зялёны рак стаў бездапаможны. Ён стаў бездапаможны і засвістаў. Зялёны рак высвістаў такую сумную мелодыю, што рэжысёр вырашыў Зялёнага рака не варыць, а прывезці ў тэатр, каб ягоныя акадэмічныя артысты павучыліся, як трэба высвістваць мелодыю, поўную непадробнай журбы. У тэатры Крыгалюнас дастаў рака са слоіка з вадою і паклаў пад гарачую лямпу. Зялёны рак засвістаў. Ён засвістаў так, што нават пустадушныя акторкі заплакалі сапраўднымі слязьмі. Выплакаўшыся, адна з акторак прапанавала паказаць Зялёнага рака Прэзідэнту, каб той выдаткаваў грошы на здымкі фільма пра беларускае рачное дзіва.

Гаротны свіст паўмёртвага рака не спадабаўся Прэзідэнту, але сродкі на фільм пра беларускае дзіва рэжысёр атрымаў. Толькі ніякага фільма пра Зялёнага рака зняць не атрымалася, бо ніхто ж і падумаць не падумаў, што Зялёны рак можа толькі тры разы высвістаць сваю перадсмяротную песню. Ён тры разы высвіствае песню і памірае. У гэтай гісторыі пацярпеў не толькі Зялёны рак, пацярпеў і рэжысёр Генадзь Крыгалюнас, якога пасадзілі ў турму ажно на цэлы год за разбазарванне дзяржаўных сродкаў і падман Прэзідэнта.

## РУДЫ ВОЎК

Тутэйшыя паляўнічыя — Вова Мохаў і Антон Шашалевіч — таварышавалі. Вова вырашыў зляпіць сабе з гліны паляўнічага сабачку. Ён зляпіў сабачку, а той узяў ды ажыў. На паляваннях гліняны сабачка добра падымаў зайцоў і гнаў іх на гаспадара свайго — Вову Мохава. Антон пацікавіўся ў сябрука, як таму шчасціць на паляваннях. Мохаў расказаў Шашалевічу пра паляўнічага сабачку з рудой гліны. Антон доўга ляпіў сабе сабачку, але замест цуцыка атрымаўся Руды воўк. Ён ажыў, як і сабачка Мохава. На сваім першым паляванні гліняны воўк дагнаў, забіў і з'еў зайца русака, а потым напаў на гаспадара свайго — Антона Шашалевіча. Той не паспеў скарыстацца зброяй і быў парваны Рудым ваўком. Каб не Вова Мохаў, дык сваякам Шашалевіча не было б чаго пакласці ў труну. Мохаў прыстрэліў глінянага ваўка. Сабраў сябравы парэшткі ў заплечнік і прывёз у Мінск. Пахавалі Антона

Шашалевіча на Усходніх могілках. У час вялікай поўні на тых могілках з'яўляецца прывід Рудога ваўка, які вые над капцом стваральніка свайго — паляўнічага Антона Шашалевіча.

## БЕЛЫ АБАРАНАК

Сантэхнік Аляксей Пянкрат любіў смажаніну. На свой дзень народзінаў на Камароўскім кірмашы Пянкрат узяў сабе цэлага малочнага парсючка. Запёк яго ў духоўцы і пад гарэлку з хрэнам утаптаў палову. Ад такога пачастунка Аляксея пацягнула ў сон. Калі ён прачнуўся і пайшоў у лазенку апаласнуць твар, дык у люстэрку заместа твара пабачыў свіную галаву. Нельга казаць, што ў Аляксея Пянкрата быў прыгожы твар, але ж твар той быў чалавечы. Хай азызлы, хай з порыстым чырвоным носам, хай кепска паголены, але ж не свіны лыч. Пянкрат апаласнуў ледзяной вадою сваю цяпер свіную галаву і вырашыў дапіць гарэлку, даесці палову кабанчыка і яшчэ паспаць. Аляксей думаў, што сон вылекуе і замест галавы з круглым лычом на плечы вернецца твар з носам. Сон не дапамог. Горш за тое, у дадатак да свіной галавы ў Пянкрата з копчыка вырас свіны хвосцік. Ісці на працу са свіной галавою на плячах сантэхнік не рызыкнуў. Ён наогул вырашыў уцячы з Мінска на далёкі хутар. Добра, што сантэхнік меў матацыкл. Уночы на матацыкле свінагаловы Пянкрат заехаў ажно на Браслаўшчыну, дзе на хутары жыў ягоны дзядзька — Антось. Дзядзька пасвіў авечкі, меў вялікі статак, з таго і жыў. Аляксей пайшоў да Антося ў пастухі. Куды ён мог яшчэ пайсці са свіной

галавою на плячах. Аляксей Пянкрат пасвіў авечкі цэлых тры месяцы, ажно пакуль на ягоны плечы не вярнулася чалавечая галава. З чалавечым тварам пастух Пянкрат вярнуўся ў Мінск і аднавіўся на пасадзе сантэхніка. Цяпер Аляксей не п’е гарэлкі, не есць свініны і нават не мацюкаецца. Адно што не дае спакою Пянкрату свіны хвосцік, які над клубамі закручваецца ў Белы абаранак.

## ЧОРНАЯ КАРТА

Тамара Жылуновіч любіла свайго Уладзіміра Жылуновіча, а яго забілі. Прайграў сам сябе ў карты. Паставіў на кон жыццё, атрымаў Чорную карту замест патрэбнай чырвонай, прайграў, і яго тут жа, за зялёным картачным сталом у казіно «Шамбала», і зарэзалі. Труп гульца-няўдачніка пранеслі праз начны стадыён і кінулі ў Свіслач, пад лёд. Раніцай Тамара захвалявалася, расклала гадальныя карты і пабачыла ў іх, што яе любімага Уладзіміра няма ў свеце жывых. Тамара вырашыла пайсці і знайсці свайго самага дарагога чалавека. На вуліцы яна папыталася ў вялікай сініцы дарогі ў царства нябожчыкаў. Сініца ведала толькі палову той дарогі. Потым Тамару вёў верабей. Апошнюю частку доўгай, як жыццё, дарогі жанчыне паказвала маленечкая блакітніца. Усю зіму Тамара Жылуновіч карміла птушак, і за гэта яны дапамаглі дайсці і зайсці ў царства нябожчыкаў. У тым царстве Тамара знайшла Уладзіміра з перарэзаным ад вуха да вуха горлам. Абліла яго мёртвай вадою, і перарэзанае горла зраслося. Пасля мёртвай вады

Тамара паліла свайго любага вадой жывою. Нябожчык ажыў. Тамара і Уладзімір вярнуліся ў Мінск. З нагоды вяртання Тамара Жылуновіч прыгатавала святочную вячэру. Стол з пачастункамі Тамара накрыла ў садзе, пад белым бэзам. Яна высока ўзняла келіх з яблычным сідрам і сказала: «Цяпер мы будзем жыць доўга і шчасліва, а потым памром у адзін дзень!» Уладзімір Жылуновіч выпіў келіх яблычнага віна і сказаў: «Не хачу я жыць доўга. Хай жыццё маё будзе кароткае і яркае!» Сказаў і ператварыўся ў Чорную карту, якую схапіў і панёс вецер.

## ЧОРНЫ ЗАПЛЕЧНІК

Малады суддзя Пётр Каваль любіць метал. Безумоўна, продкі суддзі былі кавалямі і працавалі ў кузні каля агню. Любоў да розных металаў у суддзі Кавалёва праяўлялася ў тым, што раз на тыдзень ён наведваўся ў ювелірную краму «Чараўніца», што побач з кінатэатрам «Цэнтральны». Каб меней трапляць на чужыя варожыя і зайздросныя вочы, суддзя хадзіў не праспектам, а прахаднымі дварамі. У адзін з сонечных зімовых дзён спадар Каваль праходзіў дваром за крамаю «Чараўніца» і пабачыў на дзіцячай пляцоўцы навюткі Чорны заплечнік. З падобнымі заплечнікамі дзеці ходзяць у школу. Пятру даўно хацелася мець такі спраўны заплечнік, але ён усё адкладаў пакупку. Тут ён — Чорны заплечнік — сам папрасіўся ў рукі! Каваль паазіраўся і, не пабачыўшы небяспекі, схапіў заплечнік ды хутка пайшоў подбегам у бок тэатра. Абмінуўшы тэатральныя прыступкі, Пётр спус-

ціўся ў скверык, дзе спыніўся побач з помнікам Адаму Міцкевічу і зазірнуў у Чорны заплечнік. Там знайшлося 30 000 еўра ў бэзавых паперках па 500 кожная. Грошы суддзя забраў, а Чорны заплечнік выкінуў у сметніцу непадалёк ад помніка польскаму паэту. Тыдні тры Каваль думаў, у што патрэбнае ўкласці знойдзены скарб. Прыдумаў: набыць на іх дамок на беразе возера ў мястэчку Глыбокае. Калі разам з маладымі сябрамі-суддзямі Пётр Каваль адзначаў улазіны, дык моцна натапіў грубку ў сваім дамку. Грубку ён напаліў так моцна, што яна трэснула. Загарэліся кроквы, за кроквамі полымя ахапіла дах, і ўвесь дамок хутка згарэў. Добра, што людзі засталіся жывымі ды здаровымі. У маладых суддзяў хапіла спрыту павыскокваць з полымя. Цяпер суддзя Каваль думае, што бяда здарылася праз тое, што ён без патрэбнай павагі паставіўся да Чорнага заплечніка. Каб не выкінуў заплечнік у сметніцу, усё магло скласціся зусім інакш.

## ЧОРНАЯ ЛАСТАЎКА

На вуліцы Алаізы Пашкевіч, у доме з дзіцячай бібліятэкай жыла швачка Еўдакія Галавач. Шыла яна так добра, што нават у свае семдзесят сем мела замовы ад артыстак з опернага тэатра, які таксама стаіць на караткаватай вуліцы Пашкевіч. Семдзесят сем гадоў у душы Еўдакіі жыла Чорная ластаўка. І быў вечар, калі Дуся Галавач выканала ўсе замовы. І быў золак, калі Чорная ластаўка вылецела з душы самотнай швачкі. Ластаўка і раней вылятала з душы

Еўдакіі Галавач, але потым вярталася. Гэтым разам Чорная ластаўка паляцела так, каб не вярнуцца.

## СІНІ ЧОРТ

«Не будзеш мяне слухацца? Паабрываю цыцкі і паабгрызаю клубы! Пгодзішся — будзеш і далей жыць прыгажуняй. Не дасі, дык я цябе ўсю абгрызу да самых костак, а потым і зусім загрызу ды з'ем!» — такім дзіўным чынам Сіні чорт заляцаўся да дзяўчат у начных клубах. Дзяўчаткі, ясна справа, думалі, што ў сінявокага мужчыны дурны гумар. Яны думалі пра дурнаваты чортаў гумар, але пагаджаліся на аднаразовы сэкс з самавітым самцом. Добра, што Сіні чорт меў рэкламнае аблічча і не патрабаваў ад сваіх абранніц працяглых стасункаў. Яго цалкам задавальняў адзін хуткі злюб у цёмных каляклубных завулках. У іншым выпадку загрызеных і скалечаных дзяўчат у спакойным, халаднаватым і лагодным Мінску была б процьма.

## БЕЛАЯ РУКА

Уладзімір Астрэйка прыехаў у Мінск з Ружанаў і паступіў вучыцца на архітэктара. Вучыўся старанна, працаваў з палымяным энтузіязмам і не заўважыў, як праляцела жыццё. Астрэйку выправілі на пенсію. Ён вярнуўся быў у свае Ружаны, дзе меў пусты бацькоўскі дом. Праўда, бацькі Уладзімір не памятаў, бо той кінуў цяжарную жонку і з'ехаў у пякельны Самарканд, дзе

спіўся і прапаў. Маці Валодзі Астрэйкі працавала школьнай настаўніцай. Мела яна павагу ў Ружанах. Дзеці яе любілі. Таму мястэчка моцна перажывала, калі былая настаўніца згарэла ва ўласным хляўчуку разам з курамі ды качкамі. Як старая Астрэйчыха завярнула на сябе керагаз і вялізную каністру з газай? Чаму не выскачыла з хляўчука, а гарэла ў ім? Як згарэў увесь хляўчук, а дом застаўся? Людзі да канца і не разабраліся. Астрэйчыха абгарэла так моцна, што пазнавальнай была толькі яе правая Белая рука. Праз гэтую Белую руку былы архітэктар і не змог жыць у бацькоўскім доме. Як толькі Уладзімір Астрэйка пачынаў засынаць, з'яўлялася матчына Белая рука і гладзіла яго па сівой галаве. Рука пяшчотна гладзіла сынавы валасы, а ў паветры ціха гучаў матчын голас: «Спі, мой даражэнькі. Засынай. Заплюшчвай вочкі і спі. Хай адпачывае твая разумная галованька. Заўтра будзе новы твой дзень, светлы і радасны...» Уладзімір прадаў ружанскі дом і вярнуўся ў мінскую аднапакаёўку, дзе цяпер пацíху парадкуе ўласны архіў — раскладае па датах праекты, запісы, лісты і малюнкі. У мінскай кватэры, што на ўскрайку Малінаўкі, яшчэ ні разу не з'яўлялася Белая рука, а вось матчын голас архітэктар Астрэйка аднойчы пачуў: «Спі, мой даражэнькі...»

## ЗЯЛЁНЫ ЛІСТОК

Цырульніца Ала Салагуб сябравала з масажысткай Касяй Каравайчык. Масажыстка была ўчэпістай і спрытнай, ёй шанцавала. Цырульніца мела сякі-такі талент, але шчасце абмінала яе.

Ала пачала пільна сачыць за сяброўкай, каб даведацца, адкуль той шчасце сыплецца. Сыпалася яно з чароўнага дрэва гінка. Чароўнае дрэва расло каля стадыёна «Дынама». Кася прыходзіла пад стадыён, станавілася каля гінкі і прасіла ў дрэва дапамогі. Гінка кідала Касі Каравайчык маленечкі Зялёны лісток, тая з'ядала яго і пачынала чакаць здзяйснення свайго жадання. Тое неўзабаве і здзяйснялася. Ала Салагуб, як і Кася Каравайчык, пачала прасіць у чароўнага дрэва розных даброт аў. Дрэва не адказвала, яно маўчала і не кідала ў рукі Салагуб маленечкага Зялёнага лістка. Ала раззлавалася, злётала ў гаспадарчую краму, прынесла пад стадыён тры бутэлькі з ацэтонам і выліла смярдзючы ацэтон пад камлём у гінкі. Чароўнае дрэва згінула. Калі Кася даведалася, што яе сяброўка Ала знішчыла гінку, дык ледзь не задушыла тую голымі рукамі, але ў час спахапілася. Вядома, масажыстка Кася Каравайчык больш не сябруе з цырульніцай Алай Салагуб. Каб не сумаваць без чароўнага дрэва, Кася з'ездзіла ажно ў Абхазію і адтуль прывезла сажанец гінкі. Дрэва, што цяпер расце пад вокнамі Касі Каравайчык, зусім не чароўнае, але адно яно цешыць вока і супакойвае. Дарэчы... Ледзь не забыўся сказаць... У Алы Салагуб адсохла рука, якой цырульніца ліла ацэтон пад чароўнае дрэва.

## БЛАКІТНЫ ЦМОК

Блакітны цмок жыў у невялічкім балотцы пад Заслаўем. Калі побач з балотцам легла новая дарога і яно пачало перасыхаць, цмок

вырашыў перабрацца ў сталіцу. Ён перакінуўся ў самавітага мужчыну, уладкаваўся на тэлевізію і неўзабаве стаў зоркай. Блакітны цмок вёў тэлешоу, прысвечанае модным жаночым апранахам. Вакол цмока круціліся прыгажуні, а сярод іх знайшлася зайздросніца — Тома Брылеўская. Яна хацела сама весці тэлешоў пра стыльныя дзявочыя ўборы. Яна марыла сама зрабіцца ўплывовай тэлезоркай. Яна праз ліслівасць стала правай рукой Блакітнага цмока, які даверыў ёй сваю страшную таямніцу. Была ў Блакітнага цмока такая таямніца — яму нельга спаць у час грымотнай і бліскавічнай навальніцы. Таму калі цмок пасярод дня клаўся адпачыць, дык прасіў спадарыню Брылеўскую пільна сачыць за сталічным небам. Тры разы Тамара будзіла Шэрага цмока, калі бачыла, як на Мінск насоўваецца чарнахмарная навальніца, а на чацвёрты вырашыла не будзіць змораную несупыннай працай тэлезорку. Цмок спаў сваім глыбокім балотным сном на канапе, што стаяла пад адчыненым акном. Блакітны цмок нават прачнуцца і спалохацца не паспеў, бо першая маланка, што вылецела з чорнай хмары, адразу пацэліла ў яго і спаліла разам з канапай. Тамарка так спалохалася, пабачыўшы чорнае цела абгарэлага цмока, што яе спаралізавала. Тут яе амбітным марам пра тэлезорнасць і прыйшоў капец. На шоў пра модныя жаночыя ўборы былі запрошаныя новыя вядоўцы, а пра Блакітнага цмока, які даверыў сваю таямніцу зайздрослівай Тамарцы, тэлегледачы хутка забыліся.

# БІРУЗОВАЯ ЛЯЛЬКА

Кінастудыйны бутафор з «Беларусьфільма» Аляксей Рак зрабіў сабе Бірузовую ляльку. Яна была такой прывабнай, што Аляксей нават блізкім таварышам баяўся паказваць чароўнае стварэнне. Абліччам Бірузовая лялька нагадвала тэатральную артыстку ў стылі мадэрн. Аляксей пачаў загаворваць з лялькай, але яна заставалася глухой да шматслоўных аповедаў стваральніка. Бірузовая лялька была глухой, ажно пакуль бутафор не заспяваў ёй «Купалінку». «Купалінка, Купалінка, цёмная ночка, цёмная ночка...» — ціха-ціха, ледзь не шэптам спяваў кінастудыйны працаўнік, а Бірузовая лялька яму ледзь чутна падпявала. Дзякучы спевам лялька ажыла і зрабілася сапраўднай жанчынай. Адно што засталося ў ёй ад лялькі — нязменнае аблічча, яна выглядала вечна маладой. Аляксей Рак пражыў доўгае жыццё з жанчынаю з артыстычным, маладым і лялечным абліччам. Калі бутафор назаўжды выправіўся ў маўклівае закуліссе, ягоная ўдава замаркоцілася. Яна так засумавала і загаравала, што пачала зноў рабіцца Бірузовай лялькай. За якое імгненне перад тым, як зусім знерухомець, Бірузовая лялька абліла сябе спіртам і падпаліла. Лялька згарэла ўся чыста, дымам у неба пайшла, нават жменькі попелу ад яе не засталося. Захавалася іншае: некалькі блізкіх да нябожчыка Рака кінастудыйцаў расказвалі гісторыю пра вялікую любоў бутафора і яго Бірузовай лялькі. Яны расказвалі пра спеўную любоў і плакалі. Толькі іх кінастудыйныя слёзы былі крыху недарэчнымі.

# БЕЛЫ НОЖ

Пачатак гэтай гісторыі ляжыць у часах сівых легендаў ды паданняў. Сам Пярун, пабачыўшы пакуты чалавека на тутэйшай зямлі, спусціўся з неба і падараваў Яну Кумірмасу Белы нож. Так у Менску з'явіўся першы металічны нож для наразання хлеба, бо да таго часу хлеб не рэзалі на лусты, а ламалі на кавалкі. Ян Кумірмас перадаў Белы нож свайму сыну Саве Кумірмасу. Ад Савы Кумірмаса нож перайшоў да ягонага сына — Чэся Кумірмаса. Так — ад бацькі да сына — Белы нож дайшоў ажно да нашых часоў, і быў ён у Кумірмаса, якога звалі, як таго прашчура, аблашчанага Перуном, — Ян. У апошняга з роду Кумірмасаў не было сына, у яго наогул не было дзяцей. Таму і вырашыў Ян Кумірмас Апошні перадаць рэліквію ў Мастацкі музей. Сваёй задумаю ён падзяліўся з сябрам — Уладам Усунічным. Улад ухваліў задуму Кумірмаса, і яны разам панеслі Белы нож у Мастацкі музей. На Кастрычніцкай плошчы іх накрыла грымотная навальніца. Чорная хмара расхінулася, з яе паляцела на зямлю белая маланка і забіла Яна Кумірмаса Апошняга. Неба грымела і палівала Мінск вадою. Здавалася, той навальніцы не будзе канца. Толькі ўсё, што пачалося, мусіць і скончыцца. Навальніца скончылася. Нябожчыка, забітага маланкай, звезлі ў морг. Ніякага Белага нажа, як цяпер вядома, пры ім не знайшлі. Больш за тое, ніхто не бачыў і Улада Усунічнага. Ён прапаў разам з рэліквіяй. Кажуць, што Улад недзе жыве ў Мінску пад іншым прозвішчам. Казаць кажуць, але бачыць ніхто не бачыў. А вось танец маленькіх маланак вакол

мёртвага Яна Кумірмаса Апошняга бачылі многія. Маленькія сляпуча-бела-блакітныя маланкі круціліся ў імклівым карагодзе вакол Кумірмаса, можа, цэлую хвіліну, а, можа, нават і ўсе дзве.

## ЗЯЛЁНЫ АДЭКАЛОН

Праграміст Анатоль Атраховіч ездзіў на працу на ровары. Большая частка ягонага штодзённага шляху супадала з добрай веладарожкай. Анатоль лётаў па той дарожцы па дзесяць разоў на тыдзень. Ведаў кожны паварот, кожны ўздым і кожны спуск. Ён ведаў, а шафёр фургона з новым абсталяваннем для дзяржаўнага цырка зусім нічога не ведаў пра нейкую там веладарожку. На вуліцы Янкі Купалы шафёр паехаў на жоўтае святло і збіў Атраховіча. Анатоль памёр адразу, але выпраўляцца ў далёкі свет нябожчыкаў не захацеў. Ён кінуў пашкоджаны ровар і ўцёк з месца здарэння. Вярнуся дамоў, дзе праспаў тры дні і тры ночы. Пасля доўгага сну сілы вярнуліся да праграміста Атраховіча. Ён прыняў душ, пагаліўся і нават сабраўся быў пайсці на працу, але перадумаў. Вырашыў проста прагуляцца па сонечным вераснёвым Мінску. У час прагулянкі Анатоль заўважыў, што не можа наблізіцца да людзей. Як толькі пачынае набліжацца, людзі крывяцца і стараюцца адысці ад яго як найдалей. Атраховіч адшукаў у зацішным скверыку падлетка і яшчэ здалёк запытаўся, чаму той пачаў крывіцца. «Крыўлюся, бо ад Вас гнілой магілай смярдзіць!» Сам Анатоль Атраховіч уласнага магільнага духу зусім не чуў. Праграмісту давялося тры дні і тры ночы прася-

дзець у Інтэрнэце, каб знайсці ратунак ад смуроду — Зялёны адэкалон. Той лёгка перабіваў усе магільныя пахі ды смуроды. У краме «Зорка» праграміст набыў сабе адразу тры фл... (ледзь не сказаў — флэшкі) флакончыкі з Зялёным адэкалонам, якія змяніў дух нябожчыка на прахалодны хваёвы водар. Алесь Атраховіч зноў зажыў спакойным жыццём мінскага праграміста. Праўда, на працу ён цяпер дабіраецца не на ўласным ровары, а грамадскім транспартам.

## ШЭРЫ ДАРАДЦА

Дробны, сухарлявы, злы. На носе цяжкія акуляры. Караткаватыя порткі ільсняцца на худым азадку. Ён штодня праходзіць каля тэатра Янкі Купалы і кіруецца ў Вялікі дом. У тым доме Шэры дарадца працуе карэктарам. Па тры разы ён вычытвае тэксты, што ідуць на подпіс да Першага. Першыя змяняюцца, а Шэры ўсё сядзіць і сядзіць у сваім мулкім сціплым карэктарскім крэсле. Яго б даўно памянялі на каго маладзейшага ці, што верагодней, — маладзейшую, каб не карысныя парады. Шэры дарадца дае Першаму самыя карысныя з усіх карысных парадаў. Адкуль ён тыя парады бярэ? З балотнага круглага вакна. Ёсць пад Заслаўем лясное балотца, пасярэдзіне якога ляжыць невялікае чорнае чароўнае вакно. Дайсці да таго вакна можа толькі Шэры дарадца. Больш ніхто сцяжыны праз багну не ведае. Ён неяк з купіны ды на купіну скача і далазіць да вакна. Там кладзецца на мох, каб слухаць бурбалкі, што падымаюцца з балотных нетраў на паверхню чор-

най вады. Балотныя бурбалкі расказваюць Шэраму пра будучыню Першага. Раней парадаў Шэрага ніхто не слухаў. Пакуль ён не прадказаў смерць Машэрава ў аўтакатастрофе. Пасля пахавання Машэрава да Шэрага дарадцы пачалі прыслухоўвацца. Пачалі яго ўзнагароджваць. Узнагароды ён браў, а грашовых падачак цураўся. Жыў аскетычна. Баяўся праз грошы страціць дар — разумець ціхія словы балотных бурбалак. У Вялікім доме ідзе страшная канкурэнцыя сярод рознаўзроўневых дарадцаў. Ёсць там сінія, чырвоныя, жоўтыя дарадцы, але ўсе яны слабейшыя і дурнейшыя за Шэрага, бо няма ў іх балотнага вакна з бурбалкамі-шаптухамі. Хто з каляровых дарадцаў наняў кілера? Невядома. Нехта наняў, і Шэрага дарадцу застрэлілі ў прыбіральні побач з тэатрам Янкі Купалы. Кілер забіў не толькі Шэрага, ён застрэліў і супрацоўніц прыбіральні. Пасля таго трайнога забойства грамадскую прыбіральню па-хуткаму перарабілі ў тэатральную касу.

# ГІСТОРЫІ ПРА ЖЫВЁЛ



# ШЭРЫ ВОЎК

Жывёлы не выміраюць. Не. Хто сказаў, што яны знікаюць? Памылка. Жывёлы, каб выжыць, абарочваюцца людзьмі. Папрыглядайся, і ты пабачыш, колькі вакол цябе ваўкоў, мядзведзяў, лісіц... Раней, каб уцячы ад пагоні, чалавеку трэ было перакідвацца ў ваўка. А цяпер? Якраз наадварот. Ваўку даводзіцца ператварацца чалавекам. Мо ты ведаеш чабурэчную, што ў Мінску насупраць старой турмы? Не ведаеш. Не бяды. Ёсць у нас чабурэчная, дзе адзін час гаспадарыў сапраўдны Шэры воўк. Нейкім чынам ён яе прыватызаваў. У чалавечым абліччы воўк меў мяно Сяргей Савік. Відны быў мужчына. Дужы. Ніхто і здагадвацца не здагадваўся, што гэта Шэры воўк у чалавечай скуры. Можа, ніхто б і не здагадаўся пра ваўчыную кроў гаспадара чабурэчнай, каб не лютая бойка. Прыехалі з правінцыі ў сталіцу пастаўшчыкі мяса — браты Лісавенкі. Савік тых братоў частаваў у сваёй чабурэчнай, наліваў гарэлку ды накладаў чабурэкі. Начаставаліся ўсе так, што перасварыліся страшна. Тут Савік і раз'юшыюся да таго, што перакінуўся ў Шэрага ваўка, і ад братоў Лісавенкаў пазаставаліся адно крывавыя лахманы. За сваё злачынства Сяргей патрапіў у старую турму. Там ён таксама некалькі разоў ператвараўся ў Шэрага ваўка, але нікога не рваў. Трымалі Савіка ў адзіночнай камеры. Ну а як інакш? А потым, як у нас робіцца, паціху прыстрэлілі чалавека-ваўка. Цяжка жывёліне ў чалавечай скуры жыць. Бывае так цяжка, што лепей смерць.

## ШЭРЫЯ СЛЯДЫ

Пра Шэрыя сляды распавядаў паляўнічы Барыслаў Ладаўшчук. Ён на свае вочы бачыў, як ланцуг ваўчыных слядоў на снезе паціху, крок за крокам, ператварыўся ў сляды, пратаптаныя босымі жаночымі нагамі. Вялікая ваўчыца бегла па свежым снезе і ператваралася ў жанчыну. Міхась прасачыў тыя сляды ажно да самай хаты, што стаяла на ўскрайку Крутагор'я. У той хаце жыла самотная жанчына, якая працавала ў аптэчным шапіку. Ладаўшчук пачаў абыходзіць той шапік трэцяй вуліцай. А чорт іх ведае, гэтых ваўкалачак, гэтых пярэваратняў і чараўніц. Пра глыбокія Шэрыя сляды паляўнічы распавёў усяму мястэчку. Аптэкарцы давялося кінуць працу, прадаць хату і з'ехаць.

## ЧОРНЫ ЧОРТ

Жыў-быў хлопчык бязбацькавіч. Выпрасіў той байструк у сваёй маткі сабаку — чорнага пудзеля. Штовечар і штораніцы бязбацькавіч выгульваў пухнатага гадаванца ў парку. Напрыканцы лета насунулася на горад чорная хмара. Неба загрукатала. Распачалася залева. Паміж небам і зямлёю паўстала сцяна вады. Вечаровая навальніца заспела байстручка з кабяльком у дубовых прысадах. Хлопец хацеў быў навязаць сабаку на шворку, але ў гэты момант бліснула блізкая сляпуча-блакітная маланка. І што б ты думаў? Сабака спалохаўся і ўцёк. Байструк пахадзіў пад дажджом, пагукаў ка-

бялька, прамок наскрозь і вярнуўся дамоў. Маці пабачыла сына без сабакі, зазлавала і пагнала шукаць пудзеля наноў. Хлопец вярнуўся ў дубовую алею. І што б ты думаў? Там ён знайшоў свайго ўлюбёнца. «Ах як добра! А мой ты харошы! А я баяўся, што не знайду цябе...» — байстручок узяў гадаванца на рукі і панёс дамоў. Сабачка прасядзеў на руках ціха ажно да самага дома. Перад дзвярыма ў пад'езд пудзель загаварыў чалавечымі словамі: «Ах як добра, а мой ты харошы, а я баяўся, што не знайду цябе... Не таго ты, байструк, баяўся!» Хлопец спужаўся вельмі ды кінуў гаваркога сабаку на зямлю. Той ударыўся аб ходнік, ператварыўся ў Чорнага чорта і пабег праз шумлівую залеву, у вечаровы цёмны парк. Байстручок вярнуўся дамоў. І што б ты думаў? Там яго ўжо чакаў сапраўдны чорны кабялёк.

## РУЖОВЫ ТУМАН І ТУМАН БЭЗАВЫ

На вуліцы Няміга, пад якой па трубах цячэ аднайменная рэчка, пачаў з'яўляцца Ружовы туман. Ён павольна выплываў з вадасцёкаў. Высока ён не ўздымаўся, сцяліўся над зямлёю і паціху плыў уздоўж дарогі, у бок Свіслачы ды Траецкага прадмесця. Для чалавека той туман быў бясшкодны, а вось сабакі ў ім прападалі незваротна. Забяжыць які цуцык у Ружовы туман, а потым гаспадар знаходзіць толькі ашыйнік ад свайго улюбёнца. Кабялі і сучкі распускаліся ў Ружовым тумане вокамгненна. Была сучачка — і няма сучачкі, як і не было. Быў кабя-

лёк — і няма кабялька, як і не было ніколі. Адно што пасля знікнення сабакі туман на нейкае імгненне рабіўся крышачку ружовейшы. Сабакажэрны туман дапаўзаў да Свіслачы, спаўзаў з берага на ваду і прападаў у рачной плыні. Гарадскія ўлады спрабавалі змагацца з сабакапаглынальным туманам, нават выклікалі спецыялістаў з блізкага замежжа. З Вільні, з Варшавы, з Рыгі прыязджалі даследчыкі. Яны пераканалі мінчан, што Ружовы туман — з'ява недаўгавечная і хутка прападзе. Сапраўды, сабакаедны туман неўзабаве прапаў. Спецыялісты казалі, што такія туманы з'яўляюцца ў сталіцах новых дзяржаў у часы іх станаўлення. Як толькі незалежнасць прызнаецца іншымі дзяржавамі, Ружовы туман прападае. Кажуць, калі дзяржава не набывае а страчвае сваю незалежнасць, у сталіцы можа з'явіцца туман бэзавы і з'есці ўсіх чыста катоў з коткамі. У Мінску такога коткаеднага туману амаль ніхто і не памятае, але яго добра помняць у блізкім замежжы: у Рызе, у Коўна і ў Варшаве.

## ЖЫЦЦЁ ЎЗОРНАЙ ЖЫЛЫ

Жыла-была Жыла. Жыліла тая Жыла ўсё і ўсім. Нават сабе Жыла ўсё чыста не дадавала, не дакладала і жміндзіла. Ніхто не любіў Жылу за яе жмотнасць і скупярдзяйства. Каб Жыла магла, яна б перастала скупярдзяйнічаць. Не магла, бо народжаны скнараю будзе жыліць. Яна спрабавала кінуць сквапнічаць і стаць шчодрай, але колькі ні выжыльвалася і не высільвалася, а змяніцца не змагла. Так і жыла Жыла са сваёй не-

пазбыўнай сквапнасцю. Так і пражыла сваё жыльнае і шыльнае жыццё Жыла. Так і сышла ў нябыт, пакінуўшы памяць пра зажыльванне, жыльнасць і жмотнасць.

## СЛУПНІК І ЯМНІК

Гаўрыла Слупнік лічыў, што сэнс жыцця ў стаянні на слупе. Сямён Ямнік меў супрацьлеглае меркаванне, яму падабалася ціха сядзець у яміне. Слупнік вырашыў давесці Ямніку сваю праўду. Гаўрыла пайшоў у лес, дзе спаткаў мядзведзя. Міша ляжаў на паляне і горка плакаў, бо ў ягонай падэшве сядзела доўгая стрэмка. Слупнік дастаў стрэмку з падэшвы звяругі, той з хворага і лютага зрабіўся здаровым і лагодным. Гаўрыла Слупнік здзейсніў дзіва і вярнуўся на каменны слуп. Сямён Ямнік не хацеў саступаць Слупніку. Сямён вылез са схованкі і выправіўся ў вандроўку, каб здзейсніць сваё дзіва. На дарозе Ямнік сустрэў рагатых злодзеяў. Тыя скралі ў селяніна барана, зарэзалі, падсмажылі і з’елі. Пасля балявання са скрадзеным мясам у злодзеяў выраслі рогі, рыхтык як у бараноў. Сямён Ямнік паабяцаў злодзеям прыбраць рогі з іх галоў, калі яны перастануць красці. Раганосцы далі Ямніку сумленнае абяцанне — больш не чапаць чужога. Ён прыбраў з чалавечых галоў барановы рогі. Злодзеі і сапраўды болей не кралі, бо баяліся стаць рагатымі. Ямнік вярнуўся ў яму, дзе неўзабаве і сканаў. Не нашмат больш пражыў і Слупнік. Так яны абодва і не пераканалі іншых у сваёй праўдзе, добра хоць тое, што крыху дапамагалі людзям і жывёлам.

# ЛІСА І ЮР

Іржавахвостая Ліса жыла з калматым Мядзведзем. Сама яна магла падгуляць, а магутнага мужа на гулі не пускала. Аднойчы да Лісы пачаў заляцацца малады Воўк. Ліса задрала хвост, Воўк хвацка адмайстрачыў распусніцу і запытаўся: «Твой крывалапы так зможа?» Ліса ашчэрылася, злосна зірнула на палюбоўніка і прабрахала: «У майго асілка такі чэлес, што ён можа затрахаць такую, як я, Лісу і такога, як ты, Ваўка да смерці! Я падгульваю толькі таму, што неадольны юр заштурхоўвае мяне ў распусту, а супраць Мядзведзя ў Ваўка шанцаў нямашака!»

# ЗАЛАТЫ ЛЕЎ-АХОЎНІК

Заможны чалавек замовіў скульптару Льва. Бронзавага Льва паставілі каля брамы загараднага катэджа. Выпраўляючыся ў адпачынак, гаспадар наказаў свайму Льву ахоўваць катэдж і берагчы багацце, што назапасілася ў доме. Калі гаспадар вярнуўся, дом быў абрабаваны. Мужчына раззлаваўся і сказаў бронзаваму ахоўніку, што паб'е яго і здасць на металалом, калі той не верне нарабаванае. Леў спалохаўся помсты раз'юшанага чалавека, саскочыў з пастамента і пабег да рабаўнікоў. Тыя не чакалі праследу ад бронзавай жывёлы, спужаліся і вярнулі з выбачэннямі скрадзенае багацце законнаму гаспадару. Той так расчуліўся, што замовіў скульптару невялікую залатую копію Льва-ахоўніка, якую паставіў на свой працоўны стол.

## ЛІС І ВАВЁРАЧКА

Стары Бабёр вырашыў зрабіць у хатцы еўрарамонт. У якасці памагатага наняў маладога Ліса. Той працаваў кепска, ленаваўся, а што самае дрэннае — псаваў дарагія матэрыялы. Ліс разбіў шклопакет у гаўбцовых дзвярах, вывернуў на паркет вядро з лакам, перапэцкаў цэментам белыя шпалеры. Нарабіў шкода столькі, што Бабёр не вытрымаў і вылаяўся: «Ты не Ліс, ты — похваліз і сракатрах бязрукі ды нікчэмны!» Ліс не разгубіўся і адказаў: «Не думаў я, што жонка твая Вавёрачка так хутка свайму старому нямозе пра нашы забаўкі раскажа!»

## МІНСКІ КАНІБАЛ І БАРАНІНА

Па сталіцы папаўзлі чуткі, што ў Мінску зладзейнічае канібал. На трох сметніках былі знойдзеныя целы маладых згвалтаваных і задушаных жанчын. Мяккія тканкі нехта павыдаляў з іхніх сцёгнаў механічным чынам. Узнікла версія пра гвалтаўніка-канібала. Праваахоўнікі спрабавалі засакрэціць матэрыялы следства, але інфармацыя пра лютага нелюдзя працякла ў Інтэрнэт. Таму кухар рэстарана «Наш Грунвальд» і насцярожыўся, калі вузкавокі наведнік папрасіў падсмажыць кавалак сваёй, а не рэстарацыйнай бараніны. Такое жаданне ён патлумачыў наступным чынам... Ён — казах Кімбілет. У Казахстане звычайная справа — прыходзіць у рэстарацыю са сваім мясам, як у Беларусі некаторыя наведнікі прыносяць свае бутэлькі

з пітвом. Кухар насцярожыўся, захваляваўся і выклікаў міліцыянтаў, каб праверыць падазраванні — раптам мяса не з барана, а з чалавека. Група захопу дзейнічала кепска. Міліцаі справакавалі Кімбілета на бойку. У час жорсткай сутычкі казах атрымаў рану, не сумяшчальную з жыццём. Эксперты даследвалі прынесенае ў «Наш Грунвальд» свежае мяса і высветлілі, што яно — сапраўдная бараніна. Праз нейкі час сталічныя праваахоўнікі высачылі ды злавілі гвалтаўніка-забойцу. Ён прызнаўся, што імітаваў лютасць канібала і распаўсюджваў жудасныя чуткі пра людарэза, каб напужаць горад. У судзе фальшывы канібал атрымаў накіраванне на сапраўдны растрэл.

## ВОГНЕННАЯ ЛІСА Ў СТАЛІЧНЫМ ПАРКУ

Ён убачыў яе на паляне. Ішоў праз лес са сваёй вёскі на дзядзькаў хутар, а яна — Вогненная ліса — стаяла пасярод вяснова-зялёнай паляны. Хлопец спыніўся і залюбаваўся; а ліса не сыходзіла, не ўцякала, яна ўсміхалася. Ён зрабіў крок насустрач усмешцы, і ліса прапала, як і не было. Пра даўнюю сустрэчу з Вогненнай лісою мужчына згадае ў сталічным парку, калі гайня сабак раздзярэ тую чароўную лісу на кавалкі. А да гэтага адбывалася наступнае: вясковы хлопец паехаў у горад вучыцца, вывучыўся на архітэктара і прыжыўся ў сталіцы. Ажаніўся, знайшліся дзеці — хлопчык і дзве дзяўчынкі. Жыццё плыло роўна, ажно пакуль да яго на працу не завітала журналістка ў чырвонай сукенцы. Яна сказала,

што рыхтуе матэрыял, каб напісаць сцэнарый і зняць пра яго — вядомага архітэктара — тэлефільм. Сцэнарый пісаўся марудна, але стасункі паміж архітэктарам і журналісткай разгортваліся хутка. Яны сталі каханкамі ў першы дзень знаёмства. Архітэктар наняў кватэру, дзе штовечар сустракаўся з журналісткай. Немаведама чым бы скончыліся такія стасункі, каб не здарэнне ў парку. Архітэктар угаварыў журналістку прагуляцца ў вечаровым горадзе, спакусіў яе катаннем па ціхай рэчцы на маленькай лодачцы. Каханкі ішлі праз парк, калі ім насустрач выбег вялізны чорны сабака. Ён забрахаў на журналістку, а тая ператварылася ў Вогненую лісу і кінулася ўцякаць. Архітэктар запыніў і моцна пабіў чорнага сабаку, але гэта не ўратавала ягоную спадарожніцу. З усіх куткоў парку наляцела процьма самых розных сабак, і яны парвалі лісу-пярэваратніцу на дробныя шкамуткі. Архітэктар моцна перажываў страту каханкі. Калі рабілася зусім горка, ён ездзіў і падоўгу стаяў на лясной паляне, дзе першы раз убачыў сваю Вогненную лісу.

## ЛІСА І ВЯЛІКІ ПЕВЕНЬ

За зіму Ліса моцна агаладала ў халодным лесе. Таму і рызыкнула рудая драпежніца прабрацца ў куратнік ды сцягнуць птушку. Гаспадар, пабачыўшы нару, праз якую Ліса скрала маленькага пеўніка, вырашыў паставіць пастку. Уночы Ліса праз нару зноў залезла ў куратнік, але, убачыўшы пастку, у якой ляжаў вялікі певень, адступілася. Яна пабегла ў лес да Ваўка.

«Воўк, ты, напэўна, галодны?» — «Тры дні і тры ночы вяртаюся з палявання пусты!» — «Воўк, а я ведаю, дзе можна ўзяць вялікага пеўня». — «Чаго ж ты сама пеўня не ўзяла?» — «Фігуру берагу. Худнею. На дыеце сяджу. Мне ўвесь певень не патрэбны. Хопіць і аднаго крылца». — «Паказвай, дзе можна ўзяць вялікага пеўня». Ліса завяла Ваўка ў куратнік. Той схапіў зубамі вялікага пеўня. Жалезная пастка сашчапіла зубцы вакол ваўчынай шыі. Ліса вырвала пеўня з зубоў палоннага Ваўка і ўцякла ў начны лес, дзе балявала і весялілася тры дні запар.

## БАРАН І АВЕЧАЧКА

Малады баран закахаўся ў авечачку. Яна была цнатлівая, і ён таксама ніколі ў жыцці не маркітаваўся. Закаханыя зайшлі ў высокую траву і доўга лашчыліся ды песціліся, пакуль баран не ўзлез на авечачку. Ён узбіўся на яе і заглыбіўся ў вузенькую похву. Авечачка тарганулася ад вострага болю. Семя выструменілася з чэлеса. Баран адчуў невераемную лёгкасць. Ён расплюшчыў вочы і пабачыў, што паляна з высокай травой засталася далёка ўнізе. Ён ляцеў у чыстым небе. Авечачка таксама адчула палёгку, яна ўзняла голаў і пабачыла высока ў небе самага сапраўднага анёла.

## ЛІСА І СУДДЗЯ

Старая Ліса падала ў суд на маладога Дзіка. Яна сцвярджала, што ён яе згвалтаваў. Дзік заявіў, што старая хлусіць, каб спагнаць з яго

дадатковыя грошы. Інтымная сувязь адбылася ў іх толькі аднойчы, па агульнай згодзе і за грошы. Суддзя засумняваўся ў праўдзівасці словаў хітрахвостай Лісы. Ён дастаў з шафы паляўнічы нож, вынуў яго з ножнаў і даў Лісе. Суддзя, трымаючы ножны, загадаў Лісе засадзіць у іх нож. Яна паспрабавала вярнуць лязо ў ножны, але суддзя адварочваў іх то ў адзін то ў другі бок. Ліса не змагла нават дзюбку ляза ўставіць у адтуліну. «Ды не круціце Вы ножны, пан суддзя. Вы іх падстаўце, тады нож зойдзе ў ножны і я выканаю загад!» — прагаварыла раздражнёная Ліса. Суддзя абурыўся: «Гадзіна ты іржавая. Каб ты сама не падставілася, Дзік бы ў цябе і не ўвайшоў!» Ліса кінула нож і ўцякла. Так справа пра згвалтаванне ў судзе і скончылася. Нездарма ў нас ножны можна называць похваю.

## КОТ І ГОЛУБ

Кот злавіў Голуба. «Коцік, не еш мяне!» — папрасіў Голуб. «Галодны я, тры дні не еў», — сказаў птушцы Кот. «Не еш, бо не наясіся. Што ў мяне есці? Косткі ды пёры! А я магу цябе, Коцік, накарміць. Наясіся свежай цялячай пячонкі!» Згадка пра цялячую пячонку ўзрадавала і абнадзеіла галоднага Ката. «Дзе ты возьмеш пячонку?» — спытаў ён. «Сёння нядзеля. Жанчына з дома пад шпілем пайшла на Камароўскі рынак. Яна кожную нядзелю туды ходзіць. Сёння, яна сама казала суседкам, ёй паабяцалі свежую пячонку. Яна будзе несці пячонку, а я сяду ў яе на дарозе. Буду сядзець так, нібыта ў мяне адно крыло перабітае. Яна падумае, што мне трэба

дапамагчы, і паспрабуе мяне ўзяць у рукі. Каб спрытней было браць, яна паставіць валізку з пячонкай на ходнік. Я тым часам адскочу і крышку адлячу ўбок. Жанчына пойдзе за мной. Я адвяду яе ад валізкі. Ты, Коцік, падбяжыш, выцягнеш пакунак з пячонкай і схаваешся ў сваіх сутарэннях, а я зраблю спалоханы выгляд і палячу ў неба...» Кот з Голубам здзейснілі свой план крадзяжу лёгка. Кот наеўся свежай пячонкі, але ўсю яе з'есці не змог і частку аддаў свайму новаму сябруку — кемліваму Голубу.

## БЕЛЫ КАБАН

Местачковы школьнік Віця Корань не мог рашыць простую арыфметычную задачу на тры дзеянні. Ён сядзеў за сталом і перачытваў падручнік, калі баба гукнула яго і папрасіла пасекчы бульбу. Віця сек звараную бульбу для Белага кабана. Смачная, густая і салодкая пара ўздымалася над карытам. У пасечаную бульбу баба ўкінула некалькі скібак чорнага хлеба і панесла ў хлеў. Вяртацца за стол вучню не хацелася, і ён пайшоў за бабаю. Віця глядзеў, як прагна жарэ сваю цёплую страву іх вялізны Белы кабан, і ў школьніка з'явілася жаданне папрасіць дапамогі ў жывёліны. «Шаноўны, можа, дапаможаш мне знайсці рашэнне арыфметычнай задачы?» Кабан даеў бульбу, зірнуў на Віцю маленечкім вочкам і прарохкаў: «Перакажы ўмовы задачы!» Віця пераказаў. Кабан страсянуў ружовымі вушамі і расказаў парадак усіх трох дзеянняў. З таго дня Віця Корань штодня наведваўся да Белага кабана і частаваў яго морквай. За салод-

кую і хрумсткую моркву той рашаў розныя задачы. Неўзабаве Корань стаў ці не найлепшым матэматыкам у іх местачковай школцы. Настаўнікі прарочылі таленавітаму вучню вялікую будучыню. Але не бывае святла без змроку. Белага кабана закалолі. Віця глядзеў на акрываўленую кабановую галаву, што, ашчэрыўшы зубы, ляжала на чыстым снезе, і горка плакаў гарачымі слязьмі. Белы кабан загадзя папярэдзіў свайго сябрука-школьніка, што хутка яго заколюць і пусцяць на кілбасы і свежыну. Але ўвесь ён не прападзе ў страўніках прагных да мяса і сала местачкоўцаў, частка яго застанецца жыць у выглядзе ценя, што будзе хавацца ў самым цёмным кутку хлява. Цень Белага кабана будзе па-ранейшаму рашаць матэматычныя задачы і прыклады. Так яно і было. З дапамогай кабана Віктар Корань выдатна скончыў школу. Пасля школы ён з'ехаў вучыцца ў сталічным універсітэце. Там ён зорак з неба не хапаў, вучыўся пасрэдна, а праз пяць гадоў вярнуўся ў сваё мястэчка Крутагор'е працаваць школьным настаўнікам. Што да Белага кабана, дык ягоны цень знік з хлява на другі дзень пасля ад'езду Віктара Кораня ў Мінск.

## ЛІСА І КАЧКА

Ліса напісала ў блогу, што больш не будзе есці мяса. Яна вырашыла перайсці на садавіну, гародніну і траву. Талерантнасць, гуманізм, лаяльнасць — тры рэчы, якія пераканалі былую драпежніцу стаць веганкай. Мыш не паверыла Лісе. Не дала веры ў добрыя намеры рудой

хітрулі і маўклівая Рыба. Курыца на ўсялякі выпадак удакладніла, ці будзе Ліса есці птушынае мяса... На што пачула лаканічнае «Не!». Толькі тлустая Качка ўзрадавалася заяве. Яна наскубла духмяных пёраў маладога аеру і прынесла Лісе ў якасці пачастунка. Тая падзячыла, паставіла аеравы букет у настольную вазу, а потым задрала і з'ела добрую Качку. Ліса даўно палявала на птушку, але ўзяць яе было цяжка, бо Качка выдатна плавала і цудоўна лётала.

## ЛОСЬ І ГУСАЧОК

У кавярні «Акварыум» сустрэўся з Ласём. Мы пагаманілі пра Брэйгеля Сялянскага, пра Ван Гога і Гагена. Згадалі нашу мастацкую вучэльню. Лось расказаў пра падарожжа ў Арль, дзе некалі жылі Гаген з Ван Гогам. Мы пагаравалі, што дома, у якім працавалі мастакі, няма, бо гарадскія ўлады Арля ў 1995 годзе дазволілі яго знесці. Лось спытаў, чым займаюся. Я сказаў, што малюю і пішу кароткія казкі пра жывёл. Тады ён хуценька пераказаў казку пра Гусачка, якую пачуў і запісаў у 1990. Лось пераказваў скарочаную версію народнай казкі. Такі зараз свет, усе ўсё скарачаюць і паскараюць. На падставе пачутага я напісаў свой яшчэ карацейшы варыянт...

### Казка пра тое, як Гусачок хадзіў у Маскву, каб там Богу памаліцца

Гаспадыня падрэзала крылы маладзенькаму Гусачку, каб той не адляцеў. Загараваў Гусачок.

Пагараваў ён тры дні і вырашыў, што трэба пайсці ў Маскву, каб там памаліцца Богу і папрасіць новыя крылы. Як вырашыў, так і зрабіў. Пайшоў Гусачок пешкі ў Маскву. Ішоў ён праз поле і сустрэў Лісу. Тая паслухала гісторыю пра падрэзаныя крылы і надумала з'есці Гусачка ў лесе. Толькі зайшлі яны ў лес, а ім насустрач выйшаў Воўк. Паслухаў ён пра падарожжа ў Маскву і надумаў зайсці ў лясныя нетры і там з'есці Лісу і Гусачка. Прыйшлі яны ў цёмныя нетры, а там іх Мядзведзь пераняў. Паслухаў Мядзведзь пра пілігрымку ў Маскву і вырашыў крыху прайсціся з падарожнікамі, а потым іх пазадзіраць ды зжэрці. Зусім мала прайшоў Мядзведзь з Гусачком, Лісой і Ваўком, бо яны ўсе разам уваліліся ў глыбокую яміну. Колькі ні спрабавалі вылезці, а не змаглі. У халоднай яміне апанаваў вандроўнікаў голад. Вырашылі яны аднаго-каго з'есці, каб адразу ўсім не памерці. Воўк падумаў, што трэба напасці на Мядзведзя, бо ўтраіх ёсць шанец Мядзведзя забіць, а ўдваіх гэты шанец будзе зусім нікчэмны. Воўк кінуўся на Мядзведзя. Ліса дапамагла Ваўку. Лісе дапамог Гусачок. Мядзвежага мяса хапіла надоўга, але і яно скончылася, а паратунку не знайшлося. Даеўшы мядзвежае мяса, усе пакладліся спаць, але Ліса толькі выгляд зрабіла, што засынае. Яна дачакалася, калі Воўк напраўду засне, напала на яго і разарвала зубамі ваўчыны жывот так, што ўсе ванробы адразу і вываліліся. Ваўчынага мяса было шмат, але і яно скончылася. Гусачок пачаў думаць пра блізкую смерць, але тут над ямінай праляцеў Дзяцел. Ліса пачала крычаць і клікаць Дзятла. Той вярнуся, сеў на бераг яміны і спытаў, што

Ліса ад яго хоча. Ліса ўгаварыла Дзятла абдзяўбсці камель яліны так, каб тая паваліласяў яміну, тады Ліса і Гусачок змогуць па дрэве вылезці з пасткі. Дзяцел баяўся, што Ліса, калі выберацца з яміны, адразу яго задушыць і з'есць. Ліса паклялася ўсімі клятвамі, што не кране добрую птушку, а ў якасці доказаў свайго добрага стаўлення да птушак паказала Гусачка. Дзяцел тры дні і тры ночы дзёўб яліну, пакуль тая не завярнулася і сваёй вершалінаю не ўпала якраз у яміну. Ліса вылезла з ямы па дрэве, схапіла Дзятла, з'ела яго і ўцякла як далей ад страшнага месца. Гусачок няспешна вылез са смярдзючай пасткі і павольна пайшоў у Маскву, каб там памаліцца і папрасіць у Бога новыя крылы.

## ТРУС, ЛІСА І ЗАЯЦ

Трус нарадзіўся ў клетцы. Там нарадзіліся ягоныя бацькі, дзяды і прадзеды. Клетка стаяла каля хлява, побач з ёю было яшчэ некалькі клетак, у якіх таксама жылі трусы, чые бацькі, дзяды і прадзеды жылі ў гэтых жа клетках. Два разы на дзень труса кармілі. Улетку было шмат травы. Трус любіў сакавіты лубін і саладкаватую канюшыну. Узімку давалася гародніна. Трус радаваўся моркве, буракам і рэпе. Пасля вячэры з морквою Трус збіраўся ўжо заснуць, калі праз жалезную сетку пабачыў Лісу. Тая прайшла праз сад і паспрабавала адчыніць ягоную клетку. Але ў Лісы не хапіла спрыту, каб адкінуць тугую жалезную зашчапку. Яна спрабавала некалькі разоў і была ўжо блізкая

да адкідання зашчапкі, калі ў начным садзе пачуўся гупат і шолах. Ліса схавалася за хлявом. Трус пабачыў у засыпаным снегам садзе Зайца. Той падскочыў да маладой яблынькі і пачаў абгрызаць кару з тонкага камля. «Што ты, дзікун лясны, робіш? Нашто яблыню нішчыш?» — спытаўся Трус у Зайца. «Я — свабодны звер. Скачу дзе хачу. Ем што пажадаю. Ты, палонны Трус, не ведаеш смаку свабоды. Твае бацькі, дзяды і прадзеды былі палоннымі Трусамі, а твае дзецi і ўнукі гэтаксама будуць палоннымі. Я — Заяц — дзіця свабоды і гэтым ганаруся!» Ліса пачула гучны голас ганарыстага Зайца, выскачыла з-за хлява і напала на яго. Не паспеў Заяц і круглым вокам міргнуць, як быў забіты. Трус добра бачыў, як Ліса закінула Зайца на плечы і паляцела праз сад і поле ў далёкі лес.

## РАК І ВАДЗЯНІК

Рак пражыў у невялічкай рэчца Ятранцы доўгае жыццё. У дзяцінстве ён любіў пасядзець на пясчанай водмелі. У маладосці пялёхаўся ў ледзяных крынічных струменях. У старасці, на згоне гадоў, вялікі і мудры Рак вырыў глыбокую нару пад карчом. Там, у цішыні і цемры, ён сядзеў амаль бязвылазна. Шмат разоў рыбакі лавілі ў Ятранцы ракаў, але гэтага спрытнага і разумнага ўпаляваць не змаглі. Рак думаў, што ў сваёй нары ён схаваны надзейна, але рука рыбака дастала да яго і там. Пальцы абцугамі схапілі за клюшню. Рак адчайна адбіваўся другой клюшняй. Здавалася, паратунку няма, і ры-

бак вось-вось выцягне вялізнага Рака з-пад карча. Толькі так не здарылася, бо клюшня, за якую ўчапіўся рыбак, узяла ды адарвалася. Скалечаны Рак як глыбей запоўз у нару і тамака перачакаў напад рыбака на Ятранскіх ракаў. Жыць з адной клюшняю старому Раку было цяжка, таму ён наведаўся да Вадзяніка і папрасіў таго зрабіць яму новую клюшню. Вадзянік ухваліў мужнасць, баявітасць і супраціў. Потым спытаў, ці баяўся Рак рыбака. Сумленны Рак прызнаўся, што крыху пабойваецца і заўсёды пабойваўся хіжых рыбакоў. Вадзянік спахмурнеў і сказаў: «У цябе адрасце новая клюшня, але яна будзе значна меншая за былую, бо ты, Рак, — баязлівы!»

## САБАКА І ЛІСА

Сабака ўладкаваўся працаваць начным вартаўніком. Ён ахоўваў склады пры чыгуначнай станцыі. Раней Сабака быў знаным майстрам па вырабе ключоў і рэпарацыі самых розных замкоў. Узрост узяў сваё, вочы аслаблі, у руках з'явілася слабкасць. Давялося шукаць лягчэйшага хлеба. Сабака быў дварняком, таму не пагрэбаваў і самай простай працай. Дварняк і ёсць дварняк, такому сядзець у вартаўніках самае месца. Праўда, адна далёкая сваячка Сабакі з гучным мянам Стрэлка нават у космас злётала, але ўсё адно гэты цюцька лічыўся за звычайнага дварняка. Праца ў яго была спакойная, пакуль не пачала прападаць кілбаса. Мядзведзь — дырэктар складоў — аблаяў Сабаку і папярэдзіў: яшчэ раз кілбасы прападуць —

і працы ў яго не будзе. Дварняк старанна агледзеў месца злачынства і знайшоў след Лісы. Уночы ён падпільнаваў зладзейку, але моцна здзівіўся, пабачыўшы яе. Ліса была пераапранутая ў Сабаку. Вартаўнік сумеўся, але ўсё адно стрэліў і забіў зладзейку. Смерць Лісы моцна ўразіла Сабаку. Забойства так яго ўзрушыла, што дварняк звольніўся з вартаўнікоў і пайшоў працаваць білецёрам у цырк.

## ЛІСА І МЯДЗВЕДЗЬ

Ліса ўзяла шлюб з Мядзведзем. Думала, ён будзе грошы зарабляць і яе ахоўваць. Усё пайшло якраз наадварот. Ліса і па прадукты лётае, Ліса і абед гатуе, Ліса і бярлог прыбірае. Дарма кажуць, што з любым і ў бярлогу — рай. Калі той бярлог не прыбіраць, будзе там не рай, а пекла. Ліса мыла і шаравала, і чым больш яна працавала, тым больш ленаваўся Мядзведзь. Ён не проста моўчкі ленаваўся, ён пачаў на жонку-працаўніцу пакрыкваць і парыкваць. Калі тая спрабавала адбрэхвацца, Мядзведзь яе біў. Ліса раззлавалася на мужа і ўступіла ў шэрагі феміністак. У тых шэрагах яе і пад'юдзілі змагацца за свае жончыны правы і Мядзведзя-лайдака пакараць. Ліса распрацавала хітры план змагання і пакарання. Пачала з таго, што не прынесла ў дом харчы. Пайшла па прадукты, а вярнулася ні з чым. Мядзведзю сказала, што яе абрабаваў іншы Мядзведзь. Рабаўнік тры разы забіраў у Лісы харчы, пакуль яе муж раскатурхаўся і пайшоў разбірацца з нахабным бандытам. Ліса прывяла

Мядзведзя да старога калодзежа, адкінула накрыўку і сказала, што рабаўнік сядзіць у гэтай нары. Мядзведзь зазірнуў у калодзеж, пабачыў тамака ў глыбокай цемрадзі Мядзведзя і кінуўся-рынуўся на ўласны адбітак. Тым часам Ліса зачыніла калодзеж цяжкай накрыўкаю. Мядзведзь спрабаваў выбрацца з калодзежа, ды не змог. Там і сканаў. Лісу, вядома, спрабавалі абвінаваціць у забойстве мужа, але яна разам з адвакаткай настойвала на версіі з трагічным выпадкам. Маўляў, Мядзведзь сам уваліўся ў незачынены калодзеж. Суд паверыў у трагічны выпадак, бо дальнабачная Ліса, пачуўшы, што Мядзведзь аціх і сканаў, накрыўку з калодзежа зняла.

## КОТ І СВІНКА

Кот выйшаў з турмы і паехаў да маладой Свінкі. Больш за год стары Кот-крымінальнік ліставаўся з добразычлівай Свінкай. Ён абяцаў пакінуць у мінулым бандыцкае жыццё з рабаваннямі ды крадзяжамі. Кляўся, што распачне жыццё новае: з любоўю да Свінкі і сумленнай працай. Тры дні і тры ночы Кот са Свінкай прабалявалі ды пралюбошчыліся. Маладой гаспадыні надакучылі гульба ды п’янства з прыблудным крымінальнікам. Свінка папрасіла Ката пакінуць гасцінную кватэру. Той прапанаваў сысці таму, каму не падабаюцца вясёлыя гулі з музыкай, віном і танцамі. Свінка паспрабавала была абурыцца, але Кот зарэзаў яе і вярнуўся да свайго заўсёднага жыцця з гвалтам, крывёю і забойствамі.

# МЯДЗВЕДЗЬ І МЯДЗВЕДЗІЧ

Мядзведзь прыйшоў з пушчы ў горад. Схапіў першую, што трапілася пад лапу, маладую жанчыну і вярнуся ў пушчанскія нетры. Там у Мядзведзя быў глыбокі бярлог. Уваход у той бярлог закрываўся вялізным валуном. Жанчына нарадзіла ад звера Мядзведзіча і пражыла ў бярлозе ажно адзінаццаць гадоў. Мядзведзіч падрос і прапанаваў маці ўцячы з пушчы ў горад. Ён адсунуў валун, яны вылезлі з бярлога і пабеглі праз пушчу да горада. Мядзведзь пабачыў ссунуты валун, здагадаўся пра ўцёкі і кінуўся ў пагоню. Ён дагнаў уцекачоў на самым беразе пушчы. Адным ударам цяжкай лапы Мядзведзь забіў уцякачку і развярнуўся, каб другім ударам забіць Мядзведзіча, але той паспеў увагнаць свае вострыя кіпці ў бацькава горла. Мядзведзіч парваў бацькава горла, і той захлынуўся ўласнай крывёю. Пахаваўшы бацькоў у адной магіле, Мядзведзіч прыйшоў у горад. Ён думаў, што зможа спакойна жыць сярод людзей, але тыя крычалі на яго «Мядзведзь-мядзведзь-мядзведзь!!!» і ўцякалі. Тады ён схапіў каля метро першую, што трапілася пад лапу, маладую жанчыну і павалок яе ў пушчу, у самыя пушчанскія нетры, у бярлог.

# ВАЎКІ, ЗАЯЦ І ЛІСА

Два Ваўкі злавілі Зайца. Стары Воўк сказаў, што Заяц ягоны, бо кожны старэйшы мае больш правоў на здабычу. Малады Воўк запярэчыў, то ж бо ў маладога мацнейшы голад. Ваўкі заспрачаліся. Спрэчка скончылася бойкай. Драпеж-

ныя звяры схапіліся, счапіліся і пачалі рваць адзін аднаго. У маладога было больш імпэту і спрыту, а стары меў вялікі байцоўскі досвед. Перамога не давалася ні старому, ні маладому. Знядужаныя і параненыя Ваўкі павaліліся на прытаптаны снег. Сілы пакінуліператомленых байцоў. Тут і выбегла са сваёй схованкі Ліса. Яна схапіла ўпаляванага Зайца, закінула здабычу на плечы і паляцела ў лесапаласу.

## ВОЎК І ВАЎЧАНЯ

Воўк састрэў. Ваўчаня цягала яму ў логвішча харчы, але ўсе яны былі малаякасныя і нясвежыя. Стары Воўк вырашыў пайсці на паляванне і зарэзаць Барана. Ваўчаня паспрабавала адгаварыць Ваўка, але хто гэта спыніць галоднага звера. Паўночы Воўк і Ваўчаня беглі праз палі і лясы, пакуль не выбеглі на стромкі бераг Дзвіны. На самай строме стаялі дзве загарадкі са статкамі Авечак і Бараноў. У маленькай загарадцы з нізкім плотам было некалькі хворых Авечак. Пастухі знарок трымалі хворых за нізкім плотам, каб галодным Ваўкам была лёгкая спажыва. Толькі стары Воўк не стаў рэзаць хворых Авечак, ён пачаў рыць падкоп пад высокі плот, за якім хаваўся вялікі статак здаровых жывёл. Пад раніцу Воўк улез у вялікую загардку, дзе выбраў і зарэзаў самага тлустага Барана. Воўк толькі-толькі пачаў быў жэрці бараніну, як неба пасвятлела. Ваўчаня паспрабавала падбіць старога Ваўка на ўцёкі, бо неўзабаве да загарадак з Авечкамі прыскача Пастух. Стары Воўк не змог адарвацца ад свежай крыві, не змог уцячы,

як гэта зрабіла Ваўчаня. Ён нават не пачуў, як на чорным Кані да загарадак пад'ехаў Пастух. Звер глынаў баранова сэрца, калі куля, пушчаная са стрэльбы Пастуха, прабіла сівы воўчы лоб.

## ЛІСА І БАБА

Было ў бабы дзве Куркі і адзін Певень. Узімку прыйшла Ліса і скрала Курку. Баба запераЖывала. Пайшла яна ў краму і набыла там жалезную пастку. Паставіла Баба пастку і ўпалявала Лісу. Жалезныя паўабручы былі сашчэплены на рыжым хвасце. Баба хацела паклікаць Суседа-Слесара, каб забіў драпежніцу. А тая раптам і скажа: «Баба, што ты творыш? Думаш, я Ліса? Я — праўдівы Сабака!» Баба паверыла, пашкадавала пабітага жалезам звярка і адпусціла. Праз тыдзень Ліса скрала і другую Курку. Баба зноў паставіла пастку і гэтым разам упалявала рыжага Сабаку. Той спрабаваў сказаць бабе, што ён самы сапраўдны Сабака. Гэтым разам Баба не дала зверу веры і забіла яго пазычанай у Суседа-Слесара кувалдай. Калі яна паказала суседу забітага звера, той адно пасмяяўся і сказаў, што Лісу баба так і не ўпалявала. Пакуль Баба з Суседам-Слесарам абмярноўвала забітага кувалдай Сабаку, Ліса скрала Пеўня.

## ЛІСА І КАНТРАБАНДЫСТ

Ліса ўсіх і паўсюль падманвала. Яна мела глыбокае перакананне, што ўсе звяры — хітруны і манюкі, а яна проста ілжэ і хлусіць

лепей за астатніх. Ліса махлявала, ашуквала, займалася жульніцтвам ды круцельствам, рабіла падвохі ды падлогі, крывадушнічала і авантурнічала. Ліса так абрыдла ўсім звярам у лесе, што яны сабраліся на сход, дзе вырашылі іржавапысую шэльму забіць. Хітраванка прачула пра смяротны прысуд і кінулася ўцякаць. Ліса лётала па лесе, але схованкі не знайшла, бо птушкі і звяры, паўзуны і нават жамяра з матылямі палявалі на ілжывую гадаўку, якая нават свайго Ліса і сваё Лісянятка падманвала ды абдурвала. Не знайшоўшы схованкі ў родным лесе, Ліса выскачыла з яго і пабегла па дарозе. Пагоня з вялікіх і малых звяроў была ўжо зусім блізка да ўцякачкі, калі яна пабачыла на ўзбочыне дарогі фургон Кантрабандыста. «Даражэнькі, схавай мяне! Калі ты мяне ўратуеш ад паганай пагоні, я ў Чорны дзень табе дапамагу! На табе залатую шарсцінку з майго хваста. Калі надыдзе Чорны дзень, разарві шарсцінку напалам, я з'яўлюся і выратую цябе». Кантрабандыст не паверыў у абяцанку хітрадушнага звярка, але яму спадабалася залатая шарсцінка, і Ліса знайшла схованку ў фуры, поўнай бляшанак згушчанага малака. Звяры папыталіся ў Кантрабандыста, ці бачыў ён Лісу-ўцякачку. Той сказаў, што бачыў і яна пабегла праз жытнёвае поле. Пагоня рушыла на жытнёвае поле, а Ліса выскачыла з фургона і схавалася на полі, засаджаным кукурузай. Кантрабандыст сеў за стырно і накіраваў фургон у бок мяжы Беларусі з Літвою. У той самы дзень Канрабандыст быў арыштаваны за падлог дакументаў і спробу даць хабар мытнікам. Пасярод ночы ў турэмнай камеры ён

парваў напалам залатую шарсцінку. Вялікіх спадзеваў на з'яўленне і дапамогу Лісы ў Кантрабандыста не было, але тая з'явілася, адчыніла камеру скрадзенымі ў ахоўніка ключамі і выпусціла Кантрабандыста на волю. У прыпамежным мястэчку Ліса дапамагла Кантрабандысту скрасці легкавік. За мястэчкам Ліса хацела ўжо развітацца з Кантрабандыстам, але той вырашыў, што кепска будзе вярнуцца да жонкі без падарунка. Кантрабандыст забіў Лісу, каб зрабіць жонцы гаржэтку.

## ШЭРАЯ КОТКА І ТЫСЯЧА

У маладога мужчыны раптоўна памерла маці. Ніхто не чакаў смерці, таму пагаварыць пра спадчыну не здагадаліся. Якая там спадчына, і ўсё ж... Праз сорак дзён пасля матчынага сыходу ў кватэры маладога мужчыны з'явіўся Шэры шар. Ён праляжаў пасярод пакоя на кіліме цэлую ноч, а пад раніцу прапаў. У наступную ноч Шэры шар зноў з'явіўся ў пакоі маладога мужчыны. Ад Шэрага шара сыходзіла ледзь чутнае цяпло. Знаёмая варажбітка, якую паклікаў мужчына, сказала, што гэта маці-нябожчыца вяртаецца ў наш свет у выглядзе Шэрага шара, каб нешта важнае нам сказаць. Толькі сілы ў маці-нябожчыцы мала, хапае адно на ўвасабленне ў цёплы Шэры шар. Трэба пачакаць, пакуль маці знойдзе новую форму для свайго ўвасаблення і вяртання. Яшчэ некалькі начэй Шэры шар праляжаў на кіліме, а потым перастаў з'яўляцца ў кватэры мужчыны, што пахаваў маці. Гісторыя з цёплым Шэрым шарам паціху-

патроху забылася, бо пасля яе прамінуў ажно цэлы год. Мужчына прыйшоў на могілкі, каб прыбраць матчыну магілу. Там да яго і падбегла Шэрая котка. Яна пацерлася бокам аб мужчынскую лытку і ціха загаварыла чалавечым голасам: «Сынок, я схавала грошы ў слоіку з грэчкай. Грошы не вялікія, але хай табе будзе хоць нейкі падаруначак ад мяне...» Сказаўшы пра спадчыну, Шэрая котка распусцілася ў паветры. Больш той мужчына ніколі не бачыў ні цёплай Шэрай коткі, ні Шэрага шара на сваім кіліме. А ў трохлітровым слоіку з грэчкай сапраўды была згорнутая ў трубачку і запакаваная ў тонкі цэлафан тысяча даляраў.

## МУХА І ЧЫРВОНЫ БОРШЧ

Зялёная Муха сказала Шэраму Камару, што не любіць чырвонага баршчу. Камар папытаў, ці каштавала Муха той самы боршч. Муха прызналася, што боршч ніколі ў жыцці і не каштавала. Камар прапанаваў ёй пакаштаваць страву, а потым выказваць да яе сваю нянавісць. Муха палящела ў кватэру, дзе гаспадыня даварвала боршч у вялікім рондалі. Муха падляцела да рондаля, і ад салодкай духмянасці наварыстага баршча ў яе закруцілася галава. У Зялёнай Мухі так закруцілася галава ад водару чырвонага баршча, што яна страціла прытомнасць. Непрытомная Муха звалілася ў рондаль і зварылася ў кіпені. Гаспадыня лыжкай вылавіла вараную Муху, аблаяла і выкінула ў вядро са смеццем. Там, на сподзе смярдзючага вядра, Зялёную Муху і аплакаў Шэры Камар.

# БЛАКІТНІЦА І БЫК

Гаспадар застаўся ў хаце адзін. Дзеці ягоныя даўно раз'ехаліся ў розныя гарады, а гаспадыня выправілася ў лепшы свет. Самотны Гаспадар распрадаў курэй і пеўнікаў, парэзаў бараноў і авечак, пакалоў свіней. Нават любімую карову Звязду здаў на скатабойню. У хаце і вакол яе запанавала густая ціша. Каб не жыць у гнятлівай глухаце, Гаспадар зрабіў кармушку для пташак і павесіў у сваім яблыневым садзе. Паесці семак збіраліся сініцы, вераб'і ды яшчэ самыя розныя пташкі, назваў якіх гаспадар і не ведаў. Найлюбімай пташкаю, што наведвалася пад яблыні, Гаспадар лічыў Блакітніцу. З ёю і размаўляў пра дзяцей, што жывуць у далёкіх гарадах, і пра жонку, якая чакае яго ў лепшым свеце. Чалавеку здавалася, што птушка разумее яго і спачувае яму. Аднойчы раніцаю Гаспадар выйшаў у сад са жменяю семак для крылатых сябровак і пабачыў, што Блакітніца вырасла. Яна стала вялізнай, як гаспадарова хата. Чалавек знямеў ад здзіўлення, а тым часам пташка акуратна ўзяла яго ў лапу, сціснула кіпцюры і ўзнялася ў неба. Блакітніца ўзляцела высока-высока, вышэй за хмурыны, а потым апусцілася праз хмурыны на поле, дзе стаяў пад зялёным дубам чырвоны Бык. Блакітніца апусцілася на голаў Быка, паклала чалавека на бычыны лоб паміж чорных рагоў і паляцела ў неба. Стомлены пералётам Гаспадар адпачыў на бычыным лобе, а потым злез з Быка і ўзняўся на дуб, каб агледзець мясціны, куды яго, небараку, закінуў лёс. Вакол поля, на якім рос дуб, стаяў густы сіні яловы лес. З таго лесу і выйшла

вялікая жанчына. Калі жанчына падышла да Быка, Гаспадар пазнаў у ёй сваю жонку-нябожчыцу. Жонка была вялікая, такая вялікая, што чырвоны Бык быў для яе памерам з кураня. З вяршаліны дуба Гаспадар бачыў, як жонка спякла на вогнішчы, а потым з'ела цэлага Быка. Пад'еўшы, яна вярнулася ў сіні лес. Неўзабаве з-за хмурыны на вяршаліну дуба апусцілася Блакітніца. Яна забрала адтуль чалавека і занесла яго ў сад, дзе пакінула каля кармушкі з чорнымі семкамі для пташак.

## ЛІСА Ў СНЕ

У сне бачыў вялікую дымна-шэрую лісу. Яна жыла ў маім пакоі. Было падобна, што я адпачываў недзе ў лясным гатэлі, які стаяў на ўзгорку, пароcлым высокімі соснамі. Пакой мясціўся на апошнім, трэцім паверсе. Ліса выскачыла на гаўбец, а з гаўбца скокнула ўніз і пабегла ў лес. Я хацеў быў гукнуць лісу, каб спынілася, каб азірнулася, каб вярнулася... Толькі імя ў маёй лісы не было.

## ЧОРНАЯ РЫБІНА

Рэчыцкаму рыбаку надакучыла лавіць дробную рыбу. Хвасты, луска, галовы — няма чаго есці. Рыбак надумаў выправіць стары парадак. З доўгага дубовага, паднятага з дняпроўскага дна бервяна ён выразаў вялікагаловую лупавокую вусатую рыбіну. Назваў яе Сам. Свайго Сама рыбак паклаў на стромкім беразе і пай-

шоў на святы курган. З кургана ён маліў бога Вялеса, каб той зрабіў ласку — напоўніў сокамі жыцця дубовае бервяно. Вялес пачуў малітву і даў новае жыццё старому бервяну. Сам скочыў са стромы ў Дняпро. Пырскі ўзняліся ажно да аблокаў. Так у нашых рэчках і з'явілася вялікая рыба. Цяпер спраўны рыбак мог адной рыбінай накарміць цэлую вёску. Ды не бывае радасці без гора. Сам пачаў паляваць на птушак і жывёл. Мог качку з'есці, мог ягня пад корч зацягнуць, а мог і дзіця ўтапіць ды праглынуць. Тутэйшыя людзі дамовіліся не прамаўляць імя Сама, каб не наклікаць бяды. Замест Сама вырашылі казаць Сом. З таго часу ў беларускіх рэчках і жывуць самы. Дарэчы, людзі кажуць, што Чорная рыбіна — першы Сам — зацягнуў свайго стваральніка, рэчыцкага рыбака, у незваротны дняпроўскі вір.

## ВЕРАБЕЙ З КРУТАГОР'Я

Рыжага Яраслава Вераб'я не любілі дзяўчаты. Мо за рост малы, мо за рабаціністасць, а можа, і за крываватыя ногі. Не хацелі крутагорскія дзеўкі займець дзіця, падобнае да Вераб'я. Зразумець можна. Разумелі ўсе, акрамя самога Ярыка. Пацiху ўсе раўналеткі Вераб'я пераженіліся, а ён сядзеў бабылём. Ад самоты нарадзілася ідэя — зрабіцца папулярным музыкантам. Яр набыў гітару і панапісваў песень на цэлы канцэрт. Дамовіўся з дырэктаркай клуба, што ў суботні вечар ён выступіць на сцэне. Верабей парасклейваў афішы па ўсім мястэчку, даў абвестку ў фэйсбуку і жывым часопісе, най-

бліжэйшым знаёмым разаслаў эсэмэскі і патэлефанаваў. У суботу ў клубе назбіралася поўная зала. Рыжы Яраслаў у белым касцюмчыку выйшаў з залатой гітараю на сцэну і пачаў спяваць. Першую песню, што называлася «Не плач, мама!», Яр даспяваў да канца. Другую, «Зорка над Крутагор’ем», даспяваць не далі. Зала пачала смяяцца, рагатаць, свістаць і шпурляць на сцэну яблычныя агрызкі. Адзін такі агрызак шпурнуў Ваця Крук. Агрызак, пушчаны Крукам, трапіў у лоб Яраслава, і той на вачах у публікі ператварыўся ў маленечкага рудаватага верабейку. Крутагорцы думалі, што верабейка пачне ўцякаць, але ён зрабіў зусім іншае. Верабей паляцеў да Крука і дзеўбануў яму ў вока. Крук раззлаваўся і хацеў рэзнуць па вераб’ю кулаком, бо той быў зусім побач, на галаве ў Круковай жонкі. Тая атрымала ўдар. Верабей пералятаў з аднаго крутагорца на другога. Людзі спрабавалі яго лавіць і біць, а праз гэта білі адно аднаго. Замест канцэрта атрымалася вялізная бойка, дзе ўсе пабілі ўсіх. Куды падзеўся верабей? Ніхто не заўважыў. Прапаў зусім і назаўжды. Гітару і канцэртны касцюм забрала сабе дырэктарка клуба, у якасці кампенсацыі за ўтвораную Яраславам Вераб’ём шкоду.

## ЗАЛАТЫЯ ЯБЛЫКІ І МУХІ

Стары Авяр’ян Карпук вакол дома пасадзіў сад. Праз некалькі гадоў яблынькі добра ўрадзілі. Карпук з раніцы да вечара любаваўся і не мог нацешыцца залатымі яблыкамі на маладых

яблынях. Ва ўсім Крутагор'і не было лепшых яблыкаў за Авяр'янавы. Местачкоўцы казалі, што Карпук — вядзьмак і яму сам чорт даглядае сад. Пра чорта местачкоўцы перабольшвалі, а пра гудзенне ў доме Карпука гаварылі праўду. Удзень цяжка было пачуць, што дом Авяр'яна несупынна гудзіць. Уночы тое гудзенне чулася добра. Дзверы і вокны Карпук заўсёды трымаў зачыненымі. Да сябе нікога не вадзіў і не пускаў. Таму пра тое гудзенне ніхто нічога больш пэўнага сказаць не мог. Пра яблыкі гаварылі шмат. Яшчэ больш пайшло размоў, калі ў адну ноч нехта ўсе яблыкі скраў. Стары Карпук ажно заплакаў, калі пабачыў абрабаваны сад. Ён доўга хадзіў ад дзвярэй да дзвярэй і прасіў людзей вярнуць залатыя яблыкі. Крутагорцы спачувалі Авяр'яну, але дапамагаць не дапамагалі. Ад гора Карпук і памёр. Прыйшоў пад бальніцу, сеў у альтанцы і так седзячы памёр. Толькі гісторыя на гэтай смерці не скончылася. Калі міліцаі адчынілі дзверы ў Карпукоў дом, адтуль вырвалася чорная хмара мух. Такіх злых і кусачых мух раней у Крутагор'і не было. Цяпер, калі каго з крутагорцаў кусае восеньская муха, ён ведае, што гэта прывітанне ад Карпука, якому людзі не дапамаглі вярнуць залатыя яблыкі.

## СІНІ БАРАН

Браты Аблажэі — Хведар і Ладзімір — выбраліся на паляванне. Ідучы каля возера Свіцязь, яны пабачылі Сіняга барана. Дзеля забаўкі Аблажэі застрэлілі барана і ўкінулі яго ў возера. Гадоў

дзесяць-адзінаццаць прамінула з таго здарэння. Хведар і Ладзімір даўно забыліся пра Сіняга барана. Аднойчы ўвесну браты знайшлі на беразе Свіцязі сіні чоўн. Ён так спадабаўся Аблажэям, што яны вырашылі праплыць на ім па возеры. Хведар з Ладзімірам хутка заплылі на сярэдзіну Свіцязі, а там іх човен ператварыўся ў Сіняга барана, і ўсе разам яны пайшлі на азёрнае дно.

## СІНІ ГРУГАН

Груган той, як і ўсе ягоныя суродзічы, меў чорныя пёры. Толькі пёры былі такімі чорнымі, што побач з залатой дзюбаю здаваліся сінімі. Нават здалёк птах выглядаў Сінім груганом. Гняздо ён зрабіў на таполі, што расла паміж тралейбусным дэпо і домам на вуліцы Чырвонай, акурат па-над пляцоўкай для выгульвання сабак. На суседніх таполях цямнела яшчэ некалькі груганових гнёздаў, але не пашанцавала менавіта таполі з гняздом Сіняга гругана. Таполя тая кідала цень на вокны ў доме. За адным з тых вокнаў жыла дурнаватая цётка Алеся. Ёй не падабаўся цень, не падабалася срэбналістая таполя, і яе раздражняў залатадзюбы груган. Цётка загадала мужу Язэпу ўзяць сякеру і трохі падсячы таполю з гняздом Сіняга гругана. Алеся разлічвала на тое, што, калі яна некалькі разоў палье пашчапанае дрэва ацэтонам, яно засохне і яго прыбяруць. Юзік ужо замахнуўся сякераю на тапаліны камель, калі пачуў чалавечыя словы ад Сіняга гругана: «Не сячы таполю з маім гняздом! Я тройчы зраблю ўсё, што ты

папросіш...» Юзік не разгубіўся і папрасіў у птаха еўрарамонт для сваёй кватэркі. Асобна Юзік замовіў лямпы і лямпачкі, якія павінны былі напаўняць кватэрку яркім і цёплым святлом. Груган выканаў патрабаванні злога чалавека з вострай сякераю. Чалавек не супакоіўся, ён параіўся з жонкай і папрасіў у гругана грошы, каб аплочваць рахункі за электрычнасць ды ўсялякія іншыя свае рахункі. Груган усталяваў у свежаадрамантаванай кватэры сталёвы сейф, поўны цвёрдай валюты. Прага да дабротаў з капіталамі перарасла ў цёткі Алесі да прагі ўлады, і Юзік папрасіў Сіняга гругана, каб той неадкладна зрабіў ягоную жонку праўдзівым Прэзідэнтам з вялікай літары. Груган махнуў крыламі, і злы Юзік з дурнаватай Алесяю ператварыліся ў звычайных шэрых сабак-дварнякоў.

## КАРОВА, КОНЬ І КАБАН

Чалавек папрасіў у Бога, каб дазволіў зразумець мову жывёл. Бог папярэдзіў Чалавека: «Ты моцна пашкадуеш, калі зразумееш мову жывёл». Чалавек паверыў Богу, але ўсё адно прасіў дазвол на разуменне мовы жывёл. Бог сказаў: «Добра... Ідзі і слухай! Сягоння ўночы ты яе зразумееш». Прыйшоў Чалавек у хлеў, узлез па драбіне на гарышча, лёг на сена, стаіўся, нібыта заснуў, а сам слухае... Уздыхнула Карова. Конь у яе пытаецца: «Чаго ты так цяжка ўздыхаеш, Карова?» — «Цябе шкадую!» — адказвае яна. «Чаго ж гэта ты мяне шкадуеш?» — зноў пытаецца Конь. «Заўтра будзе ў цябе сумная і цяжкая пра-

ца», — адказвае Карова. «Твая праўда. Заўтра мяне чакае цяжкая і сумная праца», — пагадзіўся Конь... Зноў уздыхнула Карова. Прачнуўся Кабан і пытаецца: «Чаго ты так цяжка ўздыхаеш, Карова?» — «Каня шкадую». — «Чаго ты Каня шкадуеш?» — «Праца ў яго заўтра будзе сумная і цяжкая». — «Што за праца?» — «Гаспадара нашага на могілкі павязе, бо памрэ ён сягоння ўночы...» — «Так, твая праўда», — пагадзіўся Кабан. Спалохаўся Чалавек. Пачаў ён спехам з гарышча злазіць. Драбіна завярнулася. Упаў Чалавек і забіўся.

P. S.

Казку пачуў ад сваёй маці — Ніны Глобус. Запіс зрабіў 02.04.1983. Калі запісваў, з'явіліся невялікія змены, накшталт замены слова «жалееш» на слова «шкадуеш». Я чуў у маленстве гэтую казку, толькі там спачатку карова паведаміла сьвінні, што заўтра яе заколюць і пададуць да стала.

## ШЭРАЯ КАЧКА

У спадара Яна памерла жонка — Алеся. Муж спаліў жонку ў крэматорыі, што побач з Паўночнымі могілкамі. Урну з попелам ён завёз на Кальварыю, дзе і замураваў у сцяну. Ян моцна любіў Алесю, таму пакутваў і чакаў, што яна хоць бы ў снах будзе да яго вяртацца. Алеся не з'яўлялася да мужа нават у снах. Змучаны муж звярнуўся па дапамогу да ведзьмака Уладыслава, вядомага ў Мінску тым, што мае сувязі ў свеце мёртвых. Уладыслаў параіў Яну разбіць

урну, узяць шчопці попелу, насыпаць у чарку, заліць гарэлкай і выпіць. Такім чынам Алесь сам стане напаўмёртвым і зможа сустрэцца з нябожчыцай. Муж разбіў урну з жончыным прахам і выканаў канібалістычную параду вядзьмака Уладыслава. Не паспеў ён заесці гарэлку чорным хлебам, як да яго з'явіўся прывід любай жанчыны. Алеся павяла каханага ў царства нябожчыкаў, што месціцца за Пінскам, у гнілых палескіх балотах. Нябожчыкі сустрэлі Яна прыветна і зладзілі банкет у ягоны гонар. Пілося шмат віна і гарэлкі, елася многа мяса і хлеба, гародніны і садавіны. Музыкі білі ў бубен і гралі на гармоніку так, што ўсе прысутныя танчылі да знямогі, нават тыя, хто памёр старым ды нямоглым, танчылі нароўні з маладымі. Алесь моцна стаміўся ад банкетавання і несупынных танцаў, ён так змучыўся, што папрасіў жонку завесці яго дамоў, да жывых, у Мінск. Алеся абярнулася ў Шэрую качку. Птушка пасадзіла мужа на спіну і маланкай заляцела ў сталіцу. Шэрая качка апусцілася каля рэчкі, побач з мостам, што ў парку за цыркам. Ян падзякаваў жонцы, яны развіталіся, і Алеся вярнулася ў царства нябожчыкаў. Спадар Ян доўга хварэў пасля падарожжа на спіне ў Шэрай качкі, але потым ачуняў і ажаніўся наноў.

## ЗЯЛЁНЫ ЦМОК

Налібоцкі Зялёны цмок жыў у лясах паміж Івянцом і Пяршаямі. Жыў і гора не ведаў. Жыццё хай сабе ціхае, але не сумнае было ў Зя-

лёнага цмока. Дзяўчат і маладзіц хадзіла па пушчы многа. Яны і па ягады, яны і па грыбы, яны і па кастрыцу... Цмок не губляўся, абарочваўся ў прыгожага фацэта і спакушаў самых прывабных. Так было, пакуль прывабныя з вёсак не паперабіраліся ў мястэчкі, а з мястэчак не папераехалі ў гарады і сталіцу. Зялёны цмок падумаў і змяніў жыццё ў запаветнай пушчы на бытнаванне ў Мінску, з ягонымі метро ды гіпермаркетамі. Вядома, цмоку давялося няздымна насіць аблічча фацэта. У тым прывабным абліччы ён пазнаёміўся з дачкой сталічнага багацея, уладальніка авіякампаніі. На той дзеўцы з багатай сям'і Зялёны цмок ажаніўся і зажыў у пяціпакаёвай кватэры над кінатэатрам «Цэнтральны». На вяселле цесць падарыў цмоку не толькі пяціпакаёвую кватэру, а і новы «мерседэс» з правамі. Каб зяць мог вазіць сваю абранніцу туды, куды яна пажадае. Цмок і вазіў маладую жонку ў гіпермаркет «Замак». Вазіў штодня, ажно пакуль не наляцеў на сталіцу снежны буран пад назовам Хаўер. Завіруха была такая, што цмокаў «мерседэс» засыпала і замяло снегам па самы дах. Раніцай пасля бурану маладой жонцы закарцела згойсаць у «Замак» па прысмакі. Яна папрасіла свайго прыгажуна адкапаць з-пад снегу і завесці «мерседэс». Цмок сапёрнай рыдлёвачкай, іншай у кватэры не знайшлося, пачаў адкопваць машыну. Капаў, стаміўся, упрэў і сам таго не заўважыў, як вярнуўся ў аблічча Зялёнага цмока і вялізнымі зялёнымі лапамі ды доўгім хвастом ды ў адно імгненне адкапаў «мерседэс». Толькі скончыўшы працу, цмок пабачыў анямелую і пераляканую жонку, што

разам з суседзямі пазірала на цмока. Ад сполаху людзі здранцвелі, не маглі нават пальцам варухнуць. Зялёны цмок зазлаваў на самога сябе, але злосць сваю сарваў, як зазвычай і зрываюць злосць, на іншых. Ён перадушыў і пазабіваў усіх, хто пабачыў яго ў натуральным абліччы Зялёнага цмока. Зрабіўшы непраўнае зло, цмок у выглядзе фацэта даехаў на «мерседэсе» да Івянца, адтуль у абліччы цмока паляцеў у сваё гняздо, што ў нетрах Налібоцкай пушчы. Там цяпер і сядзіць, там і хаваецца, як некалі крыважэрны Пол Пот у тайландскіх джунглях.

## ШЭРЫ ЗАБОЙЦА І КАЧКА

Надвячоркам Шэры забойца выправіўся на працу. Ён быў вялікім майстрам смерці, таму лёгка знайшоў ахвяру — маладзіцу, якая хадзіла ў краму «Суседзі» па ёгурт. Забіў яе адным ударам жалезнага прэнта па галаве. Забраў валізу з ёгуртам, партманетку з грашыма і залатыя завушніцы з дробнымі дыяментамі. Шэры забойца закінуў абрабаваны труп у кантэйнер са смеццем і вярнуўся дахаты. Раніцай хлопчык па дарозе ў школу завярнуў на сметнік і адкрыў кантэйнер, каб выкінуць туды пакет са старымі апранахамі, з якіх ён вырас. З-пад ануч наўпрост на школьніка вылецела дзікая качка. Яна паляцела на рэчку, каб там далучыцца да іншых качак і пачаць сваё другое жыццё.

# ЗЯЛЁНЫ ШЧУПАК

Праз вёску Рудню цякла нешырокая, як пераскочыць, рэчка Рудзіца. Каб не скакаць, а хадзіць, над вадой вяскоўцы паклалі бервяно. Некалькі разоў малыя дзеці саслізгвалі з бервяна і падалі ў крынічную ваду. Застуджваліся, хварэлі, а здаралася і пamіралі. Адзін з вяскоўцаў здагадаўся намаляваць вапнай на бервяне два круглыя вокі і шэрагі тонкіх ды вострых зубоў, каб дзятва думала на бервяно — цмок. Без дарослага вяскоўца дзеці больш не пераходзілі Рудзіцу па бервяне, так страшна яно выглядала. Таго пароcлага зялёным мохам лупавокага бервяна спужаўся вандроўнік, што праходзіў праз Рудню. Ён перапалохаўся і ўдарыў бервяно нагою так, што яно звалілася ў рэчку, а там ператварылася ў рыбіну — Зялёнага шчупака. Той велізарны шчупак плаваў па розных рэчках ды азёрах і быў страшэнна злы на ўсіх людзей, а таму хапаў іх зубастай пашчай і зацягваў пад глыбокую ваду. Зялёны шчупак быў самым першым шчупаком у тутэйшых мясцінах, таму людзі думалі, што, злавіўшы і забіўшы драпежную рыбіну, яны пазбавяцца хоць бы аднаго гора. Зялёнага шчупака злавілі ў возеры сеткаю, забілі абухом, пасеклі на кавалкі, з якіх наварылі юшкі, і з’елі. Слаўная была ў рыбакоў вячэра! Толькі шчупаковая гісторыя на гэтым не скончылася, бо Зялёны шчупак пакінуў пасля сябе процьму ікрынак, з якіх у хуткім часе панавырасталі новыя шчупачкі. Праўда, яны значна саступаюць Зялёнаму шчупаку і ў памерах, і ў розуме, і ў жорсткасці, але ўсё адно выклікаюць у беларусаў жаданне іх лавіць, варыць і есці.

# ШЭРАЯ КОТКА

У майго суседа ёсць таварыш, які жыве на плошчы Перамогі ў доме з хлебнай крамаю «Каравай». Той таварыш і расказаў нам пра дзіўнае здарэнне, што адбылося з ягоным знаёмым — Радзімам Кавалеўскім. Радзім працаваў галоўным спецыялістам на маргарынавым заводзе. Не краў. Жыў сціпла, замкнёна і баязліва. Ад дзеда з бабай яму засталася ў спадчыну аднапакаёўка над «Караваем». Пад дзвярыма той кватэры Кавалеўскі і знайшоў Шэрую котку, якая спала на ходнічку. Калі Радзім адчыніў дзверы, котка зайшла ў кватэру разам з гаспадаром. Кавалеўскі вырашыў пакарміць котку. Накроіў каўбасы, наліў малака ў сподачак, расчуліўся і пакінуў Шэрую котку жыць у кватэры. Наступным вечарам спецыяліст па маргарыне Кавалеўскі вярнуўся з завода і моцна здзівіўся, бо кватэра ягоная блішчэла і ззяла пасля грунтоўнай прыборкі. Радзім уключыў камп'ютар, паставіў відэакамеру на запіс і сышоў у парк. Праз гадзіну ён вярнуўся і прагледзеў відэазапіс, на якім было добра відаць, як Шэрая котка ператвараецца ў жанчыну, а потым тая жанчына, пачуўшы ключ у дзвярным замку, перакідваецца ў котку. Кавалеўскі пераадолеў прыродную баязлівасць і папрасіў Шэрую котку стаць жанчынай. Яна паслухалася. У абліччы жанчыны котка прыгатавала вячэру і накарміла Радзіма. Уночы яны злюбіліся. Радзім Кавалеўскі і Шэрая котка пачалі жыць, як муж з жонкай. Пра гэтую гісторыю ніхто і не даведаўся б, каб Кавалеўскі і жанчына-котка не з'ехалі ў Канаду. Перад ад'ездам яны прадалі

кватэру таварышу майго суседа, які на свае вочы бачыў відэазапіс з ператварэннем жанчыны ў Шэрую котку.

## СЫН ЗМЯІ

Змяя Гадзюка закахалася ў грыб Баравік. Ад Баравіка ў яе нарадзіўся хлопчык — Гадзюк. Змяя прыхавала хлопчыка пад папараццю і папаўзла па малако. Пакуль Гадзюка поўзала да Каровы па свежае малако, у лес прыйшлі мястачковыя дзяўчаты збіраць грыбы. Яны знайшлі пад папараццю зусім маленечкага хлопчыка і забралі з сабою ў наша Крутагор'е. Усё мястэчка сабралася паглядзець на дзіва, знойдзенае ў папараці. Бяздзетны рэстаратар Ян Бохан за вялікія грошы выкупіў у дзяўчатак маленькага Гадзюка. Тым часам маці-змяя азлілася на людзей, якія пазразалі ў яе лесе ўсе Баравікі і скралі яе любімага сыночка. Гадзюка пачала нападаць, кусаць і труціць усіх дзяцей, мужчын і жанчын, якія заходзілі ў лес. Людзі раззлаваліся на куслівую Гадзюку і дубовымі кіямі забілі яе. Праз нейкі час сын змяі з маленькага хлопчыка вырас у высокага юнака, якога мястэчка любіла за чароўную прыгажосць. Калі Гадзюк стаў дарослы, у яго моцна закахалася маладая жонка старога рэстаратара Яна Бохана. Сын змяі пачаў таемна спаць з жонкай Бохана, калі той на некалькі дзён адлучаўся ў Мінск. Злыя языкі расказалі старому Яну пра здраду ягонай жонкі. Крутагорцы думалі, што рэстаратар пакарае юрлівую жонку, а ён узяў ды атруціў Гадзюка. На пахаванне сына змяі сабралася ўсё Крутагор'е.

Над магілаю Гадзюка местачкоўцы праклялі Яна Бохана і ягоную жонку. Ці праклён падзейнічаў, ці рэстарацыя атрутніка больш не вабіла крутагорцаў, ці праз усё гэта разам узятае, стары Бохан разам з маладой жонкай з'ехаў з мястэчка.

## КОТ І ГОД ЖЫЦЦЯ

У сівой Люды жыў стары кот. Ён жыў так доўга, што ніхто і не помніў, калі ён у Люды з'явіўся. Здавалася, што ён жыў у яе заўжды. Аднойчы Люда наліла ў сподачак малака для свайго любімага Ката, але ён не прыйшоў снедаць. Кот памёр. Люда загаравала і папрасіла Бога, каб год яе ўласнага жыцця Бог перадаў Кату. Адбылося дзіва — Кот прахапіўся ад смерці, нібыта ад сну, паснедаў тлустым малаком і праз акно выскачыў на двор. У двары Кот цэлы дзень і цэлую ноч прагуляў з коткамі, а потым пайшоў не да Люды, а да яе суседзяў, бо суседка Вольга адрэзала Кату вялікі кавалак ліvернай каўбасы. Кот так мяўкаў і муркаў каля сытых лытак маладой Вольгі, што старую Люду ахапіла рэўнасць. Яна зазлавала і папрасіла Бога, каб забраў у Ката год яе жыцця. Кот памёр другі раз, і гэтым разам памёр назаўжды.

## МЯДЗВЕЖАЯ ЛАПА

Цяжарная жанчына пакаштавала мядзведзіны і праз тры месяцы нарадзіла хлопчыка. У яго замест левай рукі была сапраўдная Мядз-

вежая лапа. Хлопчык старанна хаваў сваю адметнасць ад чужога вока. Ён насіў апранахі з доўгімі рукавамі і на лапу нацягваў скураную пальчатку. Нават сябры не ведалі пра мядзвежы сакрэт, думалі, што хлопчык — проста калека. Аднаго разу хлопец з Мядзвежай лапаю ішоў позна ўвечары праз сквер Янкі Купалы. Разам з сябруком ён вяртаўся з рок-канцэрта, што праходзіў у Доме ветэранаў. Да хлопцаў падсунуліся бандзюкі і загадалі аддаць грошы, гадзіннікі і тэлефоны. У адно імгненне Мядзвежая лапа папабіла, папарвала і параздзірала рабаўнікоў. Яны нават скеміць не паспелі, што адбываецца. Сябрук не паверыў у расповед хлопца з лапаю пра цяжарнасць і мядзведзіну. Ён вырашыў зрабіць сабе на руку пратэз, падобны да лапы мядзведзя. Вырашыў і зрабіў. Месяцы з тры сышло на рабленне пратэза, а таму вельмі хацелася паспытаць новую зброю ў дзеянні. Хлопец з пратэзам доўга гуляў па начным Мінску, пакуль не знайшоў п'яных хуліганаў. Ён сам напаў на іх, але атрымаў моцны ўдар нажом у жывот, ад якога праз тры гадзіны і памёр. Уладальнік праўдзівай Мядзвежай лапы на пахаванне сябрука не пайшоў, бо сваю адметнасць не варта лішні раз выносіць на чужыя вочы.

## РУДЫ САБАЧКА

Усе называлі яго Кітаец. Чаму? Здарэнне было. У маладосці ён працаваў на будоўлях. Яму даручылі паехаць у Пусткі. Ёсць такое забытае Богам месца пад Шклоўскам. Некалі

ў тых Пустках стаяў манастыр, пазней яго прыстасавалі пад школу-інтэрнат для сляпых дзяцей, а потым і зусім кінулі. Будаўнічы трэст вырашыў зрабіць там дом адпачынку. Маладога спецыяліста паслалі, каб зрабіў агляд і абмеры. Ён паехаў на тыдзень, а пражыў у тых Пустках два тыдні. Напрыканцы тыдня, калі запланаваная праца была перароблена і трэба было вяртацца, хлопец падвярнуў нагу. Так моцна выкруціў галенаступаковы суглоб, што хадзіць не мог. Прадуктаў у яго амаль не засталося. Браў жа на тыдзень. Давялося яму забіць і з’есці Рудога сабачку. Той з’явіўся ў першы дзень. Хлопец прыйшоў у закінуты інтэрнат, а там каля брамы яго сустрэў Руды сабачка. Хлопец сабачку карміў цэлы тыдзень, а калі падвярнуў нагу і паўстала праблема з прадуктамі, ён задушыў сабачку, зварыў і з’еў. Хлопец сам усім і расказаў пра Рудога сабачку з Пустак. Тады сабакаеда нехта і назваў Кітайцам. Той нехта хацеў сказаць «карэец», а сказаў «кітаец». Мяно прыляпілася. Усе цяпер называюць яго Кітаец. Дарэчы, дом адпачынку ў Пустках не пабудавалі, палічылі, што нерэнтабельна. Ну і каму з нашых людзей захочацца адпачываць у месцы, дзе розныя Кітайцы ядуць добрых сабак?

## ЧОРНЫ МЯДЗВЕДЗЬ

Некалі даўно непадалёк ад мястэчка Койданава стаяла невялікая вёска Бязводніца. Вакол вёскі рос лес, які называлі і цяпер яшчэ называюць Бязводніцкі. У той лес мужчыны з Бяз-

водніцы хадзілі на паляванні. То зайцоў упалююць, то дзікіх качак настраляюць, то якую казулю зловяць. Усе мужчыны ў Бязводніцы былі выдатнымі паляўнічымі, акрамя Лукаша. Той на паляванні хадзіў, але нічога з лесу не прыносіў. Аднавяскоўцы пачалі кпіць і насміхацца з Лукаша. Пачалі праганяць яго з вячорак. На танцы Лукаша не пускалі. Ён азліўся. Хадзіў у лес кожны божы дзень, ажно пакуль не знайшоў там мядзвежы бярлог. Лукаш падумаў, што адзін не заб'е звера. Вярнуўся ў вёску і паклікаў мужчын. Усёй вёскай мядзведзя таго забілі, прынеслі на пляц пад клуб і пачалі дзяліць. Першы кавалак павінен быў узяць Лукаш. Ён і ўзяў сабе мядзвежы хвост. Зварыў яго на вячэру і з'еў з моцным хрэнам. Пасля той вячэры твар Лукаша пачаў абрастаць поўсцю, і ў хуткім часе замест чалавечай галавы на мужчынскіх плячах сядзела галава мядзвежая. Бязводніца і так не любіла Лукаша, а з мядзвежай галавою яго ўсе проста ўзненавідзелі і гналі ад сябе. Лукаш моцна пакрыўдзіўся на аднавяскоўцаў і сышоў жыць у Бязводніцкі лес. Там ён увесь аброс звярынай поўсцю і зрабіўся Чорным мядзведзем. Бязводніцкія мужчыны высачылі Чорнага мядзведзя і паспрабавалі застрэліць, але не пацэлілі. Мядзведзь раз'юшыўся і пазабіваў усіх паляўнічых. Ён і астатніх вяскоўцаў з Бязводніцы пазабіваў бы, але яны кінулі хаты і перабраліся ў Койданава. У мястэчка Чорны мядзведзь не пайшоў, вярнуўся ў Бязводніцкі лес, дзе і сёння есць мёд дзікіх пчол.

# БЕЛАЯ ПТУШКА

Ядзю выдалі замуж у пасёлак Гулевічы. Выправілі з Койданаўшчыны на Капыльшчыну. Здаецца — не такі і далёкі свет, але ў ім Ядзі не жылося. Вада не смачная, сонца нізкае, маліны горкія. Усё не так, як трэба. Ядзя нарадзіла дачку Яню. Думала: будзе глядзець дзіця, будзе гаспадарку весці, будзе мужа любіць, і ўсё паціхупатроху прытрэцца і адладзіцца. Не адладзілася. Муж з'ехаў ваяваць і прапаў. Першым разам паехаў на польскую вайну, каб нашу Беларусь аб'яднаць. Другім разам пайшоў на фінскую, каб справядлівасць у свеце пашырыць. Трэцім разам выправіўся на нямецкую, дзе і прапаў без знаку і следу. Засталася Ядзя з Яняю ў чужым пасёлку. Яня нібыта і добра жыла, не нудзілася, як маці, бо не ведала іншага свету, акрамя Гулевічаў. Так бы і жыла, каб не дзіцячыя спаборніцтвы. Пашлі дзеці ў ягады і вырашылі паглядзець, хто больш набярэ. Яня назбірала чарніц больш за ўсіх. Пайшлі ў грыбы, дык і тут Яня нарэзала баравікоў кош з каптуром. У арэхі пайшлі, дык і там Яня нарвала арэхаў ажно два кашы — як панесці. Дзеці азліліся на Яню. Пачалі казаць, што яна — чужая, што з прыхадняў. Нават гаварылі, што прозвішча яе маці брыдкае — Макоўская, а ўсе Макоўскія — ведзьмакі і вядзьмаркі. Казалі яшчэ, што не сама Яня збірала арэхі, грыбы і ягады, а ёй чэрці іх папрыносілі. Стала малой Яні, як і вялікай Ядзі, кепска жыць у варожых Гулевічах. Пачала Яня збіраць белыя птушыныя пёры, назбірала шмат і звязала з пёраў і вяровак вялікую Белую птушку. Чароўная птушка павінна была перанесці Ядзю і Яню

з Гулевічаў у Койданава. Птушка сказала, што ў яе слабыя крылы і яна не зможа так далёка паляцець, але, калі Яня зробіць ёй добрыя драўляныя ногі, яна паспрабуе дабегчы з Гулевічаў да самога Койданава. Яня зрабіла Белай птушцы ногі з ядлаўцовых калкоў, і тая занесла жанчыну і дзяўчынку ў Койданава, дзе іх сустрэлі і прынялі родныя людзі.

## РУДЫ ПЕВЕНЬ

Так бывае, што жанчына народзіць дзіця, а глядзець не хоча. У мястэчку нашым была такая Маня Нарко. Нарадзіла сабе хлопчыка, а глядзела яго кепска, карміла цыцкай — абы не плакаў. Замест мяккіх пялюшак загортвала дзіця ў старыя спадніцы. Аднаго разу загарнула Маня свайго Петруся ў брудную спадніцу. Той перапэцкаўся з ног да галавы ў жаночую кроў і аброс рудымі пёрамі. Стаў Пятрусь замест хлопчыка Рудым пеўнем і пабег-паляцеў праз Койданава. Убачыла Чырвонага пеўня дзяўчынка Валянцінка Латышонак. Пабегла за ім і злавіла яго. Злавіўшы, схавала ў хляве. Руды певень толькі ўдзень быў пеўнем, а ўночы ён скідаў пёры і рабіўся прыгожым рудавалосым хлопцам. Валянцінка пачала жыць ды забаўляцца з рудым хлопцам і неўзабаве зацяжарыла. Бацькі Валянцінкі старыя Латышонкі хацелі былі засячы Рудога пеўня, але перадумалі, адно скралі і спалілі ягоныя пёры. З таго часу Руды певень назаўжды застаўся ў чалавечым абліччы, і ад яго пайшоў у Койданаве род Рудкевічаў-Петухоўскіх.

## ШЭРЫ ВОЎК

Зноў пачалася сусветная вайна. Мужчынам з Койданава давялося ісці ваяваць. Попел пайшоў, і Ладаўшчук пайшоў, і Александровіч пайшоў. Доўнар не пайшоў. Паказаў усім пераламаную руку. Куды ты са зламанай рукою на вайне сунешся? Камісавалі Доўнара. Ён узрадаваўся і пайшоў да жонкі Попела, што засталася ў хаце адна. Тая не захацела любіцца з Доўнарам. Ён узяў збіў ды згвалціў яе. Пакуль Попел ваяваў, Доўнар гвалтаваў ягоную жонку. Гвалціў, бо думаў — застанецца беспакараны, думаў — Попел на вайне загіне, як загінуў Александровіч ды загінуў Ладаўшчук. Толькі Попел не згінуў на вайне, ён вярнуўся ў Койданава, дзе даведаўся ад уласнай жонкі пра збіццё і гвалт. Ад злосці і гаркаты Попел зрабіўся зверам — Шэрым ваўком. Ён пабег да Доўнара і парваў яго. Вырваныя вантробы параскідаў у гародчыку. Адгрызеную галаву выкаціў на вуліцу, пакаціў і закінуў у калодзеж. Той калодзеж давялося закапаць.

## РУДЫ МЯДЗВЕДЗЬ

Жыла некалі ў Койданаве крывацелая Ліда Богуш. Гарбаценькая Ліда была злой і помслівай. Вядома, з яе насміхаліся. Дзеці з Ліды смяяліся, і дарослыя ў бок крывой Ліды кідалі дурнаватыя жарты. Каб схаваць слёзы і злосць, Ліда сама з тых няўклюдных жартаў гучна рагатала. Ліда Богуш так рагатала, што ад таго рогату ў людзей ажно скура шэрхла. Нібыта гэта рагатала не

маленькая, пакрыўджаная прыродаю жанчына, а сам д'ябал у ёй рагатаў. Была ў Лідзе Богуш д'яблава моц. Праявілася яна ў тым, што Ліда звязала сабе з розных ваўняных нітак Рудое медзведзяня. Той мядзведзь быў маленькі, але пачаў шмат есці і хутка расці. Ліда працавала прыбірачкай у цырульні і карміла свайго Рудога сябрука выключна адной стравай — чалавечымі валасамі. Неўзабаве мядзведзь вырас у памер чалавека і пачаў выконваць загады сваёй гаспадыні. Загады былі страшныя. Спярша Ліда загадала мядзведзю задушыць дырэктара цырульні, бо той скоса зірнуў на крывую прыбірачку. За дырэктарам цырульні на койданаўскія могілкі панеслі хірурга Гладкевіча, бо адмовіўся выпрамляць нос на твары гарбатай Богуш. А там як пайшло, як панеслася... Руды мядзведзь задушыў чалавек з дзесяць. Задушыў прыгажуню Антаніну Сушу, прыгажосці якой Ліда зайздросціла. Задушыў Зосю Вечар, бо пякла самыя смачныя ў мястэчку пірагі. Задушыў электрыка Вольскага, бо напіўся і не прыйшоў да Ліды падключаць новы тэлевізар. Руды мядзведзь увайшоў у смак і задушыў саму гарбатую Ліду Богуш. Задушыў безнагодна. Застаўшыся без гаспадыні, звер вырашыў, што яму больш няма чаго рабіць у нашым мястэчку, і сышоў у лес, які завецца Рыжаўка.

## СІНІ СОМ

Жыў у мястэчку Койданава рыбак Ціма Кмен. Розум меў плыткі, таму сядзеў вартаўніком на рамбазе. Вольны ад вартавання час

Ціма пускаў на рыбу. Лавіў круглы год. Лавіў па-рознаму. Нават рукамі лавіў. Таму Кастусь Валахановіч не вельмі здзівіўся, што Ціма вырашыў вялікага Сіняга сама схапіць рукамі. Сіні сом падплыў пад самы бераг. Ціма як стаяў у ватоўцы на беразе возера, так у ватоўцы і кінуўся на рыбіну. Рыбак абхапіў рыбіну рукамі, каб на пясок выцягнуць, а рыбіна пачала рыбака ў возера цягнуць. Ціма Кмен сышоў пад ваду разам з Сінім сомам. Пад вадою ён спрабаваў рукі ад сама адарваць, ды не змог. Зацягнула рыбіна рыбака ў глыбокую яміну. Валахановіч пабег па мястэчку, сабраў людзей, каб ратавалі ды выцягвалі Ціму Кмена. Не ўратавалі, не выцягнулі і наогул не знайшлі. Тры ночы і тры дні прашукалі, ды ўсё марна. Вырашылі, што нашага дурня рыбака Сіні сом утапіў, а ракі яго зацягнулі пад карчы ды там з'елі. Карацей, кінулі шукаць, а каб паставіць кропку ў сумнай справе, закапалі ў зямлю труну з новым касцюмам і пірамідку над ёй паставілі. Жыў-быў і патануў у возеры рыбак Ціма Кмен. На хаўтурах поўна налівалася і добра выпівалася. Жыццё паплыло далей. Ніхто і думаць не думаў, што ў той плыні ўсплыве жывы Ціма Кмен. Усплыў. Сіні сом зацягнуў Ціму ў цёмную яміну, дзе пасвіліся душы мёртвых самоў. У царстве мёртвай рыбы Ціма прагасцяваў ажно тры тыдні, а потым Сіні сом вывез яго на бераг Койданаўскага возера. Ціма пайшоў да Валахановіча і моцна яго напужаў. Вядома — нябожчык з пекла вярнуўся! Валахановіч паказаў Кмену ягоную яшчэ свежую магілу з пірамідкай, вянкамі і партрэтам. Кмену магіла спадабалася, і ён

вырашыў пачаставаць добрых людзей, што аплаквалі яго — дурнога рыбака. На пачастунак назбіралася мужчын з дзесяць. Пілі, закусвалі, слухалі апавяданне пра Сіняга сама і царства мёртвай рыбы. Потым мужчыны пачалі насміхацца з дурнога Цімы. Які Сіні сом? Якая мёртвая рыба? Якое царства? Ціма Кмен затрапятаўся, кінуўся да мужчын біцца. Тыя яго пакацілі і затаўклі. Калі розум пакрысе вярнуўся ў ачмурэлыя галовы, забойцы вырашылі магілу Цімы Кмена з пустой зрабіць поўнай. Зрабілі. Нават у новы... амаль новы касцюм рыбака Ціму апранулі.

## ЧЫРВОНЫ ПЕЎНІК

Раман Радзюк адчыніў на пристанцыйным пляцы шынок «Чырвоны пеўнік». У сваім шынку Радзюк разліваў гарэлку, наразаў хлеб з салам і прадаваў дзецям чырвоных цукровых пеўнікаў на грушавых палачках. І той, хто прыязджаў у Койданава, і той, хто з’язджаў з Койданава, не абміналі гасцінны шынок. Некаму падабаліся Чырвоныя пеўнікі, нехта браў канапку з салам, а хтосьці замаўляў поўную чарку. Справы ў шынку ішлі добра, яны б яшчэ лепей пайшлі, каб не паліцаі. Нахабныя паліцаі абклалі Радзюка падаткам і штовечар забіралі большую частку зробленага. Раман год трываў нахабства, потым не вытрываў і з двухстволкі прыстрэліў трох паліцаяў проста пасярод прыстанцыйнага пляца. Кінуўшы стрэльбу побач з трупамі, Раман перайшоў чыгунку і зайшоў у лес. Ён ішоў па лесе і смактаў Чырво-

нага пеўніка. Калі ў роце засталася адна грушавая палачка, Раману Радзюку надакучыла чалавечае аблічча, і ён стаў мядзведзем.

## МОГІЛКАВЫ КРОТ

Грудкі зямлі, панасыпаныя кратом на траве, я ніколі не ўспрымаў як магільныя курганы. Зрэшты, я ніколі тых кратовых грудкоў не бачыў на могілках. Краты мне трапляліся на палях, у садах, у лесе, але на могілках я пабачыў іх упершыню. Пабачыў і адразу сабе ўявіў крата-далакопа з маленечкай рыдлёвачкаю. Такі Могілкавы крот мог бы капаць неглыбокія ямы, каб у іх хаваць розных пацукоў, мышэй і катоў. «Ты памыляешся!» — пачуўся нечы голас, і я пабачыў Могілкавага крата, які вылазіў на вяршыню свежага грудка. Спалохацца я не спалохаўся. Крот хай сабе і чароўны, але занадта малы, каб мяне моцна напужаць сваім пісклявым галаском. «Я цябе не збіраюся палохаць, і ямы на могілках я не капаю. У мяне іншая служба. Перадаю весткі ад жывых да мёртвых і ад мёртвых да жывых. Праца складаная, але ганаровая. Яе спрабавалі рабіць і мышы, і пацукі, і каты, але ў іх не хапіла здольнасцяў пракапаць правільны тунэль у свет мёртвых. Дарэчы, твой тата-нябожчык шле табе прывітанне. Збольшага ён задаволены, як ты працуеш з ягонай спадчынай. Калі ёсць жаданне, можаш нешта перадаць яму, толькі ў такой справе не трэба быць шматслоўным». На могілках стаяла па-сапраўднаму мёртвая цішыня. Могілкавы крот пазіраў на мяне падслепаватымі вочкамі

і чакаў. «Скажы, каб наш бацька не спяшаўся да сябе забіраць нашу маці!» Крот хітнуў аксамітнай галавою і прапаў. Хто б мне што ні казаў, а пасланне маё да таты дайшло. Пасылаў я яго ажно тры тыдні таму, а гэтыя тры тыдні наша хворая маці ўсё яшчэ з намі...

## ЧОРНЫ ВОЎК

Адзін з койданаўскіх ведзьмароў з самай маладосці насіў чорную бараду. Калі валасы на галаве пачалі сівець, дык барада ўсё адно заставалася густой і чорнай. Паціху вядзьмар ссівеў, згорбіўся, састарэў, і яму зрабілася сумна жыць аднаму ў вялікім садзе ды высокім доме. Каб не ссумавацца зусім, чорнабароды дзед з'ездзіў у інтэрнат для сіротаў ды прывёз сабе светлагаловага юнака. Юнак той меў казачную прыгажосць, і ўсё койданаўскія дзяўчаткі ў яго закахаліся. Звалі юнака Карусём, і быў той Карусь крыху як не ў сабе. Кажучы прасцей, Карусік быў прыгожатварым дурнем. Койданаўскія дзяўчаты як толькі разгледзілі дуроту, дык і адвярнуліся ад Каруся. Адвярнуліся ўсе, акрамя Алы Бурак. Ала бачыла за Карусікам скарбы чорнабародага ведзьмара. Ёй хацелася жыць у высокім доме, жадалася гуляць у вялікім садзе і праглася мець за мужа прыгажуна, хай сабе і малаpазумнага. Ала пачала бегаць за Карусём. Яму падабарася разумная Ала. Так падабалася, што ён расказаў ёй страх пра свайго прыёмнага бацьку — чорнабародага ваўкалака... У ночы з поўняй чорнабароды ідзе ў лес, дзе скача цераз павалены

ветрам і абпалены маланкаю дуб. Пераскочыўшы дубовы камель тройчы і тройчы сказаўшы «воўк», чорнабароды ператвараецца ў Чорнага ваўка. У воўчай скуры ён гойсае па вёсках, лазіць па хлявах ды гумнах. Там рэжа авечак і парсючкоў. Наеўшыся свежага мяса, ваўкалак вяртаецца да дуба і скача цераз яго. Замест «воўк» ён тройчы кажа «чалавек» і робіцца старым койданаўскім ведзьмаром. Ала не адразу паверыла дурнаватаму Карусю. Тады ён павёў яе да дуба, тройчы пераскочыў цераз камель і ператварыўся ў Чорнага ваўка. Калі ён скочыў, каб вярнуцца ў чалавечае аблічча, дык зламаў лапу. Скалечанага Чорнага ваўка Ала прынесла ў дом да ведзьмара. Там звер адляжаўся, і зламаная лапа зраслася ды загаілася. Калі вылекаваны Чорны воўк тройчы скочыў цераз дуб і тройчы сказаў «чалавек», сам ён стаў Карусём, а ягоны прыёмны тата раптоўна памёр. Вялікі сад і высокі дом перайшлі да Каруся і ягонай жонкі Алы. Паціху наша мястэчка пачало забываць свайго старога чорнабародага ваўкалака, і калі яго амаль забылі, усе заўважылі, што Карусь запусціў бараду, а барада тая чорна-чорная.

## АВЕЧЫ СЫН

У Леапольда Бірулі з вёскі Старая Рудзіца авечка нарадзіла хлопчыка. Леапольд жыў бабылём і дзяцей не меў, але вырашыў пакінуць хлопчыка сабе і выхоўваць, як роднага сына. Назваў ён хлопца Янам і гадаваў паціху. Ніхто ніколі не казаў авечаму сыну, што ён — авечы

сын. Леапольд пільна сачыў, каб Янка не пакаштаваў бараніны, бо здагадваўся, што дабром такое каштаванне не скончыцца. Аднойчы Ян забег да сябрука Франца Галавача. Сям'я Галавачоў якраз вячэрала, елі дранікі з лоем. Спакуслівы дух дранікаў напаўняў хату. Зразумела, Галавачы запрасілі суседскага хлопца за стол і пачаставалі дранікам, памазаным барановым тлушчам. Як толькі Ян праглынуў кавалак драніка з лоем, дык увобмільг стаў бараном. Таго барана-Яна напалоханыя Галавачы адвялі да бабыля Бірулі. Той паставіў яго ў гумне, дзе баран пражыў ажно сорак тры гады і сканаў у адзін дзень з гаспадаром Леапольдам, які ставіўся да яго добра, як да роднага сына.

## БЛАКІТНАЯ ЖАБКА

Некалі даўно, яшчэ за царскім часам, жыў у Мінску настаўнік спеваў Браніслаў Савік. Меў ён вялікую таямніцу — мог з чалавека перакінуцца ў птаха, у Чорнага бацяна. У крылатым абліччы Савік уздымаўся ў высокае неба, рабіў вялікія кругі над горадам, потым апускаўся ў свой сад, хаваўся за хлеў і там перакідваўся ў звычайнага мінчука. Аднаго разу, калі Чорны бацян апускаўся ў сад, ён заўважыў на суседскім падворку Блакітную жабку. Бацян апусціўся на зямлю каля жабкі і з'еў яе. Праз некалькі дзён увесь Мінск шукаў і не мог знайсці Ліду Пякарскую, што жыла па-суседстве з настаўнікам Савікам. Маладая дзяўчына прапала, як і не было. Яе шукалі-шукалі і не знайшлі. Браніслаў

здагадаўся, што гэта ён сам і праглынуў Ліду, калі яна перакінулася ў Блакітную жабку. Здагадацца ён здагадаўся, але нікому нічога не казаў. Ён маўчаў праз усё жыццё і толькі на перадсмяротнай споведзі распавёў маладому ксяндзу пра сябе — бацяна і пра Блакітную жабку — Ліду Пякарскую. Ксёндз, вядома, не пераказваў таямніцу жабкі і птаха, але ягоная прыбірачка Маня Собаль разнесла гісторыю пра незвычайнае па ўсім нашым Мінску.

## ЗАЛАТЫ ЛАНЦУГ

На ўскрайку леса расла груша-дзічка. Юнак Венедзікт Камар любіў яе з дзяцінства. Увосень Камар збіраў цвёрдыя круглыя грушкі і сушыў, каб узімку варыць з іх салодкі і духмяны кампот. Пасярод лета надвячоркам Венедзікт праходзіў каля любімага дрэва і пабачыў на ім пяць вялікіх, як бэры, залатых груш. Камар не стрымаўся і кійком пазбіваў залатыя грушы. Ён жа і ведаць не ведаў, што пяць тутэйшых русалак набылі спакуслівае аблічча вялікіх груш. На зямлі пазбіваныя грушы зноў парабіліся русалкамі. Адна схапіла юнака за левую нагу, другая — за правую, трэцяя ўчапілася ў правую руку, чацвёртая — у левую, а пятая русалка абхапіла тулава. Русалкі ўзнялі свайго новага жаніха ў паветра і панеслі да возера. Юнак паспрабаваў быў вырывацца, але не змог. Ён пачаў крычаць, але русалкі спрытна набілі яму ў рот травы. Свайго палонніка русалкі зацягнулі на дно Камсамольскага возера і там пасадзілі на Залаты ланцуг. Палонны Камар папрасіў бабра, каб той схадзіў

у горад, знайшоў Камаровага ката і расказаў пра русалак ды Залаты ланцуг. Кот, пачуўшы пра прыкутага гаспадара, доўга не думаў, схапіў нажоўку і прыйшоў з бабром на бераг возера. Бабёр перадаў пілу палоннаму Венедзікту. Той перапілаваў сталёвы абруч, да якога мацаваўся Залаты ланцуг. Разам з каштоўным ланцугом Венедзікт Камар уцёк з русалчынага палону. Ланцуг ён выгодна прадаў. На атрыманыя грошы Камар набыў кватэру ў самым цэнтры сталіцы на праспекце Незалежнасці, дзе і цяпер жыве-пажывае са сваім разумным катом.

## РУДЫ КОТ

Мінскія школьнікі, як і ўсе хлопчыкі на свеце, любілі ў час летніх канікулаў хадзіць на рыбу. На рэчцы яны спрытна выцягвалі з-пад вады акунькоў, сліжоў ды плотак, на возеры — карасікаў. У адно лета да мінскія рыбакоў пачаў падыходзіць вялікі Руды кот. Ён ласкава муркатаў, і хлопцы кідалі яму маленькую рыбку. Кот глынаў маленькую рыбу і вырастаў да памераў школьніка-старшакласніка. Вялізны кот з'ядаў усё злоўленае дзецьмі і сыходзіў у лес. Чутка пра Рудога ката-ненажэру абляцела нашу сталіцу і даляцела да вушэй кульгавага ведзьмара Дулубы. Той Дулуба сабраў хлапцоў са сваёй вуліцы і пакульгаў з імі на возера. Не паспелі рыбакі выцягнуць з вады і кінуць у бідончыкі першых карасікаў, як да іх падбег Руды кот і пачаў ласкавае муркатанне, выпрошваючы сабе пачастунак. Дулуба кінуў кату ладнага карася, пакуль той яго жэр, вядзьмар выцягнуў і кінуў кату дру-

гога велікаватага карасіка. Кот жэр карасёў, а Дулуба лавіў іх і кідаў ненаеднаму зверу. Кот вырас да памераў шапіка, які стаяў у скверы і ў якім тутэйшыя дзеці куплялі марозіва. Здавалася, што Руды кот і далей будзе жэрці ды расці. Падавалася, што ён вырасце да памераў кінатэатра «Масква». Не вырас. Нарэшце кот не змог з'есці чарговага кінутага ведзьмаром залатабокага карася. Тады Дулуба падышоў да раздзьмутай жывёлы і сякануў яе вудзільнам. Кот скалануўся і рассыпаўся па зялёнай траве залацістым пылком.

# ЗМЕСТ